

***Выпускніца СШ № 8 г. Ліды 2022 г. Настасся Більдзь атрымала на цэнтралізаваным тэставанні 100 балаў па беларускай мове, матэматыцы і фізіцы плюс атэстат 10 балаў (раўняецца 100 балам на тэставанні). Разам 400 балаў - абсалютны рэкорд***

# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3-4 ( 99-100) ЛІПЕНЬ - СНЕЖАНЬ 2022 г.


## У НУМАРЫ:



**На першай старонцы вокладкі: Эскіз фасада Лідскай ратушы, створаны Лідскім БТІ.**



? * Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: kajety@list.ru

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**


**Выдаецца ў адпаведнасці з п. 7.4 артыкула 13 ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ “Аб сродках масавай інфармацыі” ад 17 ліпеня 2008 г. № 427-3**

Выдавец:
**Прыватнае ўнітарнае прадпрыемства “Пружмень”**

Рэдактар:
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, г. Ліда, вул. Лётная, 7 а.**
**АДРАС САЙТА:**
**http// nslowa.by**

**Наклад 150 асобнікаў**
**11,5 друк. аркушаў**

**Часопіс падпісаны да друку 30.12.2022 г.**

**Часопіс надрукаваны 28.02.2023 г. у Лідскай друкарні: 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**

**Замова № 240.**

ISSN 2218 – 1792






# Абітурыентка з Ліды здала тры ЦТ на 100 балаў

Настасся Більдзь, выпускніца сярэдняй школы № 8 г. Ліды, скончыла 11 класаў з сярэднім балам атэстата 10. На цэнтралізаваным тэставанні дзяўчына здавала беларускую мову, матэматыку і фізіку. Па кожным з прадметаў набрала найвышэйшы бал.

Першым было ЦТ па беларускай мове.

- На 100 балаў ЦТ па беларускай мове напісалі 67 чалавек, - паведаміў дырэктар Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў Юрый Міксюк. Летась на ЦТ па гэтым прадмеце было 40 стобальнікаў.

Адразу чатыры выпускніцы ўстаноў адукацыі Клецкага раёна зарабілі 100 балаў з 100 магчымых на цэнтралізаваным тэставанні па беларускай мове, напісаў тэлеграм-канал Міністэрства адукацыі.

Найвышэйшы вынік на ЦТ па беларускай мове атрымала і вучаніца СШ № 8 г. Ліды Настасся Більдзь.

Педагог - **Наталля Казіміраўна Яцкевіч**.

Атрымаць 100 балаў па гэтым прадмеце было для Насці вялікай нечаканасцю. Бо дагэтуль таленавітая вучаніца паказвала выдатныя веды ў дакладных навуках. Так, у 9-м класе, на абласным этапе рэспубліканскай алімпіяды па навучальных прадметах Насця заваявала дыплом трэцяй ступені па фізіцы. Праз год заняла другое месца ў вобласці і трэцяе - на рэспубліцы па матэматыцы, і стала другой па фінансавай пісьменнасці сярод юных знаўцаў Гарадзеншчыны.

Бліскучы поспех у цэнтралізаваным тэставанні па беларускай мове ўсцешыў не толькі саму абітурыентку, але і яе бацькоў. Застаецца дадаць, што веды, прадэманстраваныя лідзянкай у ЦТ - вынік карпатлівай працы: на працягу двух гадоў Настасся дадаткова наведвала факультатыўныя заняткі пад кіраўніцтвам школьнага настаўніка і класнага кіраўніка Наталлі Яцкевіч.






Поспех адоранай вучаніцы па беларускай мове - гэта яшчэ не ўсе дасягненні Насці. Неўзабаве сталі вядомыя вынікі ЦТ па матэматыцы. У ліку стабальнікаў ізноў лідзянка, і гэта зноў... Настасся Більдзь, а выкладала матэматыку Насці настаўніца **Жанна Бурнос**.

Трэцця 100 балаў Насця атрымала па фізіцы.

- Гэта было вельмі нечакана. Я сапраўды ўсё змагла, і ў мяне атрымалася. Сёння мне споўнілася 17 гадоў, і навіна пра чарговыя 100 балаў на ЦТ стала своеасаблівым падарункам, - сказала Настасся Більдзь.

- Наша дзяўчынка проста выдатная. Мы вельмі радыя яе дасягненням і вынікам. Яна вельмі старанная, адказная, з ёй вельмі лёгка. Так атрымалася, што ў Насці сёння дзень нараджэння, і паведамленне, што яна атрымала на апошнім ЦТ па фізіцы 100 балаў, прыйшло як раз сёння. Таму эмоцыі проста перапаўняюць, - падзялілася мама Настассі Алена Більдзь.

Радасцю дзеляцца і сяброўкі Настассі, якія прыйшлі да яе на дзень нараджэння.

- Насця вельмі разумная, добрая і спагадная, заўсёды прыйдзе на дапамогу. І пры гэтым яна вельмі сціплая. Сёння нават не напісала нічога пра свой вынік (я дазналася пра гэта толькі цяпер). Вельмі радая за яе, яна шмат працавала. Матэматыка і фізіка ёй, вядома, даюцца лягчэй, чым мова, але ўсё адно гэта яе велізарная праца, - сказала сяброўка дзяўчыны Вікторыя Каранюк.

- Зараз за паступленне, - кажа Насця, - зусім не трывожна. Мэта - спецыяльнасць "Інфарматыка і тэхналогіі праграмавання" ў БДУІР - будзе дасягнута.

***Паводле СМІ.***

# Лідчына матэматычная

У 2022 годзе найбольш паспяховым прадметам для выпускнткоў лідскіх школ аказалася матэматыка.

**Настасся Більдзь**, выпускніца сярэдняй школы № 8 г. Ліды атрымала 100 балаў па беларускай мове, а пасля сталі вядомыя вынікі ЦТ па матэматыцы. У ліку стабальнікаў ізноў лідзянка, і гэта зноў... Настасся Більдзь! Трэба сказаць, што атрымаць максімальны вынік па ЦТ двойчы да гэтага ў Лідскім раёне яшчэ нікому не ўдавалася, а выкладала матэматыку Насці настаўніца **Жанна Бурнос**.

Пазней Насця атрымала яшчэ 100 балаў і па фізіцы.



Як стала вядома далей, цэнтралізаванае тэставанне па матэматыцы на 100 балаў у Беларусі напісалі 105 абітурыентаў. Заўважым, што ў іх ліку акрамя Насці Більдзь - выпускніца лідскай сярэдняй школы № 9 **Эвяліна Таращчык** і выпускніца гімназіі № 1 горада Ліды **Аляксандра Рудовіч.**

ЦТ па рускай мове **Эвяліна** здала на 83 балы, аднак, у тым, што набярэ найвышэйшы бал па матэматыцы, дзяўчына была проста ўпэўнена: задачы, якія трапілі падчас выпрабавання, ёй здаліся нескладанымі. А ўсё дзякуючы таму, перакаиана лідзянка, што ў свой час ёй трапіўся выдатны настаўнік - **Таццяна Кавалёва**, якая і прышчапіла сваёй вучаніцы любоў да прадмета. У выніку, апошнія гадоў пяць вучобы Эвяліна актыўна ўдзельнічала ў алімпіядным руху, у раённых этапах якога неаднаразова займала прызавыя месцы.



**Аляксандра Рудовіч** перакаиана: велізарная доля поспеху ў здачы ЦТ належыць яе настаўніку, Выдатніку адукацыі Рэспублікі Беларусь **Віктару Даўляшэвічу**.

Менавіта таму адным з першых, з кім абітурыентка паспяшалася падзяліцца радаснай навіной па тэлефоне, быў педагог. Максімальнаму выніку сваёй вучаніцы Віктар Казіміравіч таксама быў вельмі рады, як, зрэшты, і 100 балам двух іншых лідзянак, якія таксама як і Аляксандра наведвалі гарадскую алімпіядную школу, што працавала пры гімназіі пад яго кіраўніцтвам.



Застаецца дадаць, што ўзмоцнена рыхтуючыся да цэнтралізаванага тэставання, Аляксандра імкнулася раўнамерна размяркоўваць нагрузку: хоць і шмат часу праводзіла за падручнікамі, аднак і пра адпачынак не забывала, дазваляючы сабе штодзённыя шпацыры на свежым паветры.

***Лілея Лапшына.***

# Лідчына хімічная



***Сафія Цеста***



***Юлія Юркевіч***

Яшчэ два абсалютныя выніки па цэнтралізаваным тэставанні ў Лідскім раёне належаць выпускніцам сярэдняй школы № 17 **Юліі Юркевіч** і **Сафіі Цеста**. Дзяўчаты набралі 100 балаў па хіміі. І Юлія, і Сафія аддавалі шмат часу падрыхтоўцы да выпрабаванняў, наведвалі дадатковыя заняткі і алімпіядную школу, і таму, мабыць, заданні цэнтралізаванага тэставання лідзянкам здаліся нескладанымі.




***Святлана Губейка***

Абедзве стабальніцы займаліся ў аднаго і таго ж педагога - **Святланы Губейкі**. Юлія Юркевіч пяць гадоў удзельнічала ў алімпіядным руху і ўвесь час была ў ліку пераможцаў раёна і вобласці, а летась узяла дыплом трэцяй ступені ў заключным - рэспубліканскім - этапе. Сафія два гады запар уваходзіла ў тройку наймацнейшых "хімікаў" Лідчыны.

Дзяўчаты ўдзячныя свайму настаўніку Святлане Андрэеўне, якая падрыхтавала, дарэчы, ужо чацвярых стабальнікаў па хіміі.

***"Лідская газета"***

# Унікальны скарб знайшлі "чорныя капальнікі" на Лідчыне

Калекцыю срэбраных прадметаў, пакрытых пазалотай, знайшлі ля вёскі на поўнач ад Ліды. Гэта рэчы, якія, верагодна, пакінулі па сабе готы: вайсковыя трафеі, выраблены на тэрыторыі позняй Рымскай імперыі: у II-IV стагоддзях нашай эры.

Калекцыя прадметаў была знойдзеная так званымі "чорнымі капальнікамі" некалькі год таму. Зараз артэфакты знаходзяцца на тэрыторыі Еўрасаюза ў прыватнай калекцыі. Уласнік дазволіў адфатаграфаваць і апісаць рэчы, але не збіраецца ў найбліжэйшай перспектыве вяртаць іх у Беларусь.

Праблема ў тым, што не ўсе прадметы ўдалося захаваць. Апроч срэбраных рэчаў, капальнікі знайшлі некалькі залатых прадметаў, якія… здалі на лом каштоўных металаў. Гучыць жудасна, але атрымалася менавіта так. Апроч гэтага, быў знойдзены срэбраны дэнарый Марка Аўрэлія (імператар Рыма ў 161-180 гадах). Ён застаўся на руках у асобаў, якія знайшлі скарб.

**Што ўяўляе з сябе скарб?**

Гэта дзесяць прадметаў, зробленых са срэбра. Накладкі, фібула і прадметы нявызначанага функцыяналу. Найбольш характэрны артэфакт мае на сабе антрапаморфную выяву чалавека і пачвары (цмока?..). Магчыма, гэта міфалагічны сюжэт. Цікава, што чалавек і пачвара выяўленыя максімальна схематычна, але профіль мужчыны - даволі дакладны. Магчыма, яго "перамалёўвалі" з манетаў часоў Рымскай імперыі.

Усе прадметы пакрытыя пазалотай. Што гэта магло быць? З вялікай верагоднасцю - дэталі даспеха або рытуальнай маскі. Нешта падобнае насілі правадыры варварскіх плямёнаў ды высокія рымскія афіцэры. Зразумела, падобныя рэчы не мог сабе дазволіць звычайны чалавек.

Безумоўна, скарб патрабуе больш дэтальнага вывучэння. Разам з тым уласнік палічыў, што варта даць інфармацыю пра знаходку, каб яна была ў навуковым ужытку.







На жаль, нават самыя ўнікальныя матэрыялы, знойдзеныя падчас "чорных" раскопак, у навуцы выкарыстоўваць складана, паколькі для археолагаў-навукоўцаў не меншую важнасць за самі знаходкі маюць самі абставіны яе выяўлення, той кантэкст, у якім штосьці знайшлося: культурны пласт, склад скарбу з дэталёвым апісаннем і г. д. Можа мець значэнне і размяшчэнне прадметаў, і што знаходзілася каля іх. "Чорныя капальнікі" звычайна не складаюць навуковых апісанняў знаходак, а рэчы, вырваныя з кантэксту, фактычна для навуковага асэнсавання страчаныя, нават калі прадметы самі па сабе патэнцыйна надзвычай цікавыя. Менавіта ў гэтым галоўная шкода "чорнага капальніцтва".



Некалі скарб вернецца ў Беларусь, а пакуль - можам хаця б на фота ацаніць фантастычныя прадметы, якія былі "на руках" у нашых продкаў больш за 1500 год таму.

***Паводле Алеся Кіркевіча.***

# Наваготнія казкі, дзённік гімназісткі, птушыны алфавіт…

## *5-ты літаратурны конкурс імя Веры Навіцкай*

*Гэта і многае іншае дарослыя творцы падрыхтавалі для дзяцей у адыходзячым годзе*

*Гучалі вершы для дзяцей, уручаліся дыпломы і падзячныя лісты, прэзентаваліся кнігі, іграў акардэон… 154 снежня ў канферэнц-зале Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы адбыліся ўрачыстае падвядзенне вынікаў і ўзнагароджанне пераможцаў V адкрытага рэгіянальнага літаратурнага конкурсу імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям".*




Конкурс носіць імя дзіцячай пісьменніцы Веры Навіцкай, якая ў пачатку мінулага стагоддзя ўзначальвала Лідскую прыватную жаночую гімназію і напісала шэраг кніг для дзяцей, у тым ліку тэтралогію пра гімназістку Мусю Старабельскую. Многія свае кнігі Вера Навіцкая напісала ў Лідзе.

Конкурс імя дзіцячай пісьменніцы праводзіцца з 2014 года, раз у два гады. У ім прымаюць удзел лідскія (і не толькі лідскія) паэты і празаікі. Конкурс заахвочвае іх да напісання твораў для дзяцей. Спачатку гэты літаратурны конкурс быў раённым, а з цягам часу набыў статус адкрытага рэгіянальнага.

У V адкрытым рэгіянальным літаратурным конкурсе імя Веры Навіцкай прынялі ўдзел 10 чалавек (некаторыя з іх удзельнічалі ўпер-шыню). Амаль усе канкурсанты - сябры літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты". На разгляд журы было прынята больш за 120 твораў для дзяцей. Акрамя







вершаў, былі дасланы апавяданні, казкі, загадкі і (упершыню!) вершаваная азбука. Творы, дасланыя на конкурс, увайшлі ў выдадзены бібліятэкай зборнік "Дарослыя - дзецям".

Пераможцамі сёлетняга конкурсу імя Веры Навіцкай сталі пісьменнік і літаратуразнавец са Слоніма Сяргей Чыгрын (дыплом III ступені), лідская пісьменніца Тарэза Смольская (дыплом II ступені) і лідскі дзіцячы паэт, работнік лакаматыўнага дэпо Кастусь Якубчык (дыплом I ступені). Менавіта Сяргей Чыгрын






даслаў на конкурс вершаваную азбуку - "Птушыны алфавіт" - падабраўшы амаль да кожнай літары назву адпаведнай птушкі, якая з пэўнай літары пачынаецца. Нялёгкая задача, але вопытны пісьменнік з ёй справіўся! Тарэза Смольская, больш вядомая лідзянам як аўтар соцень і соцень вершаў для дарослых, прапанавала на разгляд журы навагоднія казкі ў прозе (вынікі конкурсу падводзіліся якраз незадоўга да Новага года), а таксама некалькі вершаў для дзяцей, некаторыя са сваіх загадак (а іх у яе ледзь не паўтары сотні!). Шэраг вершаў для дзяцей на самыя розныя тэмы даслаў адзін з самых маладых удзельнікаў конкурсу Кастусь Якубчык, які, можна сказаць, знайшоў сябе як творца менавіта ў дзіцячай паэзіі, у сваіх творах праявіў сябе выдатным знаўцам дзіцячай душы. Дарэчы, Канстанцін Іосіфавіч - тата цудоўнай дачкі-чацверакласніцы Жэні, якую ён узяў з сабой на цырымонію ўзнагароджання пераможцаў конкурсу. Жэня, канешне, рада за тату і ганарыцца ім і яго перамогай!











Падзячныя лісты за ўдзел у конкурсе атрымалі Таццяна Сямёнава, Людміла Русь, Людміла Шот, Ала Юшко, Станіслава Белагаловая, Валянціна Троцкая, Ларыса Лайкевіч. Трэба адзначыць, што дасланыя найстарэйшай удзельніцай конкурсу Таццянай Іванаўнай Сямёнавай вершы і апавяданні ў даступнай дзецям форме расказваюць пра Вялікую Айчынную вайну і




Вялікую Перамогу, садзейнічаючы патрыятычнаму выхаванню. Жыхарка аграгарадка Дворышча Людміла Шот напісала вялікую babbling вершаваную казку пра прыгоды мышаняці Пі, па якой, як адзначыла вядоўца імпрэзы, галоўны бібліёграф раённай бібліятэкі Галіна Курбыка, можна стварыць мультфільм. Цэлы зборнік вершаў для дзяцей прадставіла на конкурс Людміла Русь, больш вядомая лідзянам як аўтар вершаў для дарослых. Багата ілюстраваная кніга называецца "Удивительное - рядом" і, як і дарослая паэзія Людмілы Іванаўны, прасякнута святлом і дабрынёй, выказвае ўменне аўтара заўважаць незвычайнае ў кожным імгненні жыцця. Экзэмпляр сваёй кнігі (дарэчы, сваёй першай кнігі) паэтэса падарыла раённай бібліятэцы. Прэзентацыя кнігі з паказам буктрэйлера па ёй (яе відэаагляду) адбылася ў канферэнц-зале бібліятэкі ў той жа дзень.

Літаратурны конкурс "Дарослыя - дзецям" - гэта і прапаганда творчай спадчыны Веры Навіцкай. Натхняльнік конкурсу, адзін з яго ініцыятараў і арганізатараў, пісьменнік, краязнавец, рэдактар часопіса "Лідскі летапісец" і літаратурна-мастацкага зборніка "Ад лідскіх муроў" Станіслаў Суднік у чарговы раз прэзентаваў перад прысутнымі рэдкую кнігу. У 2016 годзе гэта была першая кніга тэтралогіі Веры Навіцкай на беларускай мове "Добра жыць на свеце", у 2018 годзе - дзіцячая кніга Марыі Канапніцкай "Ад вясны да зімы", у 2020 годзе - "Я сумавала па вучобе. Дзіцячыя і школьныя гады Альжбеты Табенскай з-пад Васілішак. Успаміны". У гэтым годзе свет пабачыла перакладзеная ім жа на



беларускую мову кніга Веры Навіцкай "Вясёлыя будні" (другая частка тэтралогіі пра Мусю Старабельскую). Гэтую кнігу, свайго роду дзённік гімназісткі пачатку мінулага стагоддзя, энцыклапедыю яе жыцця, можна пачытаць у раённай бібліятэцы, а таксама ў Доме Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея. Яшчэ адна прыступка поўнага адкрыццяў вучэбнага шляху дзяўчынкі-гімназісткі Мусі стане вядомай лідскім чытачам!

Дзяржаўная ўстанова культуры "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы" выказала Станіславу Вацлававічу Судніку глыбокую падзяку за падтрымку ў арганізацыі і правядзенні адкрытага рэгіянальнага літаратурнага конкурсу імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям".

Застаецца дадаць, што на цырымоніі ўзнагаро-







джання пераможцаў конкурсу музычным падарункам для ўсіх прысутных сталі выступленні юных акардэаністаў Лідскай дзіцячай школы мастацтваў Ігната Ількевіча і Мацвея Вайцяхоўскага.

***Аляксей КРУПОВІЧ.***
***Фота Дар'і Марцінкевіч.***

# Яшчэ адна кніга для дзяцей і пра дзяцей

*Падчас падвядзення вынікаў 5-га конкурсу імяНавіцкай "Дарослыя дзецям" была прадстаўлена 2-я кніга з тэтралогіі Веры Навіцкай пра Марусю Старабельскую. Кніга называецца "Вясёлыя будні. З дзённіка гімназісткі". Выдадзена абмежаваным накладам у прыватным прадпрыемстве "Пружмень" у перакладзе і пад рэдакцыяй Станіслава Судніка. Карэктар: Алесь Хітрун. Вокладку распрацавала Дар'я Марцінкевіч.*




**Вера Навіцкая**

**Вясёлыя будні**

***З дзённіка гімназісткі***



**г. Ліда**
**"Пружмень"**
**2022**

Муся падрасла і вучыцца ў сёмым класе гімназіі. Сёмы клас у гімназіі - самы малодшы, а першы - выпускны.

У кнізе апісваецца нібы пецярбургская гімназія, але, безумоўна, тут паказана нейкая зборная навучальная ўстанова, дзе, напэўна, ёсць нешта і ад Лідскай прыватнай жаночай гімназіі імя Марыі Навіцкай, дырэктарам якой аўтарка была да 1915 года.

Па ходу апавядання, якое працягваецца ў выглядзе ўсё таго ж дзённіка, можа скласціся ўражанне, што гімназісткі толькі тое і рабілі, што сваволілі, але не паказваць жа ўрок за ўрокам будзе малая дзяўчынка, яна запісвае падзеі, што выбіваюцца з гладкай канвы жыцця: свавольствы, святы, падарункі, хваробы, што зусім натуральна. І аўтарка, якая сама прайшла гімназію вучаніцай і не рассталася з ёй пасля заканчэння, добра ведае дзіцячы свет: што там важнае і цікавае, а што надзённае і не вартае ўвагі.

Пры перакладзе на беларускую мову давялося звярнуць увагу на мову арыгіналу. Мова то руская, але трошкі асаблівая: адразу не сказаць, адкуль гэтыя асаблівасці - з Пецярбурга, з Вільні, з Ліды ці, можа, з дзяцінства аўтаркі.

У кнізе практычна адсутнічае слова "очень", усюды ўжываюцца словы "больно" і "страшно". "Больно" ўсюды перакладалася словамі "вельмі" або "надта", а "страшно" сям-там магло і застацца як "страшна".

Тэкст перапоўнены словам "ведь". Калі гэтае слова перакладаць, як "таму што", беларускі тэкст становіцца грувасткім, у той час як рускі захоўвае лёгкасць. Таму слова "ведь" перакладалася часціцамі "то", "бо", "б" і "ж", "жа", а то і зусім апускалася.

У перакладзе пакінуты некаторыя асаблівасці лексікі. Пакінуты непаліткарэктныя на сёння назвы нацыянальнасцяў: чухонка, хахлушка і г.д. Неабходна ж захаваць каларыт. Дзеля каларыту захаваны і некаторыя словы. У перакладзе, як падаецца, удалося захаваць і дзіцячае ўспрыманне свету, якое даволі ўмела падаецца аўтаркай.

Урэшце ж мы маем яшчэ адну кнігу для дзяцей і пра дзяцей на беларускай мове.

Сёння кніжку можна пачытаць у чытальнай зале Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы і ў Лідскім літаратурным музеі (Домік Таўлая).

Спадзяёмся, што праз некаторы час кніга стане даступная больш шырокаму колу чытачоў.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# Кроніка Ліды



1 ліпеня 2022 года старшыня раённага выканаўчага камітэта Сяргей Ложачнік прадставіў калектыву ДУ "Рэдакцыя "ЛідаМедыяКампанія" кіраўніка. На пасаду дырэктара арганізацыі прызначаны **Павел Іванавіч Івуць**. Да прызначэння Павел Івуць працаваў у АУС Шчучынскага райвыканкама, дзе кіраваў фінансавым аддзелам.



У ліпені за 12 км ад Ліды, на базе торфабрыкетнага завода "Дзітва", гістарычна-культурная ўстанова "Нязведаная вузкакалейка" пачала стварэнне першага ў Беларусі музея вузкакалейнай тэхнікі.



7 ліпеня памёр ветэран беларускага нацыянальнага руху ў Лідзе **Іван Грос**. Падпалкоўніку ў адстаўцы Івану Уладзіміравічу Гросу было 85 гадоў. Жыў у вёсцы Ёдкі Лідскага раёна. У пачатку 90-х Іван Грос быў адным з заснавальнікаў БЗВ, узначальваў Лідскую арганізацыю БЗВ.



У Год гістарычнай памяці ў адпаведнасці з рашэннем Лідскага райвыканкама, сярэднія школы № 6 і № 9 г. Ліды пераназваны і будуць насіць імёны загінулых лётчыкаўгерояў.

ДУА "Сярэдняя школа № 6 г. Ліды" пераназвана ў ДУА "Сярэдняя школа № 6 г. Ліды імя Н. Б. Куканенкі", а ДУА "Сярэдняя школа № 9 г. Ліды" - у ДУА "Сярэдняя школа № 9 г. Ліды імя А. В. Нічыпорчыка".

21 ліпеня адбылася прэзентацыя дзясятага літаратурна-мастацкага зборніка "Ад лідскіх муроў", які выйшаў у выдавецтве "Пружмень". У зборнік увайшлі творы і артыкулы, напісаныя, надрукаваныя або перакладзеныя ў асноўным у 2020-2021 гадах. Наклад зборніка - 110 асобнікаў. 524 ст.









2 жніўня Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 267 за выхаванне пяці і больш дзяцей Ордэнам Маці ўзнагароджаны лідзянкі Алена Данілецкая (супрацоўніца ДУ "Футбольны клуб "Ліда", Аліна Лідоўская (дамагаспадыня), Алена Рамук (супрацоўніца ТАА "Лідская Бэбі-акадэмія").



31 жніўня ў Лідзе адкрыўся першы ў Гарадзенскай вобласці Дом танцу, які стаў пляцоўкай для розных кірункаў харэаграфіі.



У жніўні ў Лідзе на фасадзе пяціпавярховага жылога дома з'явіўся рамантычны мурал "Каханне" ў рамках рэспубліканскай акцыі "Традыцыі дзеля будучыні" ад Беларусбанка і арт-супольнасці Urban Myths. Адрас мурала: Ліда, вуліца Ленінская, 17.

Аўтары: выпускніца аддзялення манументальна-дэкаратыўнага мастацтва мастацкага факультэта БДАІ Лізавета Бутрыс (Менск) і вулічны мастак з Пінска Яўген Сасюра.

У суботу **3 верасня** прайшла "Агульная дыктоўка" - адкрытая дыктоўка па беларускай мове, якую праводзіла ў пяты раз ААТ "Лідскае піва". Заяўкі на ўдзел падалі 4282 удзельнікі, а за трансляцыяй 3 верасня сачылі больш за 1500 карыстальнікаў з Беларусі, Польшчы, Грузіі, Нідэрландаў, Германіі, Расіі, Літвы, ЗША, Францыі, Швецыі і іншых краін.

Агулам арганізатары атрымалі на праверку 1328 дыктовак.

За кожнага ўдзельніка, які адправіў сваю працу на праверку, ААТ "Лідскае піва" пералічыла 5 рублёў на набыццё новага экспаната для Лідскага замка. Сабраная сума ў памеры 6640 рублёў пайшла на з'яўленне ў Лідскім замку еўрапейскіх даспехаў XV стагоддзя. Гэтыя даспехі - выдатны прыклад майстэрства рэканструкцыі. Камплект стварыў кіраўнік вайскова-гістарычнага клуба "Дайнава" Юры Мандрык для аднаго з першых фэстаў сярэднявечнай культуры і традыцый у Лідскім замку.










**17 верасня** ў Дзень народнага адзінства ў дзявятай і шостай школах Ліды прайшлі мітынгі, на якіх адбылося адкрыццё мемарыяльных дошак, прысвечаных Героям Беларусі. Андрэю Нічыпорчыку і Мікіце Куканенку.

Іх гераічны ўчынак не застаецца забытым, асабліва вучнямі дзявятай школы горада Ліды. Бо тут калісьці вучыўся адзін з герояў - Андрэй Нічыпорчык.

На мітынгу ў шостай школе прысутнічалі першакласнікі, якія з вялікай увагай слухалі аповяды пра герояў Беларусі.

Вучні дзявятай і шостай лідскіх школ сёлета сталі першым пакаленнем, якія нясуць званне "Навучэнец школы імя Героя".

Урачыстае гашэнне блока паштовых марак у гонар 1030-годдзя Праваслаўя на беларускіх землях адбылося ў Лідзе **23 верасня 2022 года.**






**У кастрычніку** ў выдавецтве “Беларуская навука” выйшаў збонік навуковых артыкулаў “Гісторыка - культурная спадчына Лідчыны”, 238 ст.

Укладальнікі К.В. Сыцько, А.Б. Доўнар.



**1 лістапада** да выканання абавязкаў прыступіў новы дырэктар Лідскай ЖКГ, ім стаў **Аляксандр Сіневіч**, які займаў пасаду першага намесніка дырэктара - галоўнага інжынера Лідскай ЖКГ.




На Кубку Рэспублікі Беларусь па паўэрліфтынгу, які **5-6 лістапада** праходзіў у Менску, паспяхова выступіла каманда СКА "Бердаўка" пад кіраўніцтвам майстра спорту па безэкіпіровачным паўэрліфтынгу Сяргея Страхаліса.

Залатую ўзнагароду ў станавой цязе заваяваў Вячаслаў Бальцук. Яго вынік - 180 кілаграмаў - стаў чарговым сусветным рэкордам - пятым па ліку ў бердаўскага атлета!



Гарадскі рэгулярны маршрут № 18 "Детсад № 22 - вул. Максіма Танка" арганізаваны з **10 лістапада** для паляпшэння якасці транспартнага абслугоўвання жыхароў Ліды. Ён звязаў новы мікраараён “Поўнач” з цэнтральнай часткаю горада, а таксама з рознымі спартовымі ўстановамі і буйнымі гандлёвымі цэнтрамі.



У канцы лістапада намеснікам старшыні Лідскага райвыканкама прызначаны **Аляксандр Часнойць**, які займаў пасаду начальніка Лідскай раённай ветэрынарнай станцыі - галоўнага ветэрынарнага ўрача раёна.



У пачатку снежня ў сувязі са 100-гадовым юбілеем новы пашпарт атрымала жыхарка в. Роўбы Мажэйкаўскага сельсавета **Марыя Янаўна Макарэвіч**. Такіх на Лідчыне ўсяго восем чалавек.





**10 снежня** напярэдадні калядных і навагодніх святаў адкрыўся для наведвальнікаў 4-павярховы гандлёва-забаўляльны цэнтр **LidaPark**. Яго плошча складае больш за 28 тыс. квадратных метраў. І гэта адна з найбуйнейшых гандлёва-забаўляльных пляцовак раёна.



У снежні начальнікам інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Лідскім раёне прызначаны **Віктар Шэйка**. Да прызначэння ў Ліду займаў пасаду намесніка начальніка ўпраўлення падаткаабкладання фізічных асоб інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Гарадзенскай вобласці.

**У снежні** ў выдавецтве “ЮрСаПрынт” выйшаў “Беларускі настольны перакідны краязнаўчы каляндар на 2023 год (на матэрыяле Гродзеншчыны)” Гэты каляндар - чатырнаццаты выпуск Гарадзенскага абласнога краязнаўчага календара.

Каляндар на 2023 год яшчэ пры жыцці складзены Аляксеем Міхайлавічам Пяткевічам. Канчатковую рэдакцыю рукапісу календара ў канцы 2022 года зрабіла дачка А. Пяткевіча - Марына Аляксееўна Загідуліна.

Рэдактар, як і раней, - Станіслаў Суднік.







**У снежні** Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы выпусціла “Краязнаўчы каляндар на 2023 год”.

Складальнік: Г.Р. Курбыка - галоўны бібліёграф Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы.

Рэд.акцыя: А.А. Быстрыцкая, Г.І. Жышко.

Камп'ютарны дызайн вокладкі: С.І. Міхаловіч - метадыст аддзела бібліятэчнага маркетынгу Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы.

Адказны за выпуск: А.М. Мартынаў.




2-гі каляндар з серыі "Скарбы Лідчыны", прымеркаваны да юбілею горада Ліды - 700-годдзя, выдаў Лідскі гістарычна-мастацкі музей **у снежні** 2022 года.

Каляндар створаны на аснове паштовак, якія захоўваюцца ў фондах музея.




**У канцы снежня** выйшла кніга **Наталлі Анашкевіч** "В калейдоскопе школьных дней", прысвечаная шырокой і рознапланавай дзейнасці аўтара як класнага кіраўніка ў СШ № 11 г. Ліды і ўяўляе сабой настольную кнігу, практычны дапаможнік для класных кіраўнікоў і проста добрую памяць для выпускнікоў адзінаццатай школы.

# Лідскаму памежнаму атраду - 25 гадоў

26 жніўня 2022 года Лідскі памежны атрад адзначыў саё 25-годдзе. Чвэрць стагоддзя - узрост вайсковай часткі, хоць і невялікі, але вайскоўцам ёсць чым ганарыцца!

Служба Лідскага памежнага атрада на працягу шэрагу гадоў стабільна высока ацэньваецца кіраўніцтвам краіны і Дзяржаўным памежным камітэтам Рэспублікі Беларусь. Пацверджанне гэтаму гучыць і ў віншавальным адрасе старшыні Дзяржпамежкамітэта Анатоля Лапо: *"Вайскоўцам Лідскага памежатрада заўсёды былі ўласцівыя высокі прафесіяналізм і надзейнасць у вырашэнні задач аховы Дзяржаўнай мяжы, якія дазвалялі неаднаразова станавіцца лідарам сярод тэрытарыяльных органаў памежнай службы па выніках аператыўна-службовай дзейнасці"*.










За 25 гадоў лідскімі памежнікамі затрымана больш дзвюх тысяч парушальнікаў Дзяржаўнай мяжы, каля дванаццаці тысяч парушальнікаў памежнага рэжыму. Перарвана больш трохсот выпадкаў перамяшчэння наркатычных сродкаў, больш за 270 адзінак зброі і боепрыпасаў, незаконнае перасоўванне таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў на суму парадку дзевяці мільёнаў беларускіх рублёў. Усё гэта сведчыць пра высокі ўзровень прафесійнага майстэрства вайскоўцаў у забеспячэнні памежнай бяспекі і ахове Дзяржаўнай мяжы.

Лепшыя памежнікі, якія праславіліся ў службовай дзейнасці, у гонар свята былі адзначаны высокімі ўзнагародамі. Многія атрымалі з рук камандзіра нагрудныя знакі адрознення органаў памежнай службы розных ступеняў, нехта - ганаровыя граматы, а нехта - новыя





пагоны, чарговае павышэнне ў званні.

Вартавых мяжы настаўляў і дабралаславіў на добрую службу настаяцель вайсковага храма, протаіерэй Сергій Шафарост.

**Погляд у гісторыю**

Лідскі памежатрад як вайсковае фармаванне ўтвараўся на базе дзвюх памежных камендатур: "Воранава" Смаргоньскага памежнага атрада і "Гожа" Гарадзенскага памежатрада - з месцам дыслакацыі кіравання і падраздзяленняў забеспячэння ў былым вайсковым гарадку "Паўночны" 49-й дывізіі ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння. Адпаведны ўказ № 419 "Пра меры па ўзмацненні аховы Дзяржаўнай мяжы" быў падпісаны Прэзідэнтам Беларусі 31 ліпеня 1997 года. Днём нараджэння часткі ўстаноўлена 25 жніўня - у сувязі з тым, што менавіта ў гэты дзень - 25 жніўня 1998 года - адбылося ўручэнне атраду Баявога



Сцяга. Першым начальнікам памежнага атрада быў палкоўнік Аляксандр Мендаль.

Каля в. Беняконі Вараноўскага раёна быў усталяваны першы памежны слуп. Участак мяжы Беларусі з Літвой быў прыняты пад ахову лідскімі памежнікамі. Працягласць яго сёння складае звыш 180 км, у тым ліку больш за 70 км - гэта водныя межы.

Многія вайскоўцы, ветэраны памежатрада, памятаюць тыя часы: перыяд станаўлення, які патрабаваў вялікай адказнасці і мужнасці. Дзяржаўная мяжа для яе вартавых стала паняццем святым, а выкананне абавязкаў па яе абароне - першачарговым у жыцці.

**Новае аблічча мяжы**

Сёння Лідскі памежны атрад мае сучаснае ўзбраеннем, транспарт, разнастайныя тэхнічныя сродкі, якія дазваляюць эфектыўна і надзейна выконваць задачы па забеспячэнні памежнай бяспекі.

Так, памежнікамі шырока ўжываецца авіяцыя, якая выконвае задачы па ахове мяжы дзяржавы на аўтажырах. У падраздзяленнях мяжы дзейнічае інтэлектуальная сістэма сігналізацыі і відэаназірання. Тэхнічныя сродкі, якія ўжываюцца ў пунктах пропуску не меней эфектыўныя, - гэта апаратура і прылады, што выкарыстоўваюць лічбавыя тэхналогіі. Шырокапалосныя абароненыя каналы перадачы інфармацыі забяспечваюць імгненны доступ да баз дадзеных.

На ўзбраенне прынята валаконна-аптычная сігналізацыйная сістэма "Крумкач", якая складаецца з непасрэдна сігналізацыйнай сістэмы і камеры відэаназірання, аб'яднаных у адзіны праграмна-апаратны комплекс. За час эксплуатацыі падобныя сістэмы прадэманстравалі надзейнасць, гнуткасць і высокія выяўленчыя якасці.

Тэхнічны прагрэс прыносіць свае плады, аднак галоўную ролю ў ахове Дзяржаўнай мяжы па-ранейшаму іграюць людзі. Асабовы склад памежнага атрада прадстаўлены дасведчанымі афіцэрамі і прапаршчыкамі, якія ведаюць памежную справу на выдатна.

**З чаго пачынаецца Радзіма**

Тэрміновую вайсковую службу ў Лідскім памежатрадзе ў наш час праходзяць каля ста маладых нава-





бранцаў. Тут яны не толькі спасцігаюць асновы вайсковага рамяства, але і разам з досведам старэйшых пакаленняў убіраюць беззапаветную любоў да Радзімы, вучацца быць яе патрыётамі. У атрадзе створаны музей баявой славы, на базе якога праводзяцца мерапрыемствы вайскова-патрыятычнага характару.

А яшчэ на тэрыторыі атрада ўзвышаецца царква. Пабудавана яна на ахвяраванні асабовага складу і асвечана ў гонар вялебнага Сергія ігумена Раданежскага. Храм наведваюць вайскоўцы, іх сем'і і нават жыхары горада. Тут бяруць шлюб, хрысцяць дзяцей і атрымліваюць дабраславенне на добрыя справы.

…Сёння ў сістэму аховы Дзяржаўнай мяжы актыўна ўкараняюцца найнавейшыя тэхналогіі і прынцыпы кіравання, але апорай памежнай бяспекі застаюцца людзі - памежнікі, якія штодня выходзяць на ахову нашых меж. Высокае майстэрства, пільнасць і вытрымка, і акрамя таго - грамадзянская сталасць і высокая маральная планка чалавека адрозніваюць вайскоўцаў Лідскага памежатрада.

Сімвалічным завяршэннем першага святочнага дня стаў мітынг у Кургана Неўміручасці з удзелам камандавання часткі і ветэранаў памежнай службы.



Спачылых у розныя гады памежнікаў успомнілі малітоўна пайменна. Ускладаючы кветкі да падножжа Кургана, аддавалі даніну памяці і давалі слова, што будуць таксама, як і папярэднікі, берагчы над беларускімі межамі мірнае неба.

***Вольга Яхантава.***

# Лідскія юбіляры

## "Народ, які абуджаецца, не патрабуе нянек"

Так казаў этнограф, фальклярыст і краязнавец, сябар Віленскага таварыства сяброў навукі, член-карэспандэнт Кракаўскай Акадэміі Навук **Вандалін Шукевіч** (1852-1919) з Лідчыны, якому 10 снежня споўнілася 170 гадоў з дня нараджэння.

Знаны археолаг, этнограф і грамадскі дзеяч Вандалін Шукевіч нарадзіўся ў 1852 годзе ў маёнтку каля вёскі Нача на Лідчыне. У гэты час зусім недалёка ад Начы, у маёнтку Шаўры, яшчэ працаваў вялікі гісторык гістарычнай Літвы Тэадор Нарбут. Верагодна, само паветра гэтых мясцін - сэрца старадаўняй Літвы - нарадзіла ў абодвух даследчыках вялікае замілаванне да гісторыі роднага краю, якое вылілася ў шматгадовую апантаную даследчыцкую працу. Вандалін Шукевіч у польскай і беларускай літаратуры вядомы перш за ўсё як даследчык старажытнасці. Амаль чвэрць стагоддзя праводзіў раскопкі на любімым лапіку зямлі, вывучаў шматлікія месцы амаль усіх культур старажытнасці і сярэднявечча, якія развіваліся на тэрыторыі Літвы і Беларусі. Паміж 1884 і 1894 гадамі Вандалін Шукевіч знайшоў 27 пахаванняў у Вензаўшчыне, 14 у Апанаўцах, 39 каля Дварчан, 6 каля Сабакінцаў, 8 каля Забалаці, 7 у Некрушанцах, 19 у Пузелях - усяго 120 пахаванняў у 8 магільніках. Напрыклад, каля Начы, на палях ваколіцы Пузелі, былі раскапаны старадаўнія каменныя магілы, дзе пры мужчынскіх шкілетах знаходзіліся сякеры, нажы, наканечнікі дзіды, а пры жаночых - разнастайныя бронзавыя ўпрыгожванні: пярсцёнкі, завушніцы, бронзавыя дыядэмы з бронзавымі ці пазалочанымі сярэбранымі падвескамі, шкляныя пацеркі рознай велічыні і шмат іншага. Археалогія стала галоўным захапленнем Вандаліна Шукевіча. Завязаліся знаёмствы з шырокавядомымі вучонымі: Зыгмунтам Глогерам і Эразмам Маеўскім з Варшавы, а таксама перапіска з дацэнтам Уладзімірам Дземетрыкевічам з Кракава, з прафесарамі-археолагамі з Пецярбурга. Пасля IX археалагічнага з'езда, які адбыўся ў 1893 годзе ў Вільні, Вандалін Шукевіч наладзіў перапіску і абменьваўся публікацыямі з Маскоўскім археалагічным таварыствам, быў выбраны членам-карэспандэнтам гэтага таварыства. Восенню 1903 года Шукевічам было зроблена вельмі цікавае, адразу заўважанае ў навуковым свеце, адкрыццё так званых грунтовых магіл. Вандалін Шукевіч даследаваў Трокскі, Лідскі і Радунскі замкі. Вучоны справядліва заўважаў, што *"для нас мінулае павінна быць падвойна дарагім, бо ў ім адным мы можам чэрпаць натхненне для барацьбы за нацыянальнае існаванне"*. Яго археалагічная дзейнасць і па сённяшні дзень не страціла свайго значэння, таму што ён запоўніў тую пустату, якая ўтварылася пасля задушэння студзеньскага паўстання, закрыцця Археалагічнай камісіі і музея старажытнасці ў Вільні, якія заснаваў і якімі кіраваў Яўстахій Тышкевіч (1814 - 1878).






Разам з навуковай дзейнасцю старанна займаўся грамадскай працай сярод жыхароў навакольных вёсак. У Начы арганізаваў кааператыў і краму, а таксама стварыў земляробчы гурток з мэтай павышэння ўзроўню сельскай гаспадаркі. Часта за ўласныя грошы выпісваў новае, лепшае насенне збожжа, буракоў і бульбы, якое раздаваў сялянам на выпрабаванне. Калі ўраджай быў добры, сяляне прыходзілі да Шукевіча з просьбай, каб больш замовіў такога добрага насення і за яго плацілі. Па прапанове Віленскага земляробчага таварыства арганізаваў пяць даследчых палеткаў для выпрабавання штучных угнаенняў і новых гатункаў бульбы і аўсу. Эксперымент удаўся.

Пра жыццё і дзейнасць Вандаліна Шукевіча добрую кніжку напісаў лідскі гісторык і краязнавец Леанід Лаўрэш. Яна выйшла з друку ў Менску ў серыі "100 выдатных дзеячаў" у 2014 годзе.

***Сяргей Чыгрын.***

# У пошуках сувязі: Якуб Колас і Лідчына

***Да 140-годдзя з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Якуба Коласа***

Тры адметныя асобы ў гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя - Максім Багдановіч, Якуб Колас, Янка Купала. Так, гэта гонар нашай Беларусі. Бясспрэчна, паэт нараджаецца не аднойчы. Калі казаць, пра трох гэтых асоб, то Якуб Колас, Янка Купала стаяць ужо пасля Максіма Багдановіча. Пасля маладзейшага сына беларускай зямлі. І менавіта ў 2021 годзе мы адзначылі 130 год з дня яго нараджэння. А ў 2022 годзе эстафету ён перадаў сваім, старэйшым, якім споўніліся 140-я гадавіны з дня народзінаў.

У біяграфіі Янкі Купалы і Якуба Коласа, як вядома сустракаюцца многія гарады Беларусі, знайшлося месца і гораду Ліда і яго бліжэйшым населеным пунктам.

Зазначу, што Янка Купала бываў у Лідзе толькі раз. Песняра народных дум высока адзначылі лідчане ў 1940 годзе. Яго абралі дэпутатам Вярхоўнага савета БССР па Лідскай-Слабадской акрузе № 306. Класік быў у Лідзе тры дні - 13, 14, 15 сакавіка 1940 года. Ён дапамог папоўніць кніжны фонд гарадской бібліятэкі, і што цікава, яго кніга "Над ракой Арэсай" стала першай беларускамоўнай кнігай у гэтай жа бібліятэцы на той час! Больш Купала не выбіраўся ў дэпутаты, у гэтым званні ён і пакінуў зямны свет. (Пра прыезд Янкі Купалы можна пачытаць матэрыял навуковага супрацоўніка Лідскага гісторыка-мастацкага музея Алеся Хітруна "Янка Купала і Лідчына" на сайце музея ў раздзеле "Навукова-даследчая дзейнасць").

А вось Якуб Колас у перыяд з 1946 па 1956 год не раз выбіраўся дэпутатам у Вярхоўны Савет СССР ад Наваградскай выбарчай акругі і сюды ён наведваўся для правядзення перадвыбарных сустрэч, а таксама ўжо як дэпутат Вярхоўнага Савета СССР. Наваградак - гэта ж горад, які размяшчаецца на недалёкай адлегласці ад горада Ліды! У 1939 годзе ў Наваградскі раён былі ўключаны Бярозаўка і некалькі занёманскіх лідскіх вёсак. А горад Бярозаўка і да гэтага часу традыцыйна ўключаецца ў Наваградскую выбарчую акругу.

Аўтар "Сымона-музыкі" быў у 1946, 1950, 1954 гадах у Бярозаўцы, сустракаўся з выбаршчыкамі, наведаў шклозавод "Нёман", выступаў перад рабочымі. Падрабязна пра наваградскія землі, якія трывала ўвайшлі ў біяграфію народнага паэта Беларусі Якуба Коласа падрыхтаваны матэрыял "Якуб Колас і Наваградчына" (інтэрнэт-спасылка navagrudak.blogspot.ru) яшчэ ў недалёкім мінулым навуковым супрацоўнікам Наваградскага гістарычна-краязнаўчага музея Галінай Кавальчук.

*"Жыццё народнага паэта Беларусі Якуба Коласа доўгі час было звязана з наваградскай зямлёй. У перыяд з 1946 па 1956 год ён не раз выбіраўся дэпутатам у Савет Саюза Вярхоўнага Савета СССР ад Наваградскай выбарчай акругі. Сюды ён наведваўся для правядзення перадвыбарных сустрэч, а таксама ўжо як дэпутат Вярхоўнага Савета СССР. Гэтую зямлю ён любіў і шанаваў як радзіму вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча.*

*Упершыню Якуб Колас пабываў у Навагрудку яшчэ ў канцы 1940 года, у складзе рэспубліканскай камісіі па правядзенні мерапрыемстваў, звязаных з 85-годдзем са дня смерці Адама Міцкевіча. Разам з Я. Купалам, П. Броўкам, Я. Бранеўскай і іншымі дзеячамі беларускай культуры Якуб Колас наведаў Навагрудак, пабываў у Доме-музеі Адама Міцкевіча.*

*Ужо пасля вайны, у студзені 1946 года Якуб Колас упершыню быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР па Навагрудскай выбарчай акрузе і ў суправаджэнні Пятра Глебкі накіраваўся ў перадвыбарную паездку па Навагрудчыне. Тут Якуб Колас сустрэўся з калектывам шклозавода "Нёман". "Выбаршчыкі шчыра і цёпла віталі гасцей, задавалі шмат пытанняў, была жывая гутарка з прысутнымі. Потым вярнуліся ў Навагрудак, дзе правялі другую сустрэчу. На яе прыйшлі многія жыхары горада. Якуб Колас выступіў з прамовай, гаварыў пра адбудову краіны, пра надзённыя клопаты". Пасля афіцыйнай часткі сустрэчы Якуб Колас размаўляў з жыхарамі Навагрудка, раздаваў аўтографы. У Навагрудскім гістарычна-краязнаўчым музеі ёсць кніга Якуба Коласа "Сымон Музыка", якую ён падарыў пачынаючаму тады Навагрудскаму паэту Самсону Пярловічу падчас адной з такіх сустрэч у 1946 годзе. У гэты прыезд на Навагрудчыну Якуб Колас*



***Мастак Ран Лазар. Якуб Колас у вызваленым Наваградку***

*наведаў таксама мястэчка Любчу, пабываў у Карэлічах, Гарадзішчы, Баранавічах, на возеры Свіцязь. Пасля гэтай паездкі, у "Літаратурнай" газеце быў надрукаваны артыкул "В родных местах", у якім Якуб Колас апісвае сустрэчу ў мястэчку Гарадзішча з партызанамі, атрад якіх насіў яго імя. Пасля гэтай перадвыбарнай паездкі Якуб Колас зрабіў запіс у дзённіку 29 студзеня: "Усюды, дзе ні былі, сустракалі нас шчыра, гасцінна, прыязна".*

*Аб уражаннях Якуба Коласа ад возера Свіцязь успамінаў пісьменнік Яфім Садоўскі: "Дарогу Колас, па яго асабістым прызнанні, любіў. Яна быццам акрыляла, надавала моцы. А ў апошнія гады паэт пры найменшай магчымасці ездзіў па любімых мясцінах, дзе ведаў кожную сцяжынку. Возера Свіцязь Колас называў самым прыгожым у Беларусі, і калі яно не ляжала на шляху, а знаходзілася ўбаку, то вадзіцель збочваў, каб наведаць гэты цуд беларускай прыроды. ... Пешшу па свежай сцяжынцы падышлі да зімовага возера. Канстанцін Міхайлавіч доўга моўчкі на беразе стаяў, потым прыгадаў 1940 год, калі яму патрабавалася першы раз прыехаць у Навагрудак на першае паседжанне рэспубліканскай камісіі па правядзенні 85-годдзя з дня смерці вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча".*

*У гэтых мясцінах паэт гутарыў з людзьмі розных прафесій і ўзростаў, чытаў вершы, быў для мясцовых насельнікаў жаданым і дарагім госцем. "Да глыбіні душы, - успамінаў Колас, - усхвалявала мяне сустрэча ў мястэчку Гарадзішча з партызанамі, чый атрад у гады Вялікай Айчыннай вайны насіў маё сціплае імя".*

*У лютым 1950 года Якуб Колас зноў зарэгістраваны кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР па Навагрудскай выбарчай акрузе. Газета "Звязда" ад 21 лютага 1950 года ў рубрыцы "Рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты" паведамляла аб рэгістрацыі кандыдытам у дэпутаты Савета Саюза ад Навагрудскай выбарчай акругі Міцкевіча Канстанціна Міхайлавіча (Якуба Коласа), 1882 года нараджэння, пражываючага ў горадзе Мінску, члена ВКП(б), народнага паэта Беларусі, віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР. У камісію па выбарах у Савет Саюза Вярхоўнага Савета СССР паступілі пратаколы перадвыбарчых агульных сходаў рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых шклозавода "Нёман", выкладчыкаў і студэнтаў Навагрудскага педвучылішча аб вылучэнні кандыдатам у дэпутаты Савета Саюза Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча (Якуба Коласа), а таксама заява, у якой ён дае згоду балатыравацца па Навагрудскай выбарчай акрузе. У канцы лютага-пачатку сакавіка, Якуб Колас пачаў праводзіць сустрэчы з выбаршчыкамі Навагрудскай акругі. У гэтай паездцы Якуба Коласа суправаджаў, як давераная асоба, Максім Лужанін, які расказваў аб жыццёвым і творчым шляху кандыдата ў дэпутаты, аб яго грамадскай дзейнасці. Сустрэчы з выбаршчыкамі праходзілі на шклозаводзе "Нёман", у Навагрудку. "З'яўленне на трыбуне класіка беларускай літаратуры было сустрэта бурнай авацыяй прысутных. Усе стоячы горача віталі любімага песняра. "Дарагія таварышы выбаршчыкі, - звярнуўся Якуб Колас, - дазвольце сказаць вам вялікі дзякуй за аказаны давер. Я рады бачыць вас, браты і сёстры, людзей, якія мужна змагаліся з гітлераўскімі акупантамі і сёння сваімі рукамі залечваюць раны, нанесеныя лютай вайной. Будзем жа ўсімі сіламі ўмацоўваць нашае жыццё, будзем змагацца за трывалы мір ва ўсім свеце". Пасля выступлення адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці, дзе гучалі песні на словы паэта.*

*2 сакавіка 1950 года Якуб Колас зноў абіраецца дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР па Навагрудскай выбарчай акрузе.*

*У лютым 1954 года Я. Колас у трэці раз вылучаны кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР па Навагрудскай выбарчай акрузе № 549. З сакавіка 1954 года пачалася чарговая перадвыбарная паездка Якуба Коласа па Навагрудчыне. Якуб Колас зноў сустракаўся са сваімі выбаршчыкамі, пабываў на Нёмане, возеры Свіцязь. Былы настаўнік Валеўскай сярэдняй школы Уладзімір Урбановіч успамінаў: "Многія помняць гэтыя сустрэчы. Помню іх і я. Звычайна народны паэт, падняўшыся на трыбуну, адкладваў убок акуляры, адсоўваў лісткі напісанай прамовы і пачынаў проста і шчыра гутарыць з народам. У яго прамове не было адточаных, траскатлівых выразаў, прамоўніцкіх жэстаў. Ён проста гутарыў, раіўся са сваімі выбаршчыкамі так, як гэта робяць у дружнай і шчырай сям'і. Пасля афіцыйнага сходу кандыдат у дэпутаты звычайна яшчэ доўга заставаўся ў зале, гутарыў з тым, хто да яго звяртаўся. Я бачыў усё - гэта быў не проста давер, а выражэнне народнай любві да свайго духоўнага настаўніка".*

*14 сакавіка 1954 года адбыліся выбары і Якуб Колас быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР.*

*Навагрудская зямля заўсёды прыцягвала пісьменніка сваёй старажытнай гісторыяй і непаўторнай прыгажосцю. Якуб Колас высока цаніў творчасць вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча. Ён быў знаёмы з паэмамі і вершамі паэта яшчэ з дзяцінства. Леў Мірачыцкі ў артыкуле "Якуб Колас і польская культура" піша: "Патрыятычная творчасць Адама Міцкевіча рабіла ўплыў на ўсе краёвыя літаратурныя таленты. Невялікі графічны партрэт польскага паэта работы навагрудскага мастака Казіміра Мардасевіча распаўсюджваўся ў шматлікіх копіях мясцовых рысавальшчыкаў. Па сямейным паданні такі партрэт у рамцы з пазалочанай абводкай вісеў на сцяне і ў бацькоўскай хаце будучага беларускага паэта. Знамянальна таксама і тое, што яго падаравала Кастусю Міцкевічу хросная маці "пані Аксеня", жонка работніка лясніцтва. Як дарагую рэліквію ў сям'і захоўвалі томік "Балад і рамансаў" польскага паэта". Ужо будучы вядомым паэтам Якуб Колас не раз звяртаўся да творчасці Адама Міцкевіча. У артыкуле "Светлыя старонкі дружбы", надрукаваным у "ЛіМ"е*



Депутаты Верховного Совета СССР (слева направо): Шалва Дадиани, Павел Бажов, Николай Тихонов, Якуб Колас, Александр Фадеев, Александр Корнейчук и Леонид Леонов. 1950 г.

***Якуб Колас з дэпутатамі Вярхоўнага Савета СССР (злева направа): Шалва Дадзіані, Павел Бажоў, Мікалай Ціханаў, Якуб Колас, Аляксандр Фадзееў, Аляксандр Карняйчук, Леанід Лявонаў. 1950 г. - кандыдат у дэпутаты ВС СССР, 1954 г. на сустрэчы з выбаршчыкамі***

*ў лістападзе 1955 года да 100 годдзя з дня смерці Адама Міцкевіча Якуб Колас разглядае творчы шлях паэта, яго месца ў польскай літаратуры, вызначае характэрныя рысы яго творчасці, вялікую ролю мастацкай спадчыны выдатнага польскага паэта для сучаснасці, сусветнае значэнне яго паэзіі.*

*29 лістапада 1955 года Якуб Колас уступнай прамоваю адкрывае вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня смерці А.Міцкевіча ў якой гаворыць аб тым, што імя Адама Міцкевіча з'яўляецца нацыянальным гонарам, што ў яго натхнёных творах знайшлі адлюстраванне перадавыя ідэі свайго часу.*

*У часопісе "Беларусь" № 11 за 1955 год быў надрукаваны артыкул "Вялікі друг народа", у якім Я. Колас гаворыць аб вялікай любові польскага паэта да сваёй радзімы, пра беларускую прыроду, якая натхняла музу польскага паэта, разглядае народнасць як вызначальную рысу творчасці Міцкевіча. "Народнасць паэзіі Міцкевіча, глыбіня пранікнення паэта ў душу народа, веданне яго дум і спадзяванняў, вуснай творчасці, побыту, прыроды - сапраўды здзіўляе" - піша Я. Колас ў сваім артыкуле.*

*Сёння, успамінаючы мінулыя гады, навагрудчане могуць ганарыцца, што з нашым горадам быў звязаны лёс вялікага паэта нашай Бацькаўшчыны. Яшчэ сёння у Навагрудку памятаюць аб сустрэчах з народным паэтам Беларусі Якубам Коласам, які пасапраўднаму клапаціўся пра надзённыя праблемы сваіх выбаршчыкаў. У Навагрудку на перакрыжаванні вуліц Адама Міцкевіча і Віктара Валчэцкага, побач з аўтавакзалам стаіць бюст Якубу Коласу - народнаму паэту Беларусі. Гэты помнік быў пастаўлены ў знак асобай павагі навагрудчан да народнага песняра.*

*Літаратура:*

*1. Жыгоцкі М.Р. Сэрца пакідаю вам: Па Коласаўскіх мясцінах. - Мн.: Полымя, 1993.*

*2. Мірачыцкі Л.П. Якуб Колас і польская культура./ Каласавіны. Тэзісы дакладаў і паведамленняў навуковай канферэнцыі, прысвечанай 105-й гадавіне з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.*

*3. Мушынскі М.І. Якуб Колас: Летапіс жыцця і творчасці. - Мн.: Маст. літ., 1982.*

*4. Урбановіч У. Якуб Колас і Навагрудчына. Новае жыццё №№138-140 / 1989.*

*5. Часопіс "Полымя" №12 / 1955*

*6. Часопіс "Беларусь" №11/ 1955"*

У тыя ж гады ён наведваўся і ў бліжэйшы ад Ліды горад Дзятлава. Аб гэтым піша краязнавец Міхаіл Лук'янчык у матэрыяле "Якуб Колас у Дзятлаве":

*"Згодна з Канстытуцыяй БССР ад 1937 года ў склад Вярхоўнага Савета БССР патрэбна было выбраць аднаго дэпутата ад 20 тысяч выбаршчыкаў. Выбаршчыкі Дзятлава і навакольных вёсак у 1954 годзе ўваходзілі ў склад Навагрудскай выбарчай акругі. У Вярхоўны Савет СССР выбары адбыліся 14 сакавіка 1954 года. Выбары ў Вярхоўны Савет БССР былі прызначаны на канец года".*

*"Восенню 1954 года ў пасёлак Дзятлава прыехаў кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч, больш вядомы як Якуб Колас. Разам з ім быў яго сябар, беларускі паэт Максім Лужанін. Сустрэча была прызначана ў памяшканні Дзятлаўскага дома культуры, які размяшчаўся па вуліцы Чырвонаармейскай. Перад сустрэчай з выбаршчыкамі Якуб Колас у суправаджэнні прадстаўнікоў раёна пехатою абышоў ваколіцы Дзятлава. Ён адзначаў, что на палях вельмі шмат камення,"*- успамінае сведка той сустрэчы, ветэран педагагічнай працы Валуевіч Аляксандр Аляксандравіч. Затым кіраўнікі раёна і прадстаўнікі грамадскасці накіраваліся на сустрэчу з Якубам Коласам. Ад выбаршчыкаў даручана было выступіць Валуевічу А.А. з прамовай на 5-7 хвілін. Выступленне яго было праверана супрацоўнікамі аддзела агітацыі і прапаганды райкама партыі. Ён успамінае, што першым выступіў сакратар райкама Нікіценка. У сваёй прамове выступоўца спыніўся на вытворчых дасягненнях раёна. Затым выступіў Валуевіч А.А. Сваё выступленне ён скончыў словамі з верша "Мой родны кут, як ты мне мілы…". Выступіў з прамоваю і Якуб Колас, які расказваў пра развіццё БССР і адзначыў дасягненні нашых працаўнікоў.

Запомнілася Валуевічу А.А., што сказаў Я. Колас пра Дзятлаўскі раён: *"Бедны ваш раён, бедны, але вы сваімі рукамі і розумам станеце багатымі"*.

Пасля ўдзельнікі сустрэчы сфатаграфаваліся на памяць разам з Якубам Коласам, а ў зале аддзела міліцыі адбыўся святочны прыём.

Пасля смерці Якуба Коласа, у жніўні 1956 года,

адбыліся давыбары дэпутата. Ім стаў вядомы беларускі паэт Пятрусь Броўка.




***Кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР К.М. Міцкевіч сярод выбаршчыкаў Наваградскага раёна. 1954. Фота Аркадзя Перахода***

Адзін з экзэмпляраў фотаздымка сустрэчы знаходзіцца ў сямейным альбоме Несцярэўскага Мікалая Лаўрэнцьевіча, вядомага мастака-кераміста. Ён тады працаваў інструктарам Дзятлаўскага раённага дома культуры. Дзякуючы гэтаму фотаздымку і была ў 2013 годзе напісана карціна "Якуб Колас у Дзятлаве".

Сёння яна знаходзіцца ў фондах Дзятлаўскага гістарычна-краязнаўчага музея і часта экспануецца на выставах. Наведвальнікі музея могуць убачыць на карціне постаці народнага паэта БССР Якуба Коласа, Уладзіміра Мацюка, разьбяра па дрэве, які працаваў тады ў Доме культуры, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Марыі Ілюшанка, сакратароў райкама Нікіценкі і Болазева, інструктара райкама Кавальчука, інструктараў Дома культуры Несцярэўскага Мікалая і Хацяневіча Леаніда, сястру мастака Несцярэўскага Вольгу Сідар і іншых.



***Карціна "Якуб Колас у Дзятлаве". Напісана паводле фотаздымка ў 2013 г.***

Адна асоба, якая злучае дзве постаці беларускай літаратуры - Янку Купалу і Якуба Коласа і якая мела дачыненне да іх творчай дзейнасці, з'яўляецца заходнебеларускі паэт Валянцін Таўлай. Так, менавіта ён. Той, які пакінуў значны след у гісторыі рэгіянальнай (лідскай) беларускай літаратуры. З Ліды ён выйшаў паэтам у свае 7 гадоў… З Янкам Купалам Валянцін Таўлай быў знаёмы, калі вучыўся ў Менску на літаратурных курсах БДУ ў 1933 годзе, а таксама ён жа быў адказным за яго прыезд у Ліду на сустрэчу з лідзянамі. І нарэшце, Таўлай напрыканцы свайго жыцця працаваў у літаратурным музеі Янкі Купалы, у якім даследаваў жыццё і творчасць народнага паэта, збіраў архіўныя матэрыялы, быў намеснікам дырэктара музея, у жонкі песняра Уладзіславы Луцэвіч.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны, жывучы ў Менску, В. Таўлай меў месца жыхарства каля Нацыянальнай акадэміі навук у зялёных салдацкіх бараках, непадалёку ад якіх, за вялікім плотам, жыў Якуб Колас, з якім, бясспрэчна, сустракаўся, меў гутаркі.



***Першасны выгляд дома, у якім жыў Якуб Колас каля Акадэміі навук ў Менску***




***Праект архітэктара Георгія Заборскага па доме Якуба Коласа***

Не лішнім будзе, калі прыгадаецца і ўспамін Янкі Брыля.

*"Для зборніка беларускай сучаснай паэзіі, які мы складалі ў канцы сорак пятага года ўдвух з Валянцінам Таўлаем, патрэбны былі новыя вершы нашага патрыярха (Якуба Коласа). Ён жыў ужо ў сваім новым доміку побач з Акадэміяй Навук… У параўнанні са мной Валянцін быў старажылам ў літа-*



**Якуб Колас з гасцямі каля свайго дома. 1946 г.**



**Якуб Колас у садзе каля свайго дома. 1947 г.**

*ратуры, аднак і ён пайшоў па вершы да суседа не адзін, а папрасіў пасярэдніцтва ў П. Глебкі.*

*Студзёны лістападаўскі вечар. Мы ішлі паміж рэдкімі, працярэбленымі вайною соснамі на святло ў Коласавым акне, і Таўлай, чалавек не вельмі моцны ў гаспадарчых справах, па-свойму ціха і наіўна скардзіўся, што вось зіма пачалася, а дроў, браток Пятро Фёдаравіч, яшчэ няма.*

*- А піла ў цябе ёсць?*

*- Ёсць нейкая, браток.*

*- Што ж, дык давай вось утрох сасну павалім. Завалачом, парэжам.*

*- Ха!..*

*- А назаўтра стары (так паміж сабой паэты звалі Якуба Коласа - А.Х.) мне ж першаму і пазвоніць: "Пятрок, нехта, брат, сасонку спусціў. І яшчэ, свіння, пад самымі вокнамі!.. Трэба ўзяць панятых: след павёў да Таўлая…".*

*І мы, спыніўшыся, рагаталі тым смачным, здаровым смехам, які прыходзіць нячаста.*

*Аднак, нягледзячы на ўсю яго такую прастату, я на той раз падышоў са старэйшымі таварышамі толькі да брамкі ў высокім плоце, а потым вырашыў, што мне, можа, лепш пачакаць у Валянцінавай хаце".*

Аб гэтым нават узгадвала сястра В.Таўлая Ніна: *"Калі Валянцін атрымаў пакойчык у бараку, мы ўсе пераехалі з Навагрудка ў Мінск… Барак, куды мы пераехалі, знаходзіўся на акраіне парку Чалюскінцаў у Мінску недалёка ад Акадэміі Навук БССР. Праз дарожку ад нас быў дом, у якім жыў Якуб Колас. Ён любіў на ранку бегаць па сцежцы, абсаджанай акацыямі, побач з баракам. З другога боку праз невялікі пустыр знаходзілася клініка…" (з успамінаў Ніны Паўлаўны*



**Лідзія Казлоўская і Валянцін Таўлай каля баракаў Акадэміі навук БССР, 1946 год**




**Хатні адрас пражывання Якуба Коласа, дзе побач жыў і Валянцін Таўлай**

*Таўлай-Радзюкевіч "Раны сэрца майго", якія змешчаны ў літа-ратурна-мастацкім зборніку "Ад лідскіх муроў" у № 9 за 2016-2019 гг.*).

Дык вось, у фондах Дома Валянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея захоўваецца "Асабістая справа" старшага навуковага супрацоўніка Таўлая Валянціна Паўлавіча. У ёй змешчаны ўласнаручны запіс паэта ў рубрыцы "Хатні адрас", дзе пазначаны адрас яго пражывання. Гэта **"г. Мінск, вул. Пушкіна, 56"**. Такі ж адрас быў і ў Якуба Коласа. Яны былі суседзі.

У Доме Валянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея захоўваецца прыжыццёвае выданне народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, якое ў наступным, 2023 годзе адзначыць 105-гадовы юбілей з дня яе напісання (1918 г.). Гэта кніга - паэма "Сымон-музыка". Выдадзена Віленскім выдавецтвам таварыства "Пагоня" ў 1928 годзе ў друкарні імя Скарыны, якая размяшчалася па адрасе: Людвісарская, 1.




***Прыжыццёвыя кнігі "Сымон музыка. Поэма" і "У глыбі Палесься" Тараса Гушчы. Захоўваюцца ў фондах Лідскага гістарычна-мастацкага музея***

Адзін з паасобнікаў кнігі "Сымон-музыка" захоўваўся ў найстарэйшага краязнаўцы Лідчыны (вёска Сялец) Мікалая Мікалаевіча Дзікевіча.

Яго ён перадаў у фонды Лідскага гістарычна-мастацкага музея. Трэба зазначыць, што паасобнік кнігі "У глыбі Палесься" Тараса Гушчы (Якуба Коласа) таксама з сямейнага архіва М.М. Дзікевіча, які ў тым ліку быў перададзены ў фонды музея. Аб тым, як кніга "Сымон-музыка" трапіла яму і не толькі, ён падзяліўся ўспамінамі, змешчанымі ў "Лідскай газеце" за 05.10.2017 год у матэрыяле "Мікалай Дзікевіч: "Як я навучыўся чытаць і палюбіў беларускую мову"":

*"…Маёй першай чытанкай на рускай мове была кніжачка казак у фармаце алфавіта. Я не ведаў літар рускага алфавіта і прачытаць не мог - толькі разглядаў прыгожыя малюнкі на глянцавай паперы.*

*У дзяцінстве ў нашай хаце гучала беларуская мова. Мама наведвала школу няпоўны год, а распісацца пры атрыманні пенсіі магла толькі крыжыкамі. Мы з братамі Ціханам і Санем навучылі яе распісвацца, але ўжо польскімі літарамі. Размаўляла яна вельмі добра. З маленства ад бацькоў мной быў набыты навык размовы на роднай мове.*



***Мікалай Мікалаевіч Дзікевіч***

*Старэйшы брат Ціхан часта гасцяваў у бабулі Агаты і дзядулі Міхаіла, у цёткі Ядвісі і дзядзькі Валодзі. Паўсюдна чулася матчына мова.*

*Як трапляла беларуская літаратура ў Сялец? Невядома. Магчыма, яе прывозілі з Ліды. Аднак, добра памятаю аповеды мамы і брата Ціхана, як дзядзька Мікалай апранаў якаснае паліто з унутранымі кішэнямі, капялюш, браў модную палку і ездзіў у Вільню. Рызыкаваў, але прывозіў агітацыйныя ўлёткі. Напэўна, так да нас трапіла і паэма "Сымон-музыка" Якуба Коласа. Яна была прывезена з Ліды, а надрукавана ў 1928 годзе ў Вільні (перашапачаткова - у 1925 годзе ў Мінску).*

*Цяга да ведаў у маіх братоў была вялікай. Брат Ціхан пазней нават рашаў сыну квадратныя ўраўненні, папярэдне прачытаўшы тэорыю ў падручніку. Я пераняў у іх гэты навык чытання. Восенню 1937 года з бабуляй, на цёплай печы, пры пяцілінейнай лямпе, пачынаў "бэкаць" паэму "Сымон-музыка". Бабуля слухала ды казала: "Унуча, якая прыгожая і зразумелая мова! Чытай болей!" Напэўна, гэтыя словы былі для мяне не горш за цяперашнія настаўніцкія адзнакі.*

*Гучанне ў дзяцінстве роднай мовы ў хатнім асяроддзі, наведванне вясковай самадзейнасці, з'яўленне згаданай абшарпанай кніжкі, яе чытанне вызначылі накірунак майго жыцця…"*

Трапіла гэтае ўнікальнае выданне ў фонды музея

яшчэ і раней, у жніўні 1956 года, але яшчэ ад аднаго жыхара нашага горада - спадара Анацкі.

Крышку падрабязней пра гэтую кнігу.

Гэтае кранальнае выданне захоўваецца ў музеі пад нумарам 11. Знешні выгляд кнігі ўжо за сябе можа распавесці свой шлях выкарыстання. Названае выданне ўнутры не аздоблена малюнкамі, ні выявамі, калі не казаць пра знешнасць - вокладку з партрэтам аўтара Якуба Коласа і герба віленскага выдавецтва "Пагоня". На пажоўклых старонках можна заўважыць "сляды" чытачоў, што яшчэ раз даказвае аб тагачаснай яе папулярнасці. Але ўжо сам чытач-карыстальнік, як і сама кніга, увекавечыліся на старонках гэтага асобніка сваімі "аўтографамі" аздобіўшы рознымі завіткамі, кружочкамі, малюнкамі.

Крыху пра кампазіцыйную будову кнігі. Ёсць устаўны ліст "Галаўнейшыя друкарскія памылкі", на якім пазначаны карэктарскія абдрукоўкі на той ці іншай старонцы, радку, выпраўленне названай памылкі. Выданне складаецца з 212 старонак, кожная глава ці частка пачынаецца з новай старонкі. Канешне, у наш час правапіс зменены, унармаваны. А ў той час, калі пісалася паэма, дзейнічаў іншы правапіс - граматыка Тарашкевіча, словы мелі змякчаны варыянт, з мяккім знакам, існавалі і іншыя асаблівасці. Гэта заўважаецца ў нашым творы. Нават сама вокладка адлюстроўвае тагачасныя правілы беларускай мовы: назва твора "Сымон-музыка" напісана не праз злучок, а слова "Паэма" напісана праз "о". Пазней, канешне, твор быў перагледжаны і перапісаны ўжо па новых правілах беларускай літаратурнай мовы.

Крыху гісторыі пра напісанне паэмы. Твор пісаўся на працягу 14 гадоў. Калі Якуб Колас апынуўся за кратамі Менскага астрога за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе (9 ліпеня 1906 года свядомыя беларускія настаўнікі сабраліся на яго радзіме, каб паразважаць пра лёс беларускай мовы і і школы, нацыі, а іх вывіжавалі і зняволілі ахоўнікі тагачаснага рэжыму), а гэта былі 1908-1911 гады, пісьменнік не адмовіўся ад сваіх перакананняў і задумаў напісаць вялікія эпічныя творы, пачаў працаваць над паэмамі "Новая зямля" і "Сымон-музыка". У 1911 годзе і нарадзілася 1-ая частка паэмы, у 1912 годзе - 2-ая частка, 3-ая і 4-ая - у канцы 1917 года, а апошняя, 5-ая, у 1918 годзе. У часопісах "Вольная Беларусь" і "Вольны сцяг" паэма была змешчана па частках. Аднак, восенню, 1923 года Якуб Колас паспрабаваў пераасэнсаваць, перапрацаваць паэму. У чэрвені 1924 года Коласу, па рашэнні тагачаснай навуковай камісіі паспрыяла з'ездзіць у Кіславодск на папраўку здароўя, дзе адбывае каля месяца. Тут, у спрыяльных умовах шчыра захапляецца над працай - другой рэдакцыяй паэмы. 8 ліпеня ў лісце да жонкі Марыі Дзмітрыеўны, Колас шчыра радуецца: "Учора я… закончыў "Сымона-музыку", і, здаецца, закончыў някепска". І праз тыдзень, не маючы ўжо цікавасці да курортных даброт, ён імкнецца дадому, да любімай навуковай працы. Але на станцыі Ціхарэцкая праз адчыненае акно з перона крукам сцягваюць ягоную валізу, дзе знаходзіўся і рукапіс другой рэдакцыі паэмы "Сымон-музыка"… На ягоную скаргу з Растова-на-Доне яго суцешылі, што *"частка рэчаў і ў тым ліку і рукапіс знойдзены"* (факт, дакументальна засведчаны), ды… нічога яму не было вернута. У лісце даўняму сябру, у якога ў Растове-на-Доне гасцяваў перад гэтым, ён папрасіў таксама аб вышуку згубленага твора: *"Паэма перароблена, а ў мяне ніякіх слядоў ад яе не засталося… Рукапіс гэты выбіў мяне з сядла, дык парупся, браток"*. Ні чарнавіка, ні паперчыны так і не знайшлося з гэтай чарговай працы. І па сёння невядома: ён стаўся здабычай вакзальнага зладзюгана альбо прадумана быў выкрадзены і знішчаны? У жніўні пераадолеўшы засмучэнні, Колас пачынае трэці раз увасабляць задуму "Сымона-музыкі". Пераглядае па-новаму першую рэдакцыю паэмы (1911-1918), дзве трэці тэксту піша наноў. І ў чэрвені 1925-га з-пад пяра паэта ўсё ж такі выходзіць 3-ці варыянт гэтай паэмы. А ў ліпені-жніўні твор выходзіць у свет у часопісе "Полымя рэвалюцыі". Трэба зазначыць, што першы варыянт быў перагледжаны цэнзурай, шмат было выкраслена, зменена. Гэта давялося перажыць і трэцяму варыянту паэмы, які апошнім часам захоўваўся ў арыгінале ў малодшага сына пісьменніка Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча: каля 1500 розных выняткаў (!), антыаўтарскіх паправак і змен!



**_Урывак з паэмы. Аўтограф Я. Коласа. 1952 г._**

Аб чым паэма? Найперш раскрываецца тэма ролі мастацтва ў жыцці народа, вобраз таленавітага музыкі як носьбіта мастацтва, якое знаходзілася ў той час у цяжкім становішчы, адлюстроўваецца роздум пісьменніка над гістарычным лёсам беларускага народа і лёсам нацыянальнага мастацтва. Сам твор быў напісаны пад уражаннем апавядання жабрака, якое чуў пісьменнік у час вучобы ў семінарыі пра таленавітага хлопчыка, шмат выкарыстана сюжэтаў і ідэй з вуснай народнай творчасці, з карэла-фінскага эпасу "Калевала". Аднойчы, Якуб Колас прызнаўся, што гэта паэма аўтабіяграфічная: *"Сымона-музыку" я пачаў пісаць у 1911 годзе. Не памятаю пры якіх абставінах мяне зацікавіла адна думка - неразуменне натоўпам сапраўднага мастака… "Калевала" дала мне добры штуршок для работы. Вейнямейнен, разважаў я, памірае ад радасці і тады пакідае свае гуслі народу. Чаму ж мой Сымон павінен канаць толькі ступіўшы на дарогу? Хай прынясе людзям радасць і пасля гэтага перадасць у другія рукі скрыпку. Так пакрысе прыйшоў я да яснасці. Стала зразумела, што сіла музыкі стане куда большая, калі яна верне Ганю да жыцця, парушыць яе часовае здранцвенне. І няхай хлопец і дзяўчына ідуць далей разам, музыка і яго будучыня. На што канчаць нечым пэўным іх шляхі? Народ жа вечны, вечнае яго мастацтва, вечныя і творцы песні і казкі"*. Аўтар, нібы сам у вобразе Сымона, летуценнага хлопчыка, які ў кожнай рэчы, у кожным гуку бачыў незвычайную з'яву, аднойчы ўзгадаў: *"Любіў я вясною на ўсходзе сонца зашыцца куды-небудзь у куток і слухаць жаваранкаў. Мне тады здавалася, што я ведаю, аб чым яны спяваюць, я адрозніваў вясёлыя і слушныя іх песні, і мне нават здавалася, што жаваранкі ў другіх мясцінах не так спяваюць, як нашы"*. Гэтыя моманты прыроды, якія ляглі ў аснову неўміручага твора заўважаны былі будучым паэтам у мястэчку Ласток, дзе пражывала ў свой час сям'я Міцкевічаў. Паэма "Сымон-музыка" з'яўляецца праграмным творам у беларускай літаратуры. Не адно пакаленне вырасла на ім. І да гэтага часу твор з'яўляецца папулярным. Хаця паэма аўтарская, але яна ўжо можа называцца і народнай, бо яна перадаецца з пакалення ў пакаленне, з'яўляецца спадчынай беларуса. І хочацца верыць, што гэты твор сапраўды будзе неўміручым як і сам наш беларускі народ. У пачатку кнігі зазначана:

*"Беларускай моладзі сваю паэму прысвячае*
*АЎТАР".*

*Ад роднае зямлі, ад гоману бароў,*
*Ад казак вечароў,*
*Ад песень дудароў,*
*Ад светлых воблікаў закінутых дзяцей,*
*Ад шолаху начэй,*
*Ад тысячы ніцей,*
*З якіх аснована і выткана жыццё*
*І злучана быццё і небыццё, -*
*Збіраўся скарб, струменіўся няспынна,*
*Вясёлкавым ірдзеннем мне спяваў,*
*І выхаду шукаў*
*Адбітак родных з'яў*
*У словах-вобразах, у песнях вольнаплынных.*
*У гэты скарб, пазычаны, адбіты,*
*У сэрцы пераж ыты*
*І росамі абмыты*
*Дзянніц маіх, дзянніц маіх мінулых,*
*Для вас, душою чулых,*
*Як доўг, як дар,*
*Дае пясняр".*

У сталовай Дома Коласа знаходзіцца такі незвычайны набор посуду для крушону. Крушон - гэта халодны алкагольны напой з вінаграднага віна, зме-шанага з каньяком, лікёрам, шампанскім і свежай садавіной ці ягадамі. Набор посуду быў выраблены ў 1950-я гады на шклозаводзе "Нёман" і выкарыстоўваўся пасля смерці Якуба Коласа ў доме яго малодшага сына Міхася Міцкевіча.



***Набор посуду, які выраблены на шклозаводзе "Нёман" і захоўваўся ў Міхася Міцкевіча, а цяпер у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа***

Сустрэчы з вядомымі асобамі на сваім шляху заўсёды прыносяць асалоду. Менавіта з малодшым сынам Якуба Коласа Міхасём Канстанцінавіч Міцкевічам мне пашчасціла пабачыцца двойчы. І менавіта на юбілейныя ўгодкі яго славутага бацькі. Першы раз - у 2007-ым на 125-годдзі з дня нараджэння Янкі Купалы ў Вязынцы - радзіме беларускага песняра. Той дзень, як памятаю, быў дажджлівы. Але ж святу паэзіі гэтая непагадзь не замінала. Як і па ўстаноўленай традыцыі былі ўскладзены кветкі ля велічнага помніка. На мерапрыемства з'ехаліся вядомыя сучасныя класікі беларускай літаратуры. Сэрца замірала ад убачанага: гэта ж

тыя асобы, творы якіх вывучаюць у школьнай і ВНУ-шнай праграмах! Прызнаюся, што мала-памалу я цікавіўся маляваннем, лепш сказаць перамалёўваннем выяваў, партрэтаў вядомых дзеячоў культуры нашай краіны. І, вядома, з сабою ў дарогу да Паэта прыхапіў некалькі сваіх малюнкаў - партрэтаў: Янкі Купалы і Якуба Коласа. Дык вось, седзячы на лаве разам з лідскімі аматарамі жывога Купалава слова з парасонамі ў руках я сачыў за выхадам да мікрафона беларускіх паэтаў. І што важна, перада мною сядзеў хто-ніхто як сам Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч. Пасля выхаду да мікрафона, ён ціха сядзеў і слухаў выступленні іншых яго сяброў. Я, выкарыстаўшы момант, падышоў да яго і працягнуў свой "шэдэўр" яму на памяць. Праз пэўную хвіліну, Міхась Міцкевіч, глянуўшы на малюнак, прамовіў мне з жартам:

- Хлопчык, як я разумею, ты спрабаваў намаляваць майго бацьку? Але ж, мой харошы, гэтая выява больш падобная на мяне, бо Колас быў крыху худзейшы, чым на тваім малюнку, а я, наадварот, мажнейшы, як і сам бачыш. Але ж захаваю яго ў сябе.

Пасля пашчасціла мне сфатаграфавацца з вядомай асобай.



***Міхась Міцкевіч у Вязынцы. 2007 г.***



***На здымку злева направа: беларускі паэт Віктар Шніп, Алесь Хітрун, сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, лідзянка Аксана Басалай у Вязынцы на 125-годдзі з дня нараджэння Янкі Купалы. 2007 г.***



***Міхась Міцкевіч у Вязынцы і з Алесем Хітруном. Вязынка. 2007 г.***

Другая сустрэча адбылася праз дзесяць год, у 2017 годзе. Адбылася яна падчас камандзіроўкі ў Менск па рабочых пытаннях. Вырашыўшы іх, засталася вольная гадзіна. Я знаходзіўся непадалёку ад Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.



***Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа***

Завітаў туды, як калега, пагутарыў з навуковымі супрацоўнікамі. Ад іх я дазнаўся, што Міхась Міцкевіч жыве зусім побач з музеем, праз агароджу.

Але ж патрапіць да яго трэба толькі па запісе. Я адразу затурбаваўся: няўжо я не змагу нават убачыць яго дом? На шчасце, брамка была не замкнёнай. І я



*Дом, у якім жыў Міхась Міцкевіч*

ўвайшоў у двор. Дом двухпавярховы, у якім жывуць і іншыя сем'і. Заглянуў у дзверы (па сярэдзіне іх шкляная частка). Бачу: на калідоры Міхась Канстанцінавіч. Пагрукаў у іх. І праз хвіліну-другую яны адчыняюцца.

- Што хочаш? - прамовіў сын Я. Коласа.

- Вас наведаць. З Ліды я. З літаратурнага музея - доміка Таўлая.

- Вы хіба не па запісе?

- Не.

- Што ж, заходзьце.

І вось я ў кватэры сына вядомага класіка. Правёў мяне ў свой рабочы пакой. Сцены аздоблены карцінамі, сямейнымі здымкамі, сярод якіх невялікая фотагалерэя з жыцця Якуба Коласа. На стале - вялікія стосы папер.

І тут, мы пачынаем гаворку. Слова па слову і я дазнаюся, што Міхась Канстанцінавіч у свой час для Лідскай мэблевай фабрыкі вырабляў пэўныя дэталі для механізмаў. У тым, што яго славуты бацька неаднаразова вылучаўся ў дэпутаты па Навагрудскай акрузе мне падцвердзіў адназначна. Пашчасціла паслухаць вершы, калісьці напісаныя народным паэтам, а цяпер у ягоным выкананні. І тут, сын Коласа вырашаецца пазнаёміць мяне з вялікім стосамі папер. Што тут? Гэта фотаздымкі. Некалькі дзесяткаў. І ўсе цікавыя. Пра кожны з іх у Міхася Канстанцінавіча свая гісторыя, свой трапны і гумарыстычны аповед. Ён ведае іх лёс. Чаму так? Адказ ляжыць на паверхні. Ён у свой час захапляўся фотамастацтвам. Паступова сабралася свайго роду ўнікальная калекцыя фотаздымкаў, на якіх адлюстраваны найлепшыя імгненні з жыцця Якуба Коласа, цесця Янкі Маўра (жонка Міхася Канстанцінавіча - Наталля Іванаўна Фёдарава (1924-2012), дачка беларускага пісьменніка Янкі Маўра), крэўных і сяброў. Як прызнаўся мне, што яго захапленне майстэрствам фатаграфіі пачалося ў далёкім 1940 годзе. Першым фотаапаратам быў шырокафарматны Zeiss Ikon, які бацька, Якуб Колас, прывёз з Парыжа. Гэты фотаапарат Міхась Міцкевіч змог вывезці з Менска падчас Вялікай Айчыннай вайны і цяпер ён экспануецца ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа.

Трэба зазначыць, што Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч, унук лесніка і маладзейшы сын паэта, да пачатку Вялікай Айчыннай вайны закончыў восем класаў СШ № 49 г. Менска (I-VII класы вучыўся ў СШ № 14 Менска), з атэстатам выдатніка скончыў дзесяцігодку ў 1943 г. ў Ташкенце, дзе сям'я жыла ў эвакуацыі да вяртання ў 1947 г. ў Менск. Там жа, у Ташкенце, паступіў у Варонежскі авіяцыйны інстытут на машынабудаўнічы факультэт; у тым самым годзе перавёўся ў Маскоўскі авіяцыйны інстытут на аналагічны факультэт. У 1949 г. скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (цяпер БНТУ)





*Падчас сустрэчы ў кватэры Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча*

па спецыяльнасці "тэхналогія машынабудавання" і працаваў у Фізіка-тэхнічным інстытуце Нацыянальнай акадэміі навук на пасадзе малодшага навуковага супрацоўніка (1949-1961), галоўнага інжынера лабараторыі (1961-1968), загадчыка лабараторыі (1969-1993). З 1993 г. - галоўны навуковы супрацоўнік. Аўтар 150 навуковых прац і звыш 20 вынаходніцтваў. За распрацоўкі ў галіне тэхналогіі і абсталявання для электраэразійнай апрацоўкі металаў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй БССР (1980). Доктар тэхнічных навук (1985). Міхась Міцкевіч - майстар спорту СССР па стэндавай стральбе (браў удзел і быў прызёрам першай спартакіяды народаў СССР (1956)), якая мае вытокі ў сярэднявечных спаборніцтвах паляўнічых. Аматар пялявання, фатаграфій, складання эпіграм. Калі казаць пра літаратурную творчасць яго бацькі, то ён стаў прататыпам галоўнага героя дзіцячай паэмы Якуба Коласа "Міхасёвы прыгоды" (1934). Ма-

лодшаму сыну паэт прысвяціў таксама вершы: "Рагатка" (1934), "Дронік" (1935-1936), "Не тужы" (1939), "Сыну" (1942), "Міхасю" (1943), "…Адстану я, і час разлукі" (1946).

Што ж, час абмежаваны, дарога не блізкая. І я развітаўся з цікавым суразмоўцам у спадзяванні, што яшчэ не раз атрымаецца нам сустрэцца. Нажаль, Міхась Канстанцінавіч таксама пакінуў гэты свет. Яго не стала 27 траўня 2020 года. Пахаваны на вайсковых могілках побач з бацькам. Там, дзе спачывае яшчэ адзін юбіляр гэтага года - Янка Купала і іх таварыш па пяры Валянцін Таўлай.

Аднойчы пра сустрэчу з Якубам Коласам распавяла мне былая настаўніца беларускай мовы і літаратуры, лідская паэтэса Алеся Бурак, пра той час калі яна была яшчэ студэнткай. Аб гэтым было напісана ў матэрыяле "Заўсёды сэрца поўніцца тым, што вечна помніцца…" і змешчаны ў краязнаўчым, гістарычна-літаратурным часопісе "Лідскі летапісец" за № 4 (52).

*"…У той час не хадзілі ні аўтобусы, ні маршруткі: дабірацца дадому студэнтам было цяжка. А да бліжэйшай чыгуначнай станцыі з Дукоры, дзе яна жыла, была адлегласць 12 кіламетраў. Каб патрапіць у Менск, студэнтка Аляксандра ішла да станцыі пешшу, па чыгунцы. А з Менска ўжо дабіралася на спадарожных машынах, у большасці на грузавіках. Аднойчы яна выйшла на шашу з мэтай спыніць які-небудзь транспарт, каб дабрацца з Мінска да Дукоры. І тут легкавая машына прыпыняецца… Спераду сядзеў мужчына - пасажыр, які не адварочваючыся, з цікавасцю распытваў у дзяўчыны: дзе вучыцца, якая сям'я. Аляксандра, шчырая па натуры, расказвала, што яна студэнтка, едзе дадому, дзе яе чакае маці і тры малодшыя сястры, што бацька яе загінуў на вайне. З пачуццём болю ўспрыняў мужчына яе адказы. А калі даехалі да Дукоры, Аляксандра памкнулася заплаціць. І чалавек, які сядзеў на пярэднім сядзенні павярнуўся да яе. Гэта быў славуты Якуб Колас. Канешне, грошай ад яе за праезд ніхто не ўзяў…".*

Яшчэ адзін з успамінаў пра Якуба Коласа захаваўся ў удзельніцы партызанскага руху ў час Вялікай Айчыннай вайны, былой настаўніцы беларускай мовы і літаратуры, лідскай паэтэсы Веры Рыгораўны Ляцецкай, якая ў свой час аб гэтым напісала ў літаратурнамастацкім часопісе "Ад лідскіх муроў" № 5 за 2001 год у матэрыяле "Мой славуты зямляк".

*"Якуб Колас!.. Колькі ў двух гэтых словах велічы, мілагучнасці, радасці і смутку. Радасці ад таго, што ён жыў на нашай роднай зямлі для свайго народа, пісаў аб ім і для яго, быў вялікім педагогам, творы якога натхняюць наша сучаснае пакаленне на працоўныя подзвігі, вучаць любіць сваю Радзіму, родны край, той куток, дзе нарадзіўся і вырас. Сумна, што ён сёння не з намі. Колькі б цудоўных твораў ён яшчэ напісаў для свайго народа!*

*Якуб Колас - мой настаўнік, дарадца, зямляк. Дзякуючы яму, яго творам я стала выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе, з вялікім захапленнем, энтузіязмам працавала сорак гадоў на ніве народнай адукацыі.*

*Помню далёкія трыццатыя гады… Я тады вучылася ў Менскім польскім педтэхнікуме, які знаходзіўся па вуліцы Савецкай, 144. Мы часта запрашалі Канстанціна Міхайлавіча да нас на заняткі літаратурнага гуртка, дзе ён нам дэкламаваў вершы. Ды як дэкламаваў! Усёй сваёй істотай, сэрцам. Але больш ён любіў слухаць нас, чым выступаць сам. Мы чыталі яму свае першыя літаратурныя творы. Ён уважліва слухаў нашы вершы, даваў мудрыя парады. Помню яго словы адносна літгурткоўцаў: "Вядома, што не ўсе вы станеце паэтамі, празаікамі, але я веру, што на ўсё жыццё палюбіце свой край, народ, яго мову і літаратуру".*

*Якуб Колас - мой зямляк. Я нарадзілася на Уздзеншчыне ў вёсцы Язвіны, што за тры кіламетры ад Мікалаеўшчыны. Я часта бываю ў родных мясцінах, часам сяджу на беразе Нёмана, слухаю гамонку дубоў, шэпт нёманскіх хваль, хаджу па тых лугавых, баравых сцежках, дзе калісьці хадзіў мой вялікі зямляк. Натхненне зноў прыходзіць да мяне:*

*Вітаю Коласа мясціны,*
*туман над Нёманам, лясы,*
*і вас, грыбныя баравіны,*
*дзе зацвітаюць верасы.*

*Вітаю гнёзды буславыя,*
*над Нёманам, у сясняку,*
*дубы сівыя, векавыя*
*і гэту родную раку.*

*Вітаю белыя бярозы:*
*што шэпчуць з яварам, вярбой,*
*і вас, наднёманскія лозы,*
*якімі захапляўся ён.*

*Вітаю сцежкі баравыя,*
*што Юзік з Кастусём таптаў,*
*і вас, дарогі лугавыя,*
*якімі статак з поля гнаў.*

*Вітаю, ганаруся вамі,*
*зайздрошчу нават моцна вам:*
*былі вы сведкамі, сябрамі,*
*вам Колас душу адкрываў.*

*Пакінуць вас не маю сілы*
*і чую ціхі шэпат хваль:*
*"Мой родны кут!*
*Як ты мне мілы,*
*як ты мне любы, родны край!"*

*Скампанаваў і даследаваў*
***Алесь Хітрун,***
*навуковы супрацоўнік*
*Лідскага гістарычна-мастацкага музея.*

# Паэт, даследчык, краязнавец

*17 жніўня 2022 года адзначыў свой юбілей паэт, празаік, даследчык, краязнавец, навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, былы кіраўнік літаб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты"* ***Алесь Часлававіч Хітрун****.*



Нарадзіўся Алесь Хітрун 17 жніўня 1982 года ў вёсцы Крупава Лідскага раёна. У 1997 годзе скончыў Крупаўскую сярэднюю школу (9 класаў), у 1998-м - Першамайскую дзіцячую музычную школу мастацтваў (па класе баяна), у 2000 годзе - Лідскае ПТВ-196. Адслужыў у войсках ВПС і СПА - 127-й Лідскай зенітна-ракетнай часці і ў 206-й Лідскай штурмавой авіяцыйнай базе. Затым працягнуў вучобу. Завочна скончыў філалагічны факультэт аддзялення беларускай мовы і літаратуры Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (2007-2013 гг.). Працаваў у прыватных арганізацыях - рабочым у дрэваапрацоўчай фірме "ЛіДанія", а таксама тынкоўшчыкам і маляром будаўнічай фірмы "Фрост". З 2012 года працуе ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі, дзе цяпер з'яўляецца навуковым супрацоўнікам і куратарам Дома Валянціна Таўлая. З 2018 па 2020 год на базе другой вышэйшай адукацыі навучаўся ў Інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў УА "Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў" па спецыяльнасці перападрыхтоўкі "Камунікацыя ў сферы музейнай дзейнасці". На працягу сямі гадоў (2012-2019) узначальваў літаратурнае аб'яднанне "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты".

Акрамя таго што, як навуковы супрацоўнік, займаецца даследаваннямі, таксама піша вершы, апавяданні, перакладае на беларускую мову вершы іншых аўтараў. У 2017 годзе прымаў удзел у II Міжнародным моладзевым фестывалі-конкурсе паэзіі і паэтычных перакладаў "Берега дружбы" (Расія, Растоўская вобласць, Няклінаўскі раён, сяло Пакроўскае), у якім стаў фіналістам і лаўрэатам II ступені.

Вось што пісала пра паэзію Алеся Хітруна найстарэйшая лідская паэтэса Алеся Аляксандраўна Бурак: *"У паэтычных творах адчуваюцца непадробленая шчырасць, уменне назіраць за жыццёвымі з'явамі і аналізаваць іх, бачыць у акаляючым паэзію, прыкмячаць і трагічнае, і гумарыстычнае. Асабліва кранула мяне, выкладчыка беларускай мовы і літаратуры, выказаная ў яго творах нейкая апантаная любоў да бацькоўскіх мясцін, да роднай Беларусі і роднай мовы".*

З першай публікацыяй Алеся Хітруна напрыканцы 1998 года пазнаёміліся чытачы "Лідскай газеты" (з якой супрацоўнічае яшчэ са студэнцкіх гадоў), а ў 1999 годзе дэбютаваў тут з паэтычнымі творамі (верш "Песня салдату"). Першы празаічны твор - апавяданне-быль "Блукальнікі" - быў змешчаны ў альманаху "Ад лідскіх муроў" (№ 4, 2000 г.). Друкаваўся ў многіх газетах і часопісах. Яго паэтычныя і празаічныя творы, даследаванні, гумарыстычныя замалёўкі, рэпартажы і нататкі друкаваліся ў такіх выданнях, як "Лідская газета", "Гродзенская праўда", "Наша слова", "Лідскі летапісец", "Краязнаўчая газета", "Літаратура і мастацтва", "Настаўніцкая газета", "Маладзёжны кур'ер", "Слова жыцця", гумарыстычная газета "15 сутак". Яго мастацкія творы змяшчаліся і ў штогодніку "Галасы", у часопісе для дзяцей "Вясёлка", у часопісе сатыры і гумару "Вожык", штомесячным літаратурна-мастацкім і грамадска-палітычным ілюстраваным часопісе "Маладосць". Алесь Хітрун - аўтар найлепшай публікацыі ў намінацыі "Проза" (апавяданне "Хвёдар") сярод аўтараў часопіса "Маладосць" (2007). У 2008 годзе быў узнагароджаны Ганаровай граматай ад рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва". Атрымаў дыплом за актыўны ўдзел у фестывалі гумару "Пуд смеху" (2007).

Як куратар літаратурнага музея, Алесь Часлававіч сустракаўся з многімі вядомымі беларускімі пісьменнікамі, з некаторымі з іх падтрымлівае сувязь. Літаратары Лідчыны з задавальненнем згадваюць, як многа яркіх, цікавых сустрэч з дзеячамі беларускай літаратуры праводзілася ў рамках дзейнасці літаб'яднання "Суквецце" пад кіраўніцтвам Алеся Хітруна. Пры Алесю Хітруне ў "Суквецця" з'явілася і свая старонка ў сацыяльных сетках. Актыўная і шматгранная пад яго

кіраўніцтвам дзейнасць Дома Таўлая, дзе праходзіць шмат цікавых сустрэч і выстаў. Сярод самых новых праектаў Дома Таўлая, куратарам якіх з'яўляецца Алесь Хітрун, - выстава "Ізноўку наведаў Купала наш Ліду" (да 140-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы), выстава "Вераб'іная праСТОра" (да 100-годдзя першага верша Валянціна Таўлая "Верабейкі"), інклюзіўны праект "Перадай дабро па крузе" (сумесна з аддзяленнямі дзённага знаходжання для інвалідаў горада Ліды і горада Бярозаўкі, Лідскай аб'яднанай арганізацыяй ГА "Беларускае таварыства інвалідаў"). Алесь Часлававіч актыўна даследуе жыццёвы і творчы шлях заходнебеларускага паэта Валянціна Таўлая, яго сувязі з Лідчынай. У сферы яго даследчыцкіх інтарэсаў, якія ўваходзяць у цыкл навукова-даследчых прац "Пісьменнікі Беларусі: чарговыя разгадкі ў спадчыне Лідскага рэгіёна", і іншыя пісьменнікі (Янка Купала, Якуб Колас, Цётка, Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў, Ніна Тарас, Канстанцыя Буйло, Максім Гарэцкі, Максім Танк, Пятрусь Граніт, Васіль Струмень, Уладзімір Калеснік і інш.), якія маюць пэўнае дачыненне да лідскай зямлі. Дзякуючы яго намаганням Дом Таўлая папаўняецца новымі экспанатамі.

Вось што яшчэ пісала пра Алеся Хітруна тая ж Алеся Аляксандраўна Бурак, з якой ён шмат гадоў падтрымліваў сяброўскія адносіны: *"Гарачы прыхільнік беларускіх нацыянальных традыцый, няўрымслівы даследчык роднага краю, Алесь Хітрун не лічыўся са сваім часам, з матэрыяльнымі тратамі, не аднойчы пабываў на радзіме Янкі Купалы, наведвае гарады, дзе праходзіць свята беларускага пісьменства, пабываў у сталіцы беларускага гумару, а менавіта на адкрыцці музея гумару - у Аўцюках Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Ён быў удзельнікам адкрыцця музея-дачы Васіля Быкава ў Ждановічах. І сваімі ўражаннямі аб гэтых урачыстасцях дзеліцца з землякамі праз перыядычныя выданні. Малады творца сустракаўся і сустракаецца з многімі прадстаўнікамі культуры Беларусі, паэтамі і пісьменнікамі, з некаторымі сябруе. Перазвоньваецца з Данутай Бічэль, перапісваецца з Уладзімірам Ліпскім, Алесем Карлюкевічам, сустракаецца з Віктарам Праўдзіным, Віктарам Шніпам. У архіве Алеся Хітруна многа кніг з аўтографамі знакамітых літаратараў".*

Трэба адзначыць, што Алесь Часлававіч займаецца актыўным даследаваннем фальклору Лідчыны, вывучае мясцовую народную гаворку, геаграфічныя назвы, асабовыя імёны. Яго даследчыя матэрыялы, з якімі ўжо знаёмы чытачы, змешчаны, напрыклад, у зборніку навуковых артыкулаў "Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны" (2012 г.). Ён актыўны ўдзельнік навукова-практычных канферэнцый, якія праходзяць у Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы пад назвай "Лідскія чытанні", а таксама іншых канферэнцый рэспубліканскага значэння. Алесь Хітрун з асаблівай любоўю і павагай адносіцца да малой радзімы - вёскі Крупава. З'яўляючыся яе ўраджэнцам, ён даследуе гістарычнае мінулае свайго краю і свой радавод, па крупіцах збірае матэрыял для запланаваных кніг.




Ніжэй прапануем пазнаёміцца з вершамі Алеся Хітруна, напісанымі ў розныя гады.

**Я - Алесь, я - Хітрун**

Я з любімага, роднага поля,
Дзе жыта ласкава пяе,
Дзе вецер гуляе на волі,
Дзе сонца з-за лесу ўстае.

Я не буду ніколі Купалам,
Ды Пушкіным мне і не быць,
Бо пісаць вершы гэтак удала
Не змагу я, мне б колькі ні жыць.

Я, аднак, жыву творча і з Лірай
Дружыць буду як бард, як баюн.
Я жыву недалёка, за Лідай,
Невядомы пакуль вам -
Алесь я, Хітрун.

**Мая малая радзіма - Крупава**

Нарадзіўся я ў Беларусі,
Падарункам мне - мова мая.
Я радзімай сваёй ганаруся:
Тут жа хата мая і сям'я!

Даспадобы мне спеў жаўрукова,
Па-над хатаю клёкат буслоў,
Золкім ранкам рыканне каровы
І за вёскаю - гул трактароў.

Наталяюся тут сырадоем
Хвалі Крупкі палоняць ушыркі,
Ды каса вабіць летняй парою,
Каб п'янець з сакаўной асакі.

Сваю маці-Радзіму не кіну,
Бо яна ўзгадавала мяне…
І да самай апошняй хвіліны
Не дам ганьбіць ніколі яе.

**Малітва беларуса**

Прад табою, мой Божа,
Я ўпаду на калені.
На зямлі, як на ложы,
Прастаю ў маленні.

Памалюся за хату,
За радзіму, за род,
Каб заўжды быў багатым
Беларускі народ.

А яшчэ памалюся,
Каб не ўзнікла вайна,
Памалюся за мову,
Каб не ўмерла яна.

Каб яе ўсім сэрцам
Палюбіў кожны з нас,
Каб заўжды белы бусел
З поўдня лётаў да нас.

Каля свечкі нязгаснай
Галаву нахілю:
"Долі светлай і шчаснай
Дай мне, Божа, малю!"

**Парада**

Той, хто змалку зямлі не любіў,
Каму родная мова абрыдла
І з крыніцы вады не папіў,
Быў нікчэмным, бясклопатным з віду.

Хто ніколі людзей не цаніў,
Лёгкі хлеб палюбіў ён з укусу,
Шкадаваў свайго поту і сіл -
Не завецца ў нас беларусам.

Трэба быць змагаром за Айчыну,
Палюбіць ўсё жывое вакол,
Не хаваць мазалёў і маршчынаў
І заслужана сесці за стол,

Быць заўжды чулым сэрцам і духам,
Паспрыяць, памагчы без прымусу,
Да зямліцы прыпасць сярпом, плугам -
Толькі той варты быць беларусам!

**У абарону мовы**

Крыкнуць хочацца: "Даволі
Мову родную таптаць!"
Ды няўжо ніхто ніколі
Вам не зможа так сказаць:
- А навошта так балюча
Зневажаць яе і ганіць?
Мова ж песняю гаючай
Ашчаслівіць, не зняславіць.
Мова - бы вада з крыніцы,
Паспрабуйце прыгубіць,
Ёю можна наталіцца
І навечна палюбіць!

**Беларусі**

Ты - мая зямелька,
Я - твой каранёк,
У цябе - стагоддзі,
А ў мяне - дзянёк.

Ты - мая сцяжынка,
А я - твой слядок.
Ты - агню іскрынка,
Ну а я - дымок.

Ты - мая матуля,
А я - твой сынок,
Да сябе прытуліш -
Я твой слых і зрок.

Я табой ганаруся,
Бо ты - Беларусь.

**Думкі аб будучыні**

Мае гады адносіць вецер,
І дні пралятаюць, як хмары.
Не хочацца думаць аб смерці,
Сказаць хачу гэтай пачвары:

- Я мару найболей пабачыць
З таго, што дало мне жыццё,
Жыць доўга і пуста - то значыць,
Без следу пайсці ў небыццё.

Жыцця сэнс знайсці я імкнуся,
З надзеяй жыць у заўтрашнім дні,
І лёсу свайму пакланюся,
Бо шчасным я быў на зямлі.

**Маё крэда**

І куды б я ні паехаў,
Куды б лёс мяне ні кінуў,
Крыкну - і паўторыць рэха:
"Беларусь я не пакіну!"

*Падрыхтаваў Аляксей КРУПОВІЧ.*

***Станіслаў Суднік***

# Пытанне аднаўлення Лідскай ратушы

Магдэбургскае права склалася ў XII-XIII стагоддзях у нямецкім горадзе Магдэбургу. Яно давала гораду права на самакіраванне і ўласны суд, права зямельнай уласнасці і вызваленне ад большай часткі феадальных павіннасцяў. Яно было перанята многімі еўрапейскімі гарадамі, а з XIV стагоддзя пашырылася на гарады Вялікага Княства Літоўскага. На сучаснай тэрыторыі Беларусі налічваецца каля 60 гарадоў і былых мястэчак, якія мелі Магдэбургскае права. Ліда атрымала яго 17 верасня 1590 года, згодна з прывілеем, падпісаным каралём Польскім і Вялікім князем Літоўскім Жыгімонтам III Вазам. Вось як аб гэтым, у прыватнасці, сказана ў прывілеі: *"…жадаючы ў лепшым парадку мець горад Наш Ліду, даём падданым горада Лідскага права Магдэбургскае… Мы загадалі Нашым лістом прысвоіць пячатку гарадскую, гэта значыць ільва і два ключы перакрыжаваныя па-над ім"*.

Ратуша была неад'емным элементам горада, які меў Магдэбургскае права. Менавіта ў ёй павінны былі размяшчацца (і размяшчаліся) органы гарадскога самакіравання - рада (прататып гарадскога Савета), магістрат (накшталт сучаснага гарвыканкама), засядала лава (мясцовы суд, які разглядаў дробныя пытанні, у асноўным маёмасныя), тут знаходзіўся бургамістр.

Акрамя гэтага ратуша павінна была выконваць чыста ўтылітарныя функцыі, звязаныя з упарадкаваннем гандлю. Дарэчы, Магдэбургскае права атрымлівалі менавіта тыя гарады, у якіх быў добра развіты гандаль. І гэта з'яўляецца прычынай таго, што ратуша заўсёды будавалася на рынку. Менавіта ў ратушы захоўваліся меры і вагі, якія выкарыстоўваліся на рынку. У той час яшчэ не было Міжнароднай метрычнай сістэмы мер. У розных краінах, мясцовасцях яны былі розныя. Але з 1590 года ў Лідзе ў гэтым плане быў наведзены парадак. У прывілеі аб наданні ёй Магдэбургскага права ёсць такія радкі: *"Гэтаму гораду Лідскаму даём ва ўласнасць бочку меры кракаўскай чатыры карцы або семдзесят два гарнцы меры літоўскай для вымярэння ўсякага збожжа і ўстанаўляем гандлёвыя зборы па дзве манеты з бочкі"*. Такім чынам, у Лідзе з'явіліся стандартныя меры і вагі. Карэц - гэта коўш з вялікай ручкай, якім звычайна насыпалі зерне. Гарнец - таксама мера аб'ёму, толькі драбнейшая. Гарнцамі мералі і гарэлку. У ратушы таксама ляжалі гіры. Магчыма, быў сажань, якім мералі даўжыню.

Ратуша з'явілася адразу пасля надання гораду Магдэбургскага права. Яе пабудавалі за год-два.

Як выглядалі ў Лідзе сярэднявечныя драўляныя ратушы, мы не ведаем. Мы можам гаварыць толькі пра выгляд апошняй ратушы, якая функцыянавала па сваім прамым прызначэнні да 1795 года (у снежні гэтага года Магдэбургскае права ў Лідзе было адменена).



Жыгімонт III Ваза падпісаў прывілей г. Лідзе на Магдэбургскае права




Пячатка Лідскага магістрата за 1792 год

# Прывілей

## караля Польскага і Вялікага князя Літоўскага Жыгімонта III аб наданні гораду Лідзе Магдэбургскага права

*Мы Жыгімонт III, ласкаю Божаю кароль Польскі і г.д. абвяшчаем усім разам і кожнаму асобна, сучасным і будучым, каму гэта ведаць трэба: Мы, Гаспадар, жадаючы ў лепшым парадку мець горад Наш Ліду даём падданым горада Лідскага права Магдэбургскае і дазваляем гэтым Нашым лістом на ўсе часы. Да гэтага права для ўпрыгожання і прымнажэння, а таксама вядзення спраў судовых і гарадскіх Мы загадалі Нашым лістом прысвяціць пячатку гарадскую, гэта значыць ільва і два ключы перакрыжаваныя на-над і.п. Да гэтага вызваляем падданых Нашых горада Ліды ад усіх спраў земскіх В. К. Літоўскага і звычаяў, якія замінаюць Магдэбургскаму праву, вызваляючы таксама грамадзян Гэтага горада і яго ваколіц, што зараз жывуць і жыць будуць гэтым актам Нашым ад усялякай улады і кіравання ўсіх і кожнага асобна ўраднікаў Вялікага Княства Літоўскага: ваяводаў, кашталянаў, старастаў, дзяржаўцаў, падаткаў і ўсіх намеснікаў і перад імі ці адным з іх не будзе ні адзін з грамадзян адказваць ні за якія вялікія і малыя віны і злачынствы і плаціць штрафы. Толькі перад войтам, бурмістрам, радцамі, лаўнікамі Гэтага горада згодна звычаям Права паспалітага. Згодна з часам справы крывавыя, якія на лацінскай мове называюцца крыміналы, як злачынствы, забойствы, пашкоджанне ног, напад і іншыя падобныя справы, за якія пагражае вышэйшая мера пакарання падпадаюць пад суд войта, а перад бурмістрам і радцамі Гэтага горада вядуцца ўсялякія справы, якія на лацінскай мове называюцца цывільнымі, за гэтыя справы будуць адказваць кожнаму, хто паскардзіцца, як з Гэтага горада, так і пабочным перад судом бурмістра і радцаў у Гэтым згаданым горадзе. Згодна з вызначаным часам, карыстаючыся вялікай уладай весці справы, якія надлягаюць іх суду, судзіць без Нас і вінаватых караць адпаведна злачынству на законах Магдэбургскага права на аснове гэтага Нашага ліста і наданага ім права. Калі ж хто будзе наступаць незаконна, супраць усіх грамадзян Гэтага Нашага горада ці пабочных асобаў, і калі хто-небудзь адчуе сябе пакрыўджаным іх выракам ці пакараннем то яны могуць апеляваць супраць такога выраку і пакарання да Лідскага старасты, сучаснага ці наступнага, а пасля змеркавання старасты, калі будзе трэба, звярнуцца да Нас: Гаспадара. Староста кіруючыся не іншымі законамі, а толькі Магдэбургскім, прызначае на пасаду бурмістра Гэтага горада чалавека багамольнага, знаўцу Магдэбургскага права, які жыве ў Гэтым горадзе, і ніякага іншага, толькі з чатырох чалавек, якіх грамадзяне горада старасту прапанавалі і ўказалі, адзін з іх праз Нашага старасту сучаснага і наступнага, зацверджанага Нашай уладай, павінен быць выбраны і зацверджаны. Войта, чалавека багамольнага і пісьменнага, на суд якога ідуць справы крымінальныя, Мы на гэту пасаду з усёй уладай будзем звычайным лістом, які датычыцца толькі войта, зацвярджаць кожнага пажыццёва, ці на вызначаны Намі тэрмін і надзяляць зямлёй, а гэтай зямлі не можа быць больш, чым дзве валокі. Звыш таго абяцаем, што жадаючы аказаць гэтым Нашым падданым купцам, усякім рамеснікам, усім грамадзянам з ваколіц Гэтага горада Лідскага самую вялікую ласку, устанавіць у Гэтым горадзе Лідскім два кірмашы на кожны год, гэта значыць : першы на Новае лета, другі на свята Святога Крыжа, а гандаль у суботу кожнага тыдня дазваляем праводзіць згаданым грамадзянам лідскім. Гэтыя ўрачыстыя кірмашы і гандлі ў зададзеныя дні і час праводзіць спосабам паклікання грамадзян іншых гарадоў і мясцовасцяў Вялікага Княства Літоўскага і ўсім асобна сказаць купцам, фурманам, прадаўцам, перакупнікам, рамеснікам і людзям розных станаў, што ў згаданы горад Лідскі ў дні і час кірмашоў гадавых і гандляў можна ім з усімі таварамі для продажу любога наймення прыйсці ці прыехаць і гэтыя рэчы і тавары прадаваць, мяняць, купляць і весці іншыя гандлёвыя гешэфты з любымі асобамі, нягледзячы, адкуль хто прыехаў. Гэтаму гораду Лідскаму даём ва ўласнасць бочку меры кракаўскай чатыры*

карцы, або семдзесят два гарцы меры літоўскай для вымярэння ўсякага збожжа і ўстанаўляем гандлёвыя зборы на дзве манеты з бочкі. Так і ад іншых рэчаў прадажных і тавараў, як бы яны не называліся, у кожную суботу кожнага тыдня трэба браць частку ў гарадскую скарбніцу на карысць горада, акрамя лапатак і іншых набораў войта, ад людзей пабочных, якія будуць прыязджаць на гандаль, акрамя ўсіх мяшчан і грамадзян з ваколіц Ліды, якія павінны быць вызвалены ад розных гандлёвых збораў згодна звычаю іншых прывілеяваных гарадоў Нашых. Да гэтага згаданаму гораду Лідскаму, яго грамадзянам усе гарадскія землі, гэта значыць: у вуліцах, сядзібах, садах, засценках, сенакосах адмераныя і надзеленыя межамі і знакамі без памяншэння, а толькі, як Нашыя рэвізоры Гэтаму гораду надзялілі, гэтыя землі ў даўжыню і ў шырыню гэтым Нашым прывілеем даём у карыстанне з усімі абшарамі ім самім і іх нашчадкам згодна звычаю іншых Нашых прывілеяваных гарадоў. З гэтых гарадскіх зямель, дадзеных Гэтаму гораду кожны са згаданых мяшчан павінен усе падаткі, зборы і іншыя абавязкі згодна з Нашымі законамі Вялікага Княства Літоўскага, Намі зацверджанымі, паводле звычаю кожны год плаціць у Нашую скарбніцу. Даходы і падаткі гарадскія войт з засядацелямі Гэтага горада абавязаны збіраць і здаваць Нашаму Лідскаму старасту, а пры яго адсутнасці ўрадніку і браць на гэта квітанцыі і з кожнай квітанцыі ў гарадскую скарбніцу браць не больш шасці грошаў, каб жыхары горада Ліда пакрывалі патрэбнасці горада, утрыманне вуліц і дарог і іншыя гарадскія патрэбнасці, а самі таксама добра будавалі свае дамы. На пакорную іх просьбу з Нашай ласкі ўсе зборы і падаткі з дамоў, сядзіб і гарадскіх плошчаў усе грамадзяне горада згаданага Лідскага на аснове гэтага Нашага ліста, якім Мы на іх карысць падаравалі, не будуць плаціць на вечныя часы. Акрамя таго на патрэбнасці і на карысць Нашага згаданага горада даём гэтым прывілеем даходы розныя з лазні, вагаў і цырульні, якія жыхары горада хоцуць будаваць. Для бяспекі лазня павінна быць пабудавана ў баку ад горада і не адзін жыхар не мае права будаваць уласную лазню каля свайго дома, але мы пастанавілі, што павінна быць толькі адна агульная лазня. Жадаем таксама, каб шляхта, баяры, людзі службовыя, любога стану, якія ў загаданым Нашым горадзе маюць сядзібы, і якія ні Нашымі асаблівымі лістамі, ні статутамі Сойму не вызвалены ад гарадскіх абавязкаў з сваіх сядзібаў, таксама, як і грамадзяне лідскія згодна з такім жа правам без супраціву выконвалі ўсе абавязкі перад гарадскім кіраўніцтвам, як і ўсе лідскія грамадзяне на рынку, гарадскіх вуліцах, цераз рэчкі, канавы ў патрэбных месцах горада будавалі масты і масцілі дарогі, а таксама за свой кошт пабудавалі гарадскую ратушу, гадзіннік і хрысціянскую школу. Таксама дарогі і вялікія тракты ў межах гарадскіх зямель размешчаныя, павінны будуць рамантаваць. Пад і каля ратушы, якая павінна быць пабудавана, трэба стварыць агульныя гандлёвыя пункты і магазіны для складвання тавару і вядзення розных гандлёвых спраў. З гэтых гандлёвых пунктаў гарадское кіраўніцтва павінна браць падаткі і арэндную плату на карысць горада. Для бяспекі ад агню саладавы і піўзаводы павінны будавацца збоку ад горада. Для той жа бяспекі ад агню абавязваем усіх і кожнага асобна гараджан, каб муравалі і добра аздаблялі коміны. Хаця касцёл Лідскі быў святлейшымі папярэднікамі Нашымі пабудаваны і аддадзены гораду, то ў горадзе няма ніякай плошчы для бальніцы. Таму Нашыя лідскія мяшчане павінны ўказаць месца на рынку пад замкам, недалёка ад касцёла, каб на гэтым месцы была пабудавана бальніца. Для лепшай веры і сведчання ўсіх гэтых спраў, вышэй названых, Мы далі ўсім мяшчанам Нашага Лідскага горада цяперашнім і будучым гэты Наш ліст з подпісам Нашай рукой Каралеўскай, да якога загадалі павесіць Нашую пячатку. Напісана ў Варшаве года Божага нараджэння тысяча пяцьсот дзевяностага месяца верасня семнаццатага дня.

Подпіс рукі Яго Каралеўскай Міласці такімі словамі:

Жыгімонт кароль.

Фраш Валовіч пісар. Пячатка Вялікага Княства Літоўскага надвешана.

(Пераклад з лацінскай і польскай моваў магістра філасофіі В. Я. Гебельта, адаптацыя да сучаснай беларускай мовы Станіслава Судніка.)

# Прывілей

## караля Польскага і Вялікага князя Літоўскага Жыгімонта III аб наданні гораду Лідзе Магдэбургскага права

Мы, Жыгімонт III, ласкаю Божаю кароль Польскі і г.д. абвяшчаем усім разам і кожнаму асобна, сучасным і будучым, каму гэта ведаць трэба: Мы, Гаспадар, жадаючы ў лепшым парадку мець горад Наш Ліду, даём падданым горада Лідскага права Магдэбургскае і дазваляем гэтым Нашым лістом на ўсе часы. Да гэтага права для ўпрыгожвання і прыўмножвання, а таксама вядзення спраў судовых і гарадскіх Мы загадалі Нашым лістом прысвоіць пячатку гарадскую, гэта значыць ільва і два ключы перакрыжаваныя па-над ім. Да гэтага вызваляем падданых Нашых горада Ліды ад усіх спраў земскіх В. К. Літоўскага і звычаяў, якія замінаюць Магдэбургскаму праву, вызваляючы таксама грамадзян гэтага горада і яго ваколіц, што зараз жывуць і жыць будуць гэтым актам Нашым ад усялякай улады і кіравання ўсіх і кожнага асобна ўраднікаў Вялікага Княства Літоўскага: ваяводаў, кашталянаў, старастаў, дзяржаўцаў падаткаў і ўсіх наméснікаў, і перад імі ці адным з іх не будзе ні адзін з грамадзян адказваць ні за якія вялікія і малыя віны і злачынствы і плаціць штрафы. Толькі перад войтам, бурмістрам, радцамі, лаўнікамі Гэтага горада згодна звычаям Права паспалітага. Згодна з часам справы крывавыя, якія на лацінскай мове называюцца "крыміналы", як зладзействы, забойствы, пашкоджанне ног, падпал і іншыя падобныя справы, за якія пагражае вышэйшая мера пакарання падпадаюць пад суд войта, а перад бурмістрам і радцамі Гэтага горада вядуцца ўсялякія справы, якія на лацінскай мове называюцца цывільнымі, за гэтыя справы будуць адказваць кожнаму, хто паскардзіцца як з Гэтага горада, так і пабочным перад судом бурмістра і радцаў у Гэтым згаданым горадзе. Згодна з вызначаным часам, карыстаючыся вялікай уладай весці справы, якія падлягаюць іх суду, судзіць без Нас і вінаватых караць адпаведна злачынству па законах Магдэбургскага права на аснове гэтага Нашага ліста і нададзенага ім права... Староста, кіруючыся не іншымі законамі, а толькі Магдэбургскім, прызначае на пасаду бурмістра Гэтага горада чалавека багамольнага, знаўцу Магдэбургскага права, які жыве ў гэтым горадзе, і ніякага іншага, толькі з чатырох чалавек, якіх грамадзяне горада старасту прапанавалі і ўказалі, адзін з іх праз Нашага старасту сучаснага і наступнага, зацверджанага Нашай уладай, павінен быць выбраны і зацверджаны. Войта, чалавека багамольнага і пісьменнага, на суд якога ідуць справы крымінальныя, Мы на гэтую пасаду з усёй уладай будзем звычайным лістом, які тычыцца толькі войта зацвярджаць кожнага пажыццёва ці на вызначаны Намі тэрмін і надзяляць зямлёй, а гэтай зямлі не можа быць больш, чым дзве валокі. Звыш таго абяцаем, што жадаючы аказаць гэтым Нашым падданым купцам, усякім рамеснікам, усім грамадзянам з ваколіц Гэтага горада Лідскага самую вялікую ласку, устанавіць у гэтым горадзе Лідскім два кірмашы на кожны год, гэта значыць: першы на Новае лета, другі на свята Святога Крыжа, а гандаль у суботу кожнага тыдня дазваляем праводзіць згаданым грамадзянам лідскім... Гэтаму гораду Лідскаму даём ва ўласнасць бочку меры кракаўскай чатыры карцы або семдзесят два гарнцы меры літоўскай для вымярэння ўсякага збожжа і ўстанаўляем гандлёвыя зборы па дзве манеты з бочкі... Да гэтага згаданаму гораду Лідскаму, яго грамадзянам усе гарадскія землі, гэта значыць: у вуліцах, сядзібах, садах, засценках, сенакосах адмераныя і падзеленыя межамі і знакамі без памяншэння, а толькі як Нашыя рэвізоры Гэтаму гораду падзялілі, гэтыя землі ў даўжыню і ў шырыню гэтым Нашым прывілеем даём у карыстанне з усімі абшарамі ім самім і іх нашчадкам згодна звычаю іншых Нашых прывілеяваных гарадоў... Напісана ў Варшаве года Божага нараджэння тысяча пяцьсот дзевяностага, месяца верасня, сямнаццатага дня.

Подпіс рукі Яго Каралеўскай Міласці такімі словамі:

Жыгімонт, кароль.

Яраш Валовіч, пісар.

Пячатка Вялікага Княства Літоўскага падвешана.

---

У Расійскай імперыі пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай праводзілася нейкая інвентарызацыя зямель, нерухомасці. У 1803 годзе інвентарызацыя закранула і Ліду. У Лідскім гістарычна-мастацкім музеі захоўваюцца арыгінальныя чарцяжы галоўнага фасада, планаў першага і другога паверхаў будынка, які было прынята лічыць ратушай. Праўда, у подпісах не ўказана, што гэта менавіта ратуша. Але ў 1803 годзе гэты будынак і не мог існаваць пад назвай "ратуша" - у Расійскай імперыі Магдэбургскага права ніколі не было.

На адным з памяшканняў захаваўся надпіс "магістрат". Можа, выпадкова (бо ў Расійскай імперыі аналагічная ўстанова называлася "присутственное место"), а можа, не лічылі патрэбным яго замяніць. Гэты надпіс, зрабілі выснову супрацоўнікі музея, можа быць сур'ёзным сведчаннем таго, што перад намі менавіта чарцяжы ратушы.

Гэтыя чарцяжы, за адсутнасцю іншых, а таксама пазіцыя супрацоўнікаў музея, што, верагодна, гэты будынак і ёсць ратуша, зрушылі грамадскасць да работ па падрыхтоўцы да аднаўлення ратушы.

Узніклі наступныя пытанні.







**1. Месца**

Накладваючы карты розных часоў адна на адну мы вызначылі месца размяшчэння адной з ратуш у 17-м стагоддзі. На карце горада гэта прыблізна будынак 11. Там зараз шматпавярховы, шматкватэрны дом.

Улічваючы, што ўвесь цэнтр Ліды выгараў некалькі разоў, прынамсі нават той будынак, планы якога мы маем, згарэў яшчэ ў 1891 годзе, а ў 1941 годзе цэнтр не толькі выгараў, а быў і разбомблены, знайсці падмуркі ратушы нават у 1944 годзе было малаверагодным, а пасля савецкай забудовы гэта проста немагчыма. Таму ні пра якую рэстаўрацыю ці рэканструкцыю ратушы на старым месцы гаворка не вядзецца. Гаворка ідзе пра аднаўлення сімвала, пра новабуд, і ўжо не так прынцыпова важна, дзе адноўленая ратуша будзе стаяць. Асабліва, калі ўлічыць, што на працягу стагоддзяў забудова горада дынамічна мянялася. Самая першая ратуша наогул была недзе ў раёне магазіна "Юбілейны".



***Пустыр за магазінам "Віцязь" па Савецкай 16, прапанаваны пад ратушу***




Зразумела, ніхто зараз зносіць пяціпавярхоўку не будзе. Мы прапануем іншае месца - пляц на рагу вуліц Савецкай і Таўлая, прыкладна, дзе раней быў стары гарадскі Дом культуры. Дакладней - за магазінам "Віцязь" (былой бібліятэкай), перпендыкулярна яму, каб бакавы фасад ратушы-навабуда глядзеў на магазін, а галоўны фасад выходзіў на вуліцу Таўлая і глядзеў (як і ў ратушы-папярэдніцы) на замак. Атрымліваецца, ратуша будзе стаяць амаль паралельна пацiпавярхоўцы, толькі на другі бок вуліцы Савецкай. І я не бачу ў гэтым вялікай трагедыі. Нямала вядомых аб'ектаў стаяць не на першапачатковых месцах (напрыклад, помнік Пушкіну ў Маскве). Такім чынам, галоўны фасад выходзіў бы на вуліцу Таўлая, а вакол трох астатніх фасадаў мы прапануем дабудаваць

двухпавярховыя гандлёвыя рады (у гэтую забудову арганічна ўпісваецца будынак былой бібліятэкі - ён стаў бы адным з крылаў гандлёвых радоў).

**2. Функцыянальнае прызначэнне**

Ратуша павінна будзе шырока выкарыстоўвацца. Фактычна гэта павінен быць дублёр выканкама для асабліва ўрачыстых мерапрыемстваў.

Частка памяшканняў магла б выкарыстоўвацца як непасрэдна музей самой ратушы і адначасова быць як бы "неафіцыйным райвыканкамам". Той жа архіў райвыканкама мог бы знаходзіцца на першым паверсе, там, дзе ён у ратушы і знаходзіўся.

Гэта павінен быць магутны культурны цэнтр. Зала першага паверха бачыцца “Канцлерскай залай”, дзе стаялі б раставыя фігуры канцлераў Вялікага Княства Літоў-скага. Са спіска выбіраем па меры неабходнасці 10-12 найбольш годных і звязаных з Лідай (у адпаведнасці з праектнай калькасцю праёмаў). Амаль поўны спіс канцлераў ВКЛ:

1. Судзівой Валімонтавіч (1441)
2. Міхал Кезгайла (1444-1476)
3. Алехна Судзімонтавіч (1478-1491)
4. Мікалай Радзівіл «Стары» (1492-1510)
5. Мікалай Радзівіл (1510-1522)
6. Альбрэхт Гаштольд (1522-1539)
7. Ян Юр’евіч Глябовіч (1546-1549)
8. Мікалай Радзівіл «Чорны» (1550-1565)
9. Мікалай Радзівіл «Руды» (1566-1579)
10. Астафій Валовіч (1579-1587)
11. Леў Сапега (1589-1623)
12. Альбрэхт Станіслаў Радзівіл (1623-1656)
13. Крыштаф Жыгімонт Пац (1658-1684)
14. Марцыян Аляксандр Агінскі (1684-1690)
15. Дамінік Мікалай Радзівіл (1690-1697)
16. Кароль Станіслаў Радзівіл (1698-1719)
17. Міхал Серваты Вішнявецкі (1720-1735)
18. Ян Фрыдарык Сапега (1735-1751)
19. Фрыдарык Міхал Чартарыйскі (1752-1775)
20. Аляксандр Міхал Сапега (1775-1793)
21. Яўхім Храптовіч (1793-1795)

Партрэты амаль усіх канцлераў ёсць. У Лідзе ёсць каму зрабіць скульптуры.

Зала афармляецца як актавая, для ўрачыстых мерапрыемстваў

На 2-м паверсе - зала Бальная. На сценах патрэты ўсіх лідскіх старастаў. Спіс старастаў ёсць. Дадаць трэба толькі партрэты старшынь выканкамаў ад 1939 г. да нашага часу. У мяне перад вачамі - выява магчымай афішы: "Баль у Лідскай ратушы".

**3. Выгляд**

Грамадскасць прапануе паставіць ратушу ў цэнтры горада. А як яна будзе выглядаць, як упішацца ў забудову, якая ўжо існуе? І як яна наогул выглядала? У нас жа нават больш-менш прыстойнага малюнка не было.

Пачалося з таго, што мы пільна ўглядаліся ў чарцяжы 1803 года і прыкідвалі на паперы магчымыя варыянты. Потым на іх аснове малюнак гэтага будынка зрабіў лідскі скульптар Вадзім Вараб'ёў. А ўжо абапіраючыся на тыя малюнкі бярозаўскі скульптар Яўген Лукашэвіч зрабіў класічны макет з белай паперы і картону.

Форма даху на чарцяжы 1803 года і на макеце







адрозніваецца. На чарцяжы мы бачым просценькі дах з чатырма схіламі. Але мы палічылі, што дах стаў такім пасля таго, як яго перарабілі пасля аднаго з пажараў. І калі гэта - сапраўды ратуша, то дах, хутчэй за ўсё, быў іншай формы. Якой? На макеце прапанаваны варыянт: двухсхільны дах з характэрнымі франтонамі ў стылі барока. Чаму гэты стыль? Мы зыходзілі з таго, што прыкладна ў тыя часы, калі будавалася апошняя ратуша, у Лідзе ў стылі барока быў пабудаваны (у 1770 годзе) Фарны касцёл. Калі гэта сапраўды так, то архітэктура ратушы павінна была падтрымліваць архітэктуру Фарнага касцёла.

Ратуша адназначна будавалася да XIX стагоддзя, так што за кошт гэтых франтонаў мы прыблізна вярнулі яе ў XVIII стагоддзе (у больш ранні перыяд - не мэтазгодна, бо чарцяжы ўсё ж датуюцца 1803 годам).

Гэта не быў праект ратушы. І не рабочы макет ратушы. Гэта, хутчэй, была ідэя. Гэты ідэйны макет ратушы быў падрыхтаваны да канферэнцыі з нагоды 425-х угодкаў надання Лідзе Магдэбургскага права, якую планавалася правесці 18 верасня 2015 года ў музеі. Канферэнцыя ў музеі не адбылася, тым не менш мы пачалі прапагандаваць гэты макет. Зрабілі электронную кампазіцыю, упісаўшы мвкет у забудову горада. Размясцілі ў горадзе адпаведны банер, але нідзе не пісалі, што гэта ратуша.






***Банер у Лідзе***

І вось наступіў 2019 год.

Леанід Лаўрэш прапанаваў надрукаваць у “Лідскім летапісцы” малюнкі Ліды, зробленыя нямецкімі мастакамі ў 1918 годзе і ў першую чаргу з кнігі доктара Карла Фогеля “Ліда некалі і цяпер”. Кніга даўно


LIDA

EINST UND JETZT

von Dr. Karl Vogel

Zum 21. Sept. 1917 herausgegeben vom

MILITÄRKREISAMT LIDA

вядомая ў Лідзе, у кнізе вялікі тэкставы блок, але ніхто не браўся перакласці гэты блок з-за шырокага прымянення гатычнага шрыфту, пакуль гэта не зрабіў Арцём Суднік, які жыве ў Саарбрукене. І вось гэты пераклад паставіў усё з галавы на ногі. Тэкст Карла Фогеля ўтрымоўвае ў тым ліку і пераказ гісторыі Ліды на аснове інфармацыі, запазычанай у Міхала Шымялевіча. І ў гэтым тэксце ёсць такая фраза: *“Нажаль, згарэла ў 1891 годзе таксама і старая ратуша, што была ў 18 стагоддзі пабудавана і ўпрыгожана калонамі і калоннымі заламі”.*

З гэтай фразы выцякае, што інфармацыю пра ратушу Карл Фогель мог узяць як у Шымялевіча, так і ў многіх мясцовых жыхароў, якія ў 1918 годзе вельмі добра памяталі пажар 1891 года.

З гэтай фразы мы бачым, што будынак, які разглядаўся раней, не адпавядае пададзенаму тут апісанню - не мае ні калонаў, ні калонных залаў. А што мы маем у наваколлі адпаведнае гэтаму апісанню. Не забягаючы за 100 кіламетраў мы бачым Віленскую ратушу, якая цалкам адпавядае апісанню. Зусім лагічна, што Лідская ратуша магла быць падобнай на Віленскую, лагічна, што магла быць меншай, але стыль мусіў быць захаваным. І мы мусім павярнуцца тварам да новай інфармацыі.



**Віленская ратуша ў наш час**



**Віленская ратуша ў 18-м стагоддзі**

Відавочна, Лідская ратуша была закрыта як такая пасля далучэння Лідчыны да Расіі. Невядома, як ратуша перажыла паўстанне Касцюшкі і Напалеонаўскую вайну. Прынамсі, тады не змаглі захаваць вежы фарнага касцёла, касцёл кармелітаў. Хутчэй за ўсё стан ратушы быў дрэнны, бо М. Шымялевіч у канцы 19 стагоддзя згадвае вялікую развалюху, якая таксама не перажыла пажар 1891 года.

Таму мы не можам нічога прыдумаць лепшага, як арыентавацца на Віленскую ратушу.

Сёння Віленская ратуша не мае вежы, але некалі мела, і Лідская ратуша вежу мусіць мець. Адбудоўваць - дык адбудоўваць. І вернуцца такія атрыбуты, як гадзіннік, званы.

Лідскае БТІ прапрацавала фасад Лідскай ратушы. ў адпаведнасці з тэхнічным заданнем, якое прадугледжвала, як і раней, ратушу з двухпавярховымі гандлёвымі радамі, адно крыло якіх ёсць магазін “Віцязь” па вул. Савецкая, 16. Хоць пры рэалізацыі праекта, магчыма, будзе выгадней магазін знесці і зрабіць усё новае.



**Лідскае БТІ прапрацавала фасад Лідскай ратушы. Тут асноўны аб’ём падоўжны, за фасадам**




Магчыма, мясцовасць не дазволіць такі варыянт. Тады асноўны аб’ём можа быць размешчаны папярок фасаду.




**4. Хто і за якія сродкі ўвасобіць гэта ў рэальнасць?**

Безумоўна, трэба шукаць інвестара.

Як варыянт, можна паставіць умову: інвестар за свае сродкі будуе аб'ект, і яму за гэта перадаюцца ва ўласнасць гандлёвыя рады. А ў гандлёвых радах, у адным крыле, можна (ёсць такая светлая мара) аднавіць Лідскі вернісаж, дзе б карціны выстаўляліся і прадаваліся. У гандлёвых радах (у іншых крылах) таксама могуць размяшчацца гасцініца (напрыклад, з назвай "Ля ратушы"), рэстаран. А для горада будзе ратуша.

На Беларусі ратуш лічаная колькасць, а ў Расіі толькі адна - на былой фінскай тэрыторыі, у Выбаргу. Пры такім "раскладзе" ратуша магла б стаць адметнай "фішкай" Ліды. Пры жаданні, можна ператварыць гэты аб'ект у своеасаблівы куточак Сярэднявечча ў Лідзе. І хутка ўсе б забыліся (дакладней, не надавалі б увагі), што гэта навабуд. Але спачатку патрэбны рашэнне выканкама, воля і жаданне на ўзроўні ўладаў гэта здзейсніць.

Будынак Лідскай ратушы можа быць меншым за будынак Віленскай ратушы, але не можа мець менш за два паверхі. Акрамя таго гарышча, цокальны паверх вежы. Прынцыповым уяўляецца мець дзве залы, бо было напісана: “калонныя залы”.

Зрэшты ўсё гэта вырашаецца пры стварэнні тэхнічнага задання на праектаванне ратушы.

А на цэнтральнай плошчы горада, блізка ад таго месца, дзе стаяла апошняя ратуша можна будзе паставіць інфармацыйнае табло з указаннем на новую ратушу. Балазе там будзе толькі цераз вуліцу перайсці.

Паколькі да 700-годдзя Ліды засталося вельмі мала часу, то на гэтым этапе неабходна паспець прыняць усе рашэнні і на Дзень горада - 2023 асвяціць вуглавы камень Лідскай ратушы. І зрабіць гэта рэальна.

Рэалізацыя праекта “Лідская ратуша”, як і ранейшыя (установка помніка Ф. Скарыну, аднаўленне Лідскага замка, установка коннага помніка вялікаму князю Гедыміну) паслужыць далейшаму пад’ёму турыстычнай прыцягальнасці г. Ліды. А яшчэ аднаўленне Лідскай ратушы дазволіць не адстаць ад Гародні і Наваградка, дзе пытанні аднаўлення ратуш таксама стаяць на павестцы дня.

*Я выказваю падзяку карэспандэнтам “Лідскай газеты”, якія падтрымлівалі ідэю аднаўлення ратушы ў публікацыях і ілюстрацыях, некаторыя з якіх скарыстаны ў гэтым артыкуле.*

*Леанід Лаўрэш*

# Лідскія прывілеі ў архіве Лідскага магістрата, 1785 г.

Мне ў рукі патрапіў вельмі цікавы дакумент - спіс прывілеяў і актаў нашага горада, якія захоўваліся ў Лідскім магістраце ў 1785 г. Спіс быў складзены пісарам горада Яго Каралеўскай Мосці Ліды Ігнацыем Ёчам 1 кастрычніка таго ж года па загадзе лідскай Камісіі добрага парадку (гл. дадаткі).

Камісіі добрага парадку (лац.: Boni Ordinis) - органы адміністрацыі ў гарадах з каралеўскай юрысдыкцыяй Рэчы Паспалітай. Яны пачалі ствараццa з 1765 г. і першым горадам, дзе для размеркавання даходаў з'явілася такая камісія, была Варшава. Сойм 1768 г. стварыў падобныя камісіі для ўладкавання фінансаў і гаспадаркі буйных гарадоў і мястэчак. З 1777 г. юрыдычны статус камісій афармляўся каралеўскімі прывілеямі і членаў камісій прызначаў кароль. Камісіі добрага парадку вызначалі гарадскія даходы, клапаціліся пра стан гарадской гаспадаркі, займаліся даглядам убогіх і хворых за кошт царкоўных ахвяраванняў. Чатырохгадовы сойм 1788-1792 гг. замяніў камісіі добрага парадку Камісіямі парадкавымі цывільна-войсковымі і Камісіяй паліцыі абодвух народаў[1].

Акрамя прывілея 1590 г. з наданнем Лідзе Магдэбургскага права, аб наяўнасці іншых Лідскіх прывілеяў мала што вядома. Здаецца, упершыню прывілей з наданнем Лідзе Магдэбурскага права надрукавала Ванда Равінская ў першым нумары "Лідскай Зямлі" за 1938 г.[2], пра гэта я напішу ў іншых нумарах нашага часопіса.

Вось што пра некаторыя Лідскія прывілеі раней было вядома з выдатнай кнігі Напалеона Роўбы:

- Уладзіслаў IV 20 жніўня 1640 г. у Варшаве пацвярджае для Ліды Магдэбурскае права ва ўсіх яго пунктах, клаўзулах, умовах і параграфах.

- 19 красавіка 1670 г. кароль у Варшаве сваім прывілеям пацвердзіў Лідзе Магдэбургскае права.

- Аўгуст II 7 жніўня 1727 г. (у Роўбы памылка, насамрэч 7 верасня 1729 г.) пацвярджае прывілеі сваіх папярэднікаў, зацвярджае гандлёвы падатак з крам і бойняў. Аўгуст III 12 лістапада 1744 г. пацвердзіў усе гэтыя прывілеі, а прывілей 1776 г. залічыў Ліду да ліку тых літоўскіх гарадоў, якія захавалі Магдэбурскае права. З гэтага часу Ліда ізноў паволі ўздымаецца. У 1784-1787 гг. камісія "Boni Ordinis" пераглядае ўмовы і гарадскія выплаты[3].

У 1792 г. апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі яшчэ раз пацвердзіў усе правы нашаму гораду і яшчэ раз зацвердзіў наш герб, якім мы карыстаемся да гэтага часу. Нагадаю, што лепшы лідскі гісторык XX ст. Міхал Шымялевіч гэтак раскрыў сімвалічны сэнс нашага герба: *"Ключы - вольнасць, леў - незалежнасць, а атуленая каралеўскай мантыяй тарча герба - каралеўскую апеку"* [4].

Дататкі:

**Рэестр прывілеяў і ўсялякіх актаў горада Яго Каралеўскай Мосці Ліды, складзены па загадзе Камісіі добрага парадку, 1785 г., 1 кастрычніка**[5]

1590, 17 верасня. Прывілей караля Жыгімона III гораду Яго Каралеўскай Мосці Лідзе (прывілей з наданнем Магдэбургскага права - *Л. Л.*), 1 асобнік.

1640, 20 жніўня. Прывілей Уладзіслава IV таму ж самаму гораду, 1 асобнік.

1670, 19 красавіка. Прывілей караля Міхала, 1 (асобнік).

1729, 7 верасня. Прывілей Аўгуста II, 1 асобнік.

1744, 12 лістапада. Прывілей Аўгуста III, 1 (асобнік).

1767, 12 студзеня. Прывілей, які пацвярджае папярэднія прывілеі, Найяснейшага Станіслава Аўгуста, які пануе зараз. 1 (асобнік).

**Акты**

Кніга першая прызнанняў і актаў ад 1696 да 1749 г., 1 (асобнік).

Кніга другая прызнанняў і актаў ад 1750 да 1760 г., 1 (асобнік).

Кніга трэцяя прызнанняў і актаў ад 1716 да 1785 г., дзейсная і зараз, 1 (асобнік).

Пратакол Дэкрэтаў ад 1739 г. да 1762 г. а таксама ранейшых Рэестраў тры штукі, (разам) 4 (асобнікі).

1772 г. Рэестр судовы, актараў[6], 1 (асобнік).

1785, 25 лютага. Другі рэестр актараў, 1 (асобнік).

Адзін пратакол прызнанняў і актаў.

Адзін маніфестовы пратакол.

Гэты рэестр падпісаў: / Подпіс/
**Ігнацый Ёч**,
пісар горада Яго Каралеўскай Мосці Ліды.

---

[1] Анішчанка, Я. Камісіі добрага парадку // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2007. С. 25.

[2] Rewinska Wanda. Miasta i miasteczka magdeburskie w wojewodztwach wilenskim i nowogrodzkim // Ziemia Lidzka. 1938. № 1. S. 5-7.

[3] Rouba Napoleon. Przewodnik po Litwie i Bialejrusi. Wilna, 1909. S.107-109.

[4] Abramowicz Wladyslaw. Herb miasta Lidy // Ziemia Lidzka. 1937. № 3. S. 1.

[5] Vilnius University Library. F5. A 21-4276/1. Regestr Przywilejow y wszelkich Aktow Miasta JKmsci Lidy z nakazu Dekretu Komissyi Boni Ordinis.

[6] Спіс спраў, упісаных у судовы рэестр. - *Л. Л.*

*Леанід Лаўрэш*

# Падымны рэестр шляхты Лідскага павета, 1728 г.[1]

Друкую ў гэты нумары "Летапісца" пераклад на сучасную беларускую мову найцікавейшага падымнага рэестра лідскай шляхты 1728 г. Покуль, гэта самы ранні падымны рэестр, які я знайшоў. Падымныя рэестры цікавыя нам прозвішчамі шляхты, яе маёмасным станам, прозвішчамі святароў, назвамі населеных пунктаў і шмат яшчэ чым. У аўтэнтычнай граматыцы рэестра 1728 г. яшчэ бачны моцны ўплыў старабеларускай мовы, што я імкнуўся перадаць у сваім перакладзе. Напрыклад замест "maejntnosc" пісар у 1728 г. пісаў "imienia", а прозвішча Нарбут пісаў яшчэ з адным "t" у канцы як "Narbut" замест "Narbutt", як пісалася трошкі пазней.

Падымны рэестр 1728 г. кладзецца ў скарбонку ведаў пра нашу родную Лідчыну.

**Лідская парафія**

(Пачатак старонкі пашкоджаны)

Ягамосць пані **Давідавічова** … і пан **Ежы Круповіч** з Заполля, адзін дым.

Яп **Адам Данэйка** з Заполля, два з паловай застаўныя дымы.

Яп **Юзаф Ёдка** з Ёдкаўшчыны, адзін дым.

Яп **Мацей Ёдка** з Верх Ліды, адзін дым.

Яп **Мікалай Вайніловіч** з Верх Ліды, тры чвэрці дыма.

Яп **Ян Мізгір** з Перапечыц, адзін дым.

Яп **Мікалай Руцкі** з Бердаўкі, адзін дым.

Яп **Стэфан Дзмітравіч Калясінскі** з Калясішчаў, адзін дым.

Ягамосць пані (удава) **Андрэя Гадэбскага**, пінская стольнікава з маёнтка Жыжма, 15 дымоў.

Яп **Ян Колышка** з Колышкаў каля Верх Ліды, тры чвэрці дыма.

Яп **Ежы Пацэвіч** з Ёдкаўшчны, палова дыма.

Яп **Самуэль Домаслаўскі** з маёнтка Сялец з карчмой і млынам, дзевяноста сем дымоў.

Яп **Андрэй Генрык Домаслаўскі** …

(Пачатак старонкі пашкоджаны)

Яп **Эльяш Хруль** з Верх Ліды Чэхаўскай, адзін дым. Ён жа ў застаўных Скрэбнях, адзін дым.

Яп **Мікалай Жучкекіч** з маёнтка Калясішчы, палова дыма.

Яп **Ян Клюкевіч** з Калясішчаў, палова дыма.

Яп **Мікалай Колышка** з Колышкаў Чэхаўскіх, адзін дым.

Яп (удава) **Кшыштафа Былінскага** з Клепцаўшчыны, тры чвэрці дыма.

Яп **Канстанты Дзімітравіч Калясінскі** з Астроўлі Траццякоўскай, адзін дым.

Яп **Войцах Стацэвіч** з Верх Ліды Жырмунскай, адзін дым.

Яп **Марцін Дзімітравіч Калясінскі** з маёнтка Калясішчы, тры чвэрці дыма.

Яп **Станіслаў Навіцкі** з Малай Крупы (зараз, Крупава - *Л. Л.*), паўтара дыма.

Яп **Ян Данілкевіч** з Клепцаўшчыны, адзін дым.

Ягамосць пані (удава) **Ежы Кржчановіча** з Лайкаўшчыны, адзін дым.

Яп **Самуэль Радзівілавіч** з Ольжава, тры чвэрці дыма.

ЯВ паны **Ян і Юзаф Альшэўскія** з Ольжава Нелюшоўшчыны (?), 16 дымоў.

Яп **Юзаф Альшэўскі** з Вострава з карчмой, 28 дымоў.

Яп **Ежы Залескі** з Багдзёўскага, адзін дым.

Ягамосць пані (удава) **Якуба Залескага** з Заполля Карэйваўшчыны, палова дыма.

Яп **Ежы Каўнацкі** з Багдзёўскага, зараз Яп **Стэфан Контрым**, тры чвэрці дыма.

Той жа з Ольжава, адзін дым.

Яп **Кшыштаф Болтуць** з Балтуцёўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Міхал Болтуць** з Балтуцёўскага і Пасвяркоўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Ян Жункевіч** з Зайчыц, адзін дым.

Яп **Вацлаў Мейнартовіч** з Навапрудцаў, дванаццаць дымоў.

Яп **Войцех Стацэвіч** з Перапечыц, купіў у **Марціна Перапечы** шэсць з паловай дымоў.

Яп **Ян Араноўскі** з Вінькаўшчыны, чатыры з паловай дымы.

Яп **Казімір Радзімінскі Францкевіч**, войскі і падстараста лідскі, з Агароднікаў (там) два, у Лідзе на Каменцы, адзін дым.

Яп **Канстанты Кунцэвіч** з карчмы ў Лідзе, палова дыма.

Яп **Эльяш Пайнвід**, лідскі падкаморы з Двара ў Лідзе, адзін дым.

Яп **Кшыштаф Хадкоўскі** з застаўных падданых у Жырмунах і Цябах, два дымы.

Айцец **Яўстах Гладкевіч**, лідскі святар, палова дыма.

Айцец **Павел Данецкі**, жыжамскі святар, палова дыма.

[1] Vilnius University Library. F. 5. Ap. 8. B. 1915. Podymny rejestr szlachty powiatu Lidzkiego, 1728.

### Белагрудская парафія

ЯВ ксёндз **Станіслаў Рыхтар**, плябан белагрудскі, тры дымы.

Яп **Базыль Навіцкі**, з Расцеўскага, адзін дым.

Яп **Тукала** з Белагруды Тукалаўскай, два з паловай дымы.

Яп **Міхал Феліцыян Шамёт** з маёнтка Старая Дзітва Шамятоўская (разам) з дакупленай у Чарташэўскага і Шамётаў, сем з паловай дымоў.

Яп **Ян Рац** з Данешыўшыны, адзін дым.

Яп **Станіслаў Тукала** з Ольжава Тукалаўскага, тры дымы.

ЯВ **ксяндзы лідскія кармеліты** з маёмасці Ольжава з млынам каля Палубнікаў, трыццаць два дымы.

Ягамосць пані **Шамятова**, суддзёва, з Тарноўшчыны, з карчмой сорак сем дымоў.

**Белагруда з вёскай Гарні**, пяць дымоў.

**Шчытнікі**, чатыры дымы.

Яп **Павел Маршкоўскі** са Старай Дзітвы, застаўной ад Яп **Кастравіцкага**, пяць дымоў.

Вяльможны Яго Мосць пан **Дэ Кампа Сцыпіён** з фальварка Палубнікі ад Ольжава, восем дымоў[2].

### Еленская парафія

Яп **Стэфан Юхновіч** з Астравухаў, адзін дым.

Яп **Ян Буткевіч** з Крывічоў, 4 дымы.

Яп **Францішак Юрэвіч** з Дзітрыкаўшчыны, два дымы.

Яп **Мікалай Абрамовіч** з Ельні, адзін дым.

Замест Яп **Аляксандра Навіцкага** з маёнтка Ельня Ягамосць пані **Дарота Міткавічоўна Навіцкая** з трыма чвэрцямі дыма і **Самуэль Навіцкі** з таго ж маёнтка Ельня з чвэрцю дыма, разам адзін дым.

Яп **Тэадор Астравух** з Астравухаў, адзін дым.

Яп **Андрэй Астравух** з Астравухаў, адзін дым.

Яп **Самуэль Астравух** з Астравухаў, адзін дым.

Яп **Сарока**, ваўкавыскі скарбнік з маёнтка Істакі, дзевятнаццаць дымоў.

Яп **Уладзіслаў Навіцкі** з маёнтка Ельня з сынамі, разам з дакупленымі, 3 дымы.

Яп **Марцін Ютоўскі** з Ельні Дзітрыкаўшчыны, адзін дым.

Яп **Міхал Данэйка** з Дзітрыкаўшчыны, застаўныя тры дымы.

Яп **Казімір Калусоўскі**[3], ваўкавыскі лоўчы з маёмасці Няцеча, 27 дымоў.

У **Няцецкай плябаніі**, чатыры дымы.

Яп **Ланеўскі-Воўк** з Хацяновічаў, васямнаццаць дымоў.

Ад тых жа Хацяновічаў Казляны Яп **Улаховіча**, 5 дымоў.

Што дае ўсяго разам дваццаць тры дымы.

Яп **Юзаф Грыневіч** з Голдава і Малышамі, дваццаць пяць дымоў.

**Маёнтак Беліца** з фальваркамі, млынамі і корчмамі, трыста шаснаццаць дымоў.

**Андрушоўшчына**, ад той жа Беліцы, сто дымоў.

Фальварак Пацукі ці Смолач, ад той жа Беліцы, зараз Яп **Пятра Гаўрулевіча**, адзін дым.

Яп **Самуэль Домаслаўскі** з маёнтка Стокі, які ад Беліцы, семдзесят тры дымы.

Яп **Мікалай Масявіч** з Канбашан, тры дыма.

**Збор Беліцкі і Дакудаўскі**, два дымы[4].

ЯВ **ксяндзы дамініканцы Еленскія** з маёнткам Ельня Талкоўшчына, дваццаць адзін дым.

Вяльможны ЯВп **Пацей**, ваявода Віцебскі з маёнтка Івашкевічы з вёскай Навасады, дзевяноста пяць дымоў.

Яп **Самуэль Шумскі**, староста Гняўчыцкі з маёнткам Бучалак, адзін дым.

### Ваверская і Дылеўская парафіі

ЯВ **ксёндз плябан ваверскі і дылеўскі** з сваёй плябаніяй, чатыры дымы.

Яп **Кшыштаф Бярнацкі** з Верх Ваверкі, палова дыма.

Яп **Стэфан Вінча** з Азяльмоўскага Габрылаўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Міхал Вінча** з Дайнавы, тры чвэрці дыма.

Ягамосці паны **Халхоўскія** з Радзівонішак, шэсцьдзесят адзін дым.

Яп **Казімір Гурыновіч** з Верх Ваверкі, тры і тры чвэрці дыма.

Яп **Стэфан Вінча** з Ваверкі, тры чвэрці дыма.

Яп **Міхал Кандрат** з Верх Ваверкі, тры чвэрці дыма.

Ягамосць пані (удава) **Міхала Шалевіча** з Верх Ваверкі, адзін дым.

Яп **Ян Вінча** з Дайнавы Вінчаўскай, палова дыма.

Яп **Казімір Хадыка Вінча** з Вінчоўскага Радзівілаўскага[5], палова дыма.

Яп **Кшыштаф Вінча** з Дайнавы Вінчаўскай, тры чвэрці дыма.

Яп **Ян Якубавіч Вінча** з Вінчоўскага Радзівілаўскага, палова дыма.

Яп **Станіслаў Роўба** з Роўбіка, тры чвэрці дыма.

Яп **Ежы Роўба** з Роўбікава, тры чвэрці дыма.

Яп **Барталамей Роўба** з Роўбікава, тры чвэрці дыма.

Ягамосць пані (удава) **Стэфана Быкоўскага** з Пелясы Юндзілаўскай, тры дымы. Гэтая ж Ягамосць у Пелясе Купчоўскай з Міхневічам, 2 дымы. У Пелясе

---

[2] Лідскі староста.

[3] У іншых крыніцах Калушэўскі.

[4] Пратэстанскія зборы ў Дакудава і Беліцы. Нагадаю, што Дакудава ў той час нават у дакументах называлася "пратэстанскім мястэчкам".

[5] Пэўна, каля сучасных Радзівілаўцаў.

Фёдараўскай адзін дым. Гэтая ж Ягамосць у Лябёдцы Быкоўскай адзін дым.

Яп **Шышка**, лідскі стольнік, у маёнтку Шэмякоўшчына, 20 дымоў.

Яп **Кшыштаф Роўба** з Юрчэўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Марцін Роўба** з Роўбікаўскіх, тры чвэрці дыма.

Яп **Ежы Чапля** з Пацаўскага Чаплінскага, адзін дым.

Яп **Юзаф Лойка** з Радзівілаўскага, палова дыма.

Яп **Казімір Валенцінавіч Вінча** з Вінчаўскіх, чвэрць дыма.

Яп **Аляксандр Станіслававіч Вінча** з Вінчаўскай Банеўскай, тры чвэрці дыма.

Яп **Уладзіслаў Стацкевіч** з маёнтка Верх Лебяда Ваверка, тры чвэрці дыма.

Яп **Ян Каламыцкі** з Юркаўшчыны, тры чвэрці дыма.

Яп **Пётр Круповіч** з Вінчаўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Пётр Юхновіч** з Вінчаўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Аляксандр Касперавіч Вінча**, лідскі гродскі суддзя з сваіх маёнткаў Каспераўшчына і Багданаўшчына (разам) з дакупленай, 8 дымоў.

Яп **Феліцыян Сумарок** з Лебяды Яцкаўскай, адзін дым.

Яп **Казімір Круповіч** з Лябёдкі Гінцаўскай, тры чвэрці дыма.

Яп **Якуб Чапля** з Пузаўшчыны Вайцахоўскай, тры чвэрці дыма.

Яп **Войцех Круповіч** з Лябёдкі Плонкаўшчыны, тры чвэрці дыма.

Яп **Ежы Станкевіч** з Станкоўшыны, тры чвэрці дыма.

Ягамосць пані **Крысціна Ечарынская** з Кульвічашак, тры чвэрці дыма.

Яп **Андрэй Вінча** з Вінчаўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Адам Фяткевіч** з Вінчаўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Андрэй Знамяроўскі і Ян Грышан** з маёнтка Грышаноў Вінчаўскіх, адзін дым.

Ягамосць пані (удава) **Казіміра Барташэвіча** з Вінчаўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Ежы Пузевіч** з Вінчаўскага, палова дыма.

Яп **Казімір Кампіцкі** з Юраўшчыны, палова дыма.

Яп **Ян Раманоўскі** з Янкоўшчыны, адзін дым.

Яп **Міхал Станіслаў** Вінча з маёнтка Ансельмаўскага, палова дыма.

Яп **Томаш Вінча** з Вінчаўскага Шымкевічаўскага, чвэрць дыма.

Яп **Мацей Шмігера** з Мікуланскаў, тры чвэрці дыма.

Яп **Міхал Смаляк** з Роўбіч, тры чвэрці дыма.

Яп **Ян Роўба** з Роўбавіч, тры чвэрці дыма.

Яп **Міхал Шмігера** са Шмігераўшчыны, трэ чвэрці дыма.

Яп **Станіслаў Юр'евіч Вінча** з Багданаўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Войцех Мацей** з Лепаўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Адам Шмігера** з Вінчаўскага, палова дыма.

Яп **Міхал Залескі** з Вінчаўчаўскай, палова дыма.

Яп **Казімір Суркант** ... з Вінчаўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Ян Вінча** з Вінчаўскага, палова дыма.

Яп **Самуэль Роўба** з Роўбаўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Якуб Кулеша** са Станкоўскага, адзін дым.

Яп **Самуэль Ляскевіч** са Станкоўскага, адзін дым.

Ягамосць пані (удава) **Яна Роўбы** са Станкоўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Данель Палуян** з Роўбіч, тры чвэрці дыма.

Яп **Міхал Вінча** з Вінчаўскай, палова дыма.

Ягамосць пані **Канстанцыя Бжазінская Кастравіцкая** з Паперні, сорак дзевяць дымоў. Тая ж пані з застаўной вёскі Яп **Кастравіцкага**, 7 дымоў.

Яп **Самуэль Кастравіцкі** з маёнтка Дзітва з карчмой ў Мыто, чатырнаццаць дымоў. Таго жа, ад падданых у Ваверцы пані Кансоўскай, два дымы. Таго ж Ягамосці у застаўной Дзітве паноў **Акалова, Майсевіча, Граеўскага, Рацкевіча** тры і тры чвэрці дыма.

Яп **Андрэй Мацэвіч** з радзівілаўскага Вінчаўскага, палова дыма.

Яп **Ян Цяцянец** з Вінчаўскага, палова дыма.

Яп **Казімір Роўба** з Раўбовіч, тры чвэрці дыма.

Яп **Ваўжынец Яноўскі** з Раўбовіч, тры чвэрці дыма.

Яп **Міхал Грышкевіч** з Раўбоў, тры чвэрці дыма.

Яп **Пётр Янавіч Роўба** з Раўбовіч, тры чвэрці дыма.

Яп **Канстанты Руканец** з Цедароўшчыны, тры чвэрці дыма.

Ягамосць пані **Кацярына Кміцянка Грэгарова Роўбіна** з Раўбовіч, тры чвэрці дыма.

Яп **Багуслава Гейштоўская** з Ваверкі, тры дымы.

Яп **Станіслаў Ёдка** з Раўбовіч, тры чвэрці дыма.

Вяльможны пан **Валь**, гарадзенскі харунжы з Ваверкі Нарушэвічаўскай, васямнаццаць і палова дыма.

Яп **Ян Ждановіч Роўба** з Роўбавіч, тры чвэрці дыма.

Яп **Міхал Адамавіч Роўба** з Раўбовіч, тры чвэрці дыма.

Яп **Адам Сумарок** з Лябёдкі Яцкоўскай вячыстай ад Яп Францішка, дзесяць дымоў.

Айцец **Міхал Глямбоцкі**, святар Мытлянскай плябаніі, тры чвэрці дыма.

Яп **Аляксандр Францкевіч**, судзіч земскі лідскі з маёнтка Дзітва Талвашоўская з карчмой, дваццаць тры дымы.

Ягамосць пані **Алена Шалевічоўна Вінчына** з Ваверкі, палова дыма.

Яп **Аляксандр Вінча** з Вінчоўскага, палова дыма.

**Васілішская парафія**

 Япп **Міхал Бранеўскі** і … **Догель** са Старога Двара, пяць дымоў.

Яп **Міхал Александровіч**, пісар земскі лідскі з Гаўдзішак з дакупленай Аколічаўскай, пяць дымоў.

Яп **Якуб Адамовіч** з Нявішы, палова дыма.

Яп **Сымон Гейштар**, суддзя гродскі Троцкі са Старога Двара, пасля паноў **Нябескага, Стралкоўскага і Жахоўскага**, дванаццаць з паловай двароў. Ён жа з Ганчароўшчыны пасля Яп **Нарбута**, адзін дым.

Яп **Шапскі з Ганчароўшчыны**, тры чвэрці дыма.

Яп **Стэфан Стацкевіч** з Верх Лебяды, палова дыма.

Яп **Тэадор Стацкевіч** з Верх Лебяды, тры чвэрці дыма.

Яп **Данель Шалевіч** з Лебяды Багуматкаўскай, адзін дым.

Яп **Адам Вайніловіч** з Уладкаўшчыны, адзін дым.

Яп **Людвік Гурыновіч** з Гайкаўшчыны, пяць дымоў.

Раней маёмасць **Яп Мікалая Ланеўскага** з Лелюшоўцаў, зараз Яп **Аляксандра Бейнаровіча**, два дымы.

Яп **Станіслаў Казімір Міткевіч** з Лелюшоўцаў, адзін дым.

Яп **Марцін Квінта** з Лебяды Квінцінскай, два дымы.

Яп **Міхал Шалевіч** з Лебяды Лелюшоўскай, адзін дым.

Яп **Павел Зброжак** з Лебяды, тры чвэрці дыма.

Яп **Павел Квінта** з Лябецкага, тры чвэрці дыма.

Яп **Аляксандр Дзежыц** з Казулішчак, тры чвэрці дыма.

Ягамосць пані **Кацярына Дзежыцава Лангарульская** з Нявішы, тры чвэрці дыма.

Яп **Зыгмунт Гладовіч** з Лебяды Квінцінскай, тры чвэрці дыма.

Яп **Алена Верцялкоўна Цыбовічава** з Лычкова, тры чвэрці дыма.

Яп **Андрэй Снадзкі** з Ладыхі, адзін застаўны дым.

Яп **Фелыцыян Гурыновіч** з Гайкаўшчыны, восем дымоў.

Ягамосць пані (удава) **Станіслава Чапскага** з Станялішак, тры чвэрці дыма.

Яп **Станіслаў Адамовіч** з Нявішы, палова дыма.

Вяльможны Яп **Лукаш Александровіч**, харунжы і судовы падстараста Лідскага павета з маёнтка Шайбакішкі з Дэмбіна, тры дымы. Гэтага ж Яп дакупленыя ад Яп **Гурыновіча** Снапкоўшчына з Малых Шайбакішак, два дымы.

Яп **Ян Быкоўскі** з Лябёдкі, адзін дым.

Яп **Андрэй Талочка** з Разнятыч, адзін дым.

Яп **Пёра** з Лябёдкі Шуляйкоўскай, дзевяць дымоў.

Яп **Стэфан Яшэўскі** з Гаўдзішак, адзін з паловай дым.

Яп **Стэфан Радзімінскі Францкевіч**, староста Трабскі з маёнтка Касцянёва, яго частка … пяцьдзесят дзевяць дымоў.

Яп **Марцін Радзімінскі Францкевіч**, падстолі мозырскі з Касцянёва, яго частка пасля падзелу Галавічполя з Баярамі, дваццаць два з паловай дымы. Гурнофель, дваццаць адзін дым.

Яп **Ходараўскі** з Хадыкаў, … адзін дым.

Яп **Адам Сумарок** з Яталцішак, чатыры дымы.

Яп **Феліцыян Даўгірд** з Лябёдкі Багуматаўскай, два з паловай дымы.

Яп **Кладзіслаў Карэйва** са Старога Двара Даўгірдаўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Мацей Макарэвіч** з Нявішы, палова дыма.

Яп **Аляксандр Бейнаровіч** з Лычкава, адзін дым.

Яп **Ян Бейнаровіч** з Лычкава, адзін дым.

Вяльможны Яп **Літаў**, маршалак Старадубскі з маёнтка Лебяда Трызнянская, сто дзевятнаццаць дымоў.

**Малая Лябёдка** Вяльможнага Яп **Навасельскага**, кашталяна Навадворскага з корчмамі ў Васілішках, трыццаць сем дымоў. З застаўной вёскі Яп **Андрэя Тукалы**, адзін і тры чвэрці дыма. З застаўной вёскі ад Яп **Міхала Шалевіча**, адзін дым.

Япп **Ежы Міткевіч і Міхал Ямант Палевіч** з Рудава, адзін дым.

Яп **Міхал Нарбут з Баяраў**, … адлучаных ад двара, два з паловай дымы.

ЯВ **ксёндз-плябан Васілішскі** з сваёй плябаніі ў Васілішках, два з паловай дымы.

ЯВ **ксяндзы васілішскія дамініканцы** з маёнтка Скардзі, шэсць дымоў.

Яп **Александровіч**, староста Скулубоўскі з маёнтка Нявіша, трыццаць адзін з паловай дым.

Яп **Яраш Струпяроўскі** са Старога Двара, тры чвэрці дыма.

Вяльможны Яп **Александровіч**, кашталяніч Навадворскі з маёмасці Лучкава, з дакупленым … у Япп **Паўла Догеля** адным дымам, у **Ежы Яманта** адным дымам, **Яна Хайніцкага** адным дымам, **Міхала Александровіча Чаляхоўскага** 6 дымамі, **Марціна Догеля** з Лычкава 1 дымам, удавы **Рыгора Яманта** 1 дымам, **Яна Вайткевіча** адным дымам, **Самуэля Двухлоўскага** (?) два дымы, **Ваўжынца Догеля і Юзафа Вышкоўскага** з Бічоўскага 5 дымоў, **Аляксандра Яманта** 1 дыма, **Мацея Вільканіа** 1 дыма, **Фларыяна Дзежыца** 1 дыма, **Габрыэля Радзевіча** 1 дыма, разам, зараз дваццаць два дымы.

**Ішчалняская парафія**

ЯВ ксёндз **Якуб Пракаповіч**, плябан ішчалнянскі, у сваёй плябаніі, восем дымоў.

Яп **Ерыжынскі** з Крыштоўшчны Валяў, тры чвэрці дыма.

Яп **Кшыштаф Аўсяны** з маёнтка Вялікія Воўчынкі з папом, шаснаццаць з паловай дымоў.

У Малых Ваўчынках Яп **Балышэвіч**, шэсць дымоў.

Яп **Ян Храноўскі** з Лайкоўшчыны, чатыры дымы.

Вяльможны Яп **Аляксандр Нарушэвіч**, староста Ушпольскі з Малога Мажэйкава і Скрыбаўшчыны,

шэсцьдзесят тры дымы.

**Вялікае Мажэйкава** з вёскай … **Тамашоўцамі**, фальваркам **Марцінішкі**, трынаццаць дымоў. **Дзікушкі**, фальварак ад таго ж Мажэйкава, дваццаць восем дымоў. **Козінцы**, фальварак з вёскамі ад Дзікушак, дваццаць восем дымоў. Лябёдка, фальварак у заставе Яп **Ланеўскага**, трыццаць пяць дымоў.

Япп **Губарэвічы** з Заброяўцаў і Дзядукоў, тры дымы.

Яп **Садкоўскі** з Дырванцаў, 2 дымы.

У Раманаўцах Яп **Юрэвіч**, палова дыма.

У Ішчалнянах пан **Догель**, палова дыма.

Яп **Радзівонаўскі** з Вабітоўшчыны, палова дыма.

Айцец **Баеўскі**, пратапоп Лідскі, празбітар Мажэйкаўскі, тры чвэрці дыма.

Айцец **Ян Бутхарэўскі**, празбітар Дзікушскі, тры чвэрці дыма.

Вяльможны Яп **Валь**, харунжы Гарадзенскі з маёнтка Ішчална, сорак восем дымоў.

Яп **Ежы Глябіцкі Юзафовіч**, войскі полацкі са Шчучына, чатыры з паловай дымы. Ён жа са Шчучынам Казарэзскага, чатыры дымы. Ён жа з Дакурнёўшчыны, 1 дым. Ён жа са Шчучына Мікалаеўшчыны Гладоўскага, чатыры дымы.

**Жалудоцкая парафія**

Япані **Францкевічова**, кашталянова Навадорская з Жалудка, дзвесце дзевяць дымоў.

Яп **Уладзіслаў Губарэвіч** з Красуляў, адзін дым.

Яп **Казімір Добачынскі** з Красуляў, адзін дым.

Яп … **Уладзіслаў Крупель** з Відыгераўшчыны, палова дыма.

Яп **Ян Дубраўскі**, а зараз Яп **Гізберт** са Смалочы, пятнаццаць дымоў. Ад той жа Смалочы фальварак **Пішцова**, 5 дымоў. Ад той жа Смалочы вёска Бабры ў пацэсіі Вяльможнага Яп **Шышкі**, стольніка і судовага падстарасты Лідскага павета, 10 дымоў.

Яп **Караль Лугоўскі** з Валешкаў Даўнароўшчыны, палова дыма.

Яп **Уладзіслаў Ланеўскі** з Лябёдкі Войдзітаўскай, адзін дым. З Лябёдкі Бялоўскай зараз Яп **Мацівіч** з сялянамі-маскалямі, два дымы.

Яп **Францкевіч Стацэвіч** з сялянамі, палова дыма.

Вяльможны Яп **Рафал Сяклюцкі**, падстоллі лідскі з Бярозаўца, адзінаццаць дымоў. Гэтага ж ягамосці ў Красулях тры дымы.

Япп **Антон і Міхал Сяклюцкія** з Углаўцаў, адзінаццаць дымоў.

Яп **Эльяш Мацівіч** з Вайдзілоўшчыны, адзін дым.

Яп **Міхал Цыдзік** з Падлужанскага, адзін дым.

Яп **Уладзіслаў Кандыба** з Лебяды Скабейкаўскай, тры чвэрці дыма.

Яп **Аляксандр Кандыба** з Чахаўшчыны, тры чвэрці.

Яп **Данель Сідаровіч** з Чахаўшчыны, два дымы.

Яп … **Давід Казарын** з Пашыц, палова дыма.

Яп **Ежы Вызга** з Ваўчкоўшчыны Жукавіч, адзін дым.

Яп **Казімір Кульвінскі** з Ваўчкоў Амброзаўшчыны, тры чвэрці дыма.

Яп **Марцін Сталпавецкі** з Чахаўшчыны, адзін дым.

Яп **Міхал Вызга** з Ваўчкоў Даўнароўшчыны з айцом Папроцкім, празбітарам Яварскім, адзін дым.

Яп **Марцін Шалуха** з Ваўчкоў, палова дыма.

Яп **Тэадор Крупель** з Даўнароўшчыны Бурымоўскага, чвэрць дыма.

Яп **Ян Крупель** з Відугероўшчыны, тры чвэрці дыма.

Яп **Ян Скабейка** з Скабейкавічаў, тры чвэрці дыма.

Яп **Станіслаў Сяклюцкі** з Дэражнай Яп **Гаворскага**, а зараз Яп **Гутоўскага**, пяць дымоў.

Яп **Людвік Асаповіч** з Доўнараўшчыны з **Станіславам Ваўчкевічам**, тры чвэрці дыма.

Яп **Базыль Цыдзік** з Пашыц Раманаўшчыны, тры чвэрці дыма.

Яп **Рыгор Цыдзік** з Пашыц Раманаўшчыны, тры чвэрці дыма.

Яп **Пётр Кміта** з Пашыц, тры чвэрці дыма.

Яп **Павел Гаеўскі** з Дэражны Раманавіч, два дымы.

Яп **Самуэль Кміта** з Раманавіч Лопатаўшчыны, адзін дым.

Яп **Юзаф Пясецкі** з Доўнараўшчыны, тры чвэрці дыма.

Яп **Павел Рац** з Раманаўшчыны, тры чвэрці дыма.

Япп **Чыжы** з маёнтка Ліпічаны Орлі з карчмой і млынам, дзвесце дваццаць шэсць дымоў.

Яп **Лімант** з Саваўшчыны, пяць дымоў.

ЯВ **ксяндзы-кармеліты жалудоцкія** з маёмасці Таляшовічы, пяць дымоў.

ЯВ ксёндз **Ян Бароўскі**, плябан Жалудоцкі з сваёй плябаніі, чатыры дымы.

ЯВ ксёндз **Марцін Скультайт** са збора ў Орлі, сем дымоў.

**Ражанкаўская парафія**

ЯВ ксёндз **Наркевіч**, плябан Ражанскаўскі са сваёй плябаніі, адзін дым.

Яп **Ян Камінскі** з Руткевіч, палова дыма.

Яп **Геранім Камінскі** з Руткевіч, адзін дым.

Яп **Казімір Бразоўскі** з Макараца Бразоўшчыны, адзін дым.

Яп **Уладзіслаў Макрэцкі** з Марачоўшчыны, адзін дым.

Яп **Пётр Макрэцкі** з Макраца з карчмой, сем з паловай дымоў, з маёнткамі Мерачоўшчына і Будзілоўшчына, чатыры дымы.

Яп **Казімір Макрэцкі** з Ракавічаў Макрацоў, тры дымы.

Яп **Ян Гаўрылкевіч** з Ругаўшчыны, адзін дым.

Яп **Аляксандр Крупель** з Зашкевіч, тры чвэрці дыма.

Яп **Пётр Догель** з Руткевіч, адзін дым.

Яп **Дзмітр Тыча Быкоўскі** з Марадашоўшчыны, адзін дым.

Яп **Ежы Кохан** з Лукавага Макраца.

Яп **Ежы Краснік** з Баліч Гурскіх, два дымы.

Яп **Самуэль Палуян** з Дэражны Падбалотнай, тры чвэрці дыма.

Яп **Андрэй Раснецкі** з Лапатаўшчыны, тры чвэрці.

Яп **Ян Пётр Камінскі** з Руткевіч, палова дыма.

Яп **Стэфан Гердзічэўскі** з Гердзічэўскага, два дыма.

Яп **Рыгор Краснік** з Бабічаў Краснікоўшчыны, адзін дым.

Яп **Міхал Краснік** з Краснікоўшчыны, тры чвэрці дыма.

Яп **Якуб Кміта** з Раманавіч, адзін дым.

Яп **Пётр Раманоўскі** з Рамановіч, тры чвэрці дыма.

Яп **Юзаф Раманоўскі** з Рамановіч, тры чвэрці дыма.

Яп **Уладзіслаў Пакаршэўскі** з Макраца, адзін дым.

За **Яп Пяткевіча** … з Руткевіч, зараз Япп **Камінскія**, адзін дым.

Яп **Птак**, адзін дым.

Яп **Ян Макрэцкі** з Макраца, палова дыма.

Яп **Ян Ахрамовіч** з Гірдзееўскага, адзін дым.

Яп **Адам Макрэцкі** з Макраца Якубаўскага, тры дымы.

Яп **Аляксандр Макрэцкі**, падчашы ваўкавыскі, з Макраца Якубаўскага і Уняхоўскага, чатыры дымы.

Яп **Базыль Расніцкі** з Лапатаўшчыны, палова дыма.

Яп **Дамінік Расніцкі** з Лапатаўшчыны, тры чвэрці дыма.

Яп **Леан Расніцкі** з Лапатаўшчыны, тры чвэрці дыма.

Яп **Ян Глямбоцкі** з Макраца Пазнякоўскага, адзін дым.

Япані (удава) **Станіслава Краснікава** з Лукавіч Краснікаў, адзін дым.

Яп **Казімір Сангайла** з Пашыц Мінёўшчыны, адзін дым.

Яп **Каспар Крупель** з Пашыц Мінёўшчыны, тры чвэрці дыма.

Яп **Стэфан Варшалевіч** з Макраца Варшалеўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Габрыэль Кохан** з Баліч Краснікоўшчыны, адзін дым.

Яп **Якуб Кохан** з Хыльчыц, тры дымы.

Яп **Андрэй Альшэўскі** з застаўной ад Ражанкі Тур'і, пяць дымоў.

За Яп **Пяткевіча Страбскага** з Макееўцаў ад Ражанкі, два дымы.

Яп **Стэфан Санкевіч** з Варшалеўскага, палова дыма.

Яп **Стэфан Санкевіч** з Варшалеўскага, палова дыма.

Яп **Казімір Мацяевіч** з Варшалеўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Ян Абрамовіч** з Лагод Верх Макраца, адзін дым.

Яп **Станіслаў Вярыга** з Раманавіч, палова дыма.

Яп **Ян Сідаровіч** з Вінькаўшчыны, тры чвэрці дыма.

Яп **Андрэй Пакрашынскі** з Макраца, адзін дым.

Яп **Януш Быкоўскі** з Ракоўшчыны, адзін дым.

Яп **Горскі**, лоўчы місціслаўскі з маёнтка Хільчыцы, чатыры з паловай дымы.

Вяльможная пані **Пацава**, падкаморына ВКЛ з маёнтка Ражанка, з мястэчкам, фальваркам Запалеры, з корчмамі і млынамі, дзевяноста чатыры дымы.

Дэражна ад Ражанкі, зараз Яп **Гутоўскага**, чатыры дымы. Гэтага жа Яп у Багушэўшчыне за ЯВп падскарбія ВКЛ **Казіміра Макрэцкага**, дзевятнаццаць дымоў.

Айцец **Ян Дзванкоўскі**, святар Ракавіцкі, тры чвэрці дыма.

Айцец **Міхал Сынацкі**, святар Турэйскі, тры чвэрці дыма.

ЯВп **Ян Дэ Кампа Сцыпіён**, кашталаян смаленскі з маёнтка Шчучын Сыруцеўскі Патарэйскі, 8 дымоў.

ЯВп **Ежы Хлябніцкі Юзафовіч**, войскі полацкі са Шчучына Тапялішак, 16 дымоў.

**Лацкая парафія**

ЯВ ксёндз **Антоні Апельскі**, плябан Лацкі, са сваёй плябаніяй, чатыры дымы.

Япані (удава) **Паўла Стацкевіча** з Лацкага Расцішэўскага і Вызгаўшыны, 2 дымы.

Яп **Мікалай Козіч** з Лацкага Козічаўскага, сем дымоў.

Яп **Уладзіслаў Козіч** з Лацкага Козічаўскага, 2 дымы.

Яп **Базыль Камінскі** з Папішак Сынюцёўшчыны, сем дымоў.

Яп **Данель Ахоўскі** з Лышчоўшчыны ад падданага, адзін дым.

Яп **Пётр Гаўрылкевіч** з Макараўшчыны Якімовічаўскага, палова дыма.

Яп **Аляксандр Стацкевіч** з Лацкага Расцішэўскага, адзін дым. Яго ж з Лацкага, адзін дым. З маёнтка Шляхтаўшчына, палова дыма.

Яп **Юзаф Радачынскі** з Лацкага Андрушоўскага, тры з паловай дыма.

Яп **Ёрдан Дамінік Капустынскі** з Лацкага Андрушоўскага, адзін з паловай дым.

Яп **Ян Раманоўскі** з Лацкага Курмінаўскага, адзін дым.

Яп **Канстанты Хмялеўскі** з Лацкага, адзін дым.

Яп **Мікалай Урублеўскі** з Харонаўскага, адзін дым.

Яп **Аляксандр Старскі** з Ахрэмаўцаў, тры дымы.

Яп **Базыль Роўба** з Роўбаўскага, палова дыма.

Яп **Рафал Вызга** з Саленікаўшчыны, палова дыма.

Яп **Мацей Козіч** з Сямёнаўшчыны, тры чвэрці дыма.

Яп **Юзаф Яркоўскі** з Цвікоўшчыны, тры чвэрці дыма.

Яп **Ежы Радзевіч** з Лацкага Курмінаўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Ежы Радзевіч** з Лацкага Курмінаўскага ад **Чаплі**…, два дымы.

Яп **Караль Скіндар** з Лацкага Балтажароўскага, адзін дым.

Яп **Міхал Даўгенрд** з Барысаўкі, адзін дым.

Яп **Юзаф Вызга** з Саленікаўшчыны, чвэрць дыма.

Яп **Казімір Радзівонаўскі** з …, адзін дым.

Яп **Адам Варановіч** з Бараніхі, два дымы.

Яп **Якуб Чапля** з Курміноўскай, тры дымы.

Яп **Ян Лявікоўскі** з Рагачоўшчыны, адзін дым.

Яп **Мікалай Лявікоўскі** з Андрусаўшчыны, адзін дым.

ЯВп **Эльяш Рымвід**, падкаморы лідскі з Дэмбрава і … шэсцьдзясят дымоў. Ён жа з Хомаўшчыны, 5 дымоў, ён жа з Ельні Рамэйкі, трынаццаць дымоў.

Япп **Ляўковічы**, два дымы.

ЯВп **Аляксандр Скінадар** з маёнтка … Лацкага, шэсць дымоў.

Яп **Ежы Чапліц** з Лацкага Курмінаўскага, два дымы.

Яп **Ежы Козіч** з Спушы, тры чвэрці дыма.

Яп **Юзаф Радзівонаўскі** з Малінніка Спушы, палова дыма.

Яп **Марцін Скіндар** з Лацкага Юшкоўскага, два дымы.

Яп **Ян Рудзкі** з Гапонаўскага, адзін дым.

Яп **Кшыштаф Карп** з … 8 дымоў.

Яп **Рафал Казельскі** з Ранмантоўскага, адзін дым.

Яп **Казімір Гейгала** з Місаноўскага, адзін дым.

Яп **Сымон Сірацкі** ў Асоўшчыны, адзін дым.

Яп **Казімір Александровіч**, пісар земскі гарадзенскі з Лацкага і паловы Нявішы, дзевяць дымоў.

Яп **Міхал Караль Гарабурда** з Яцвезка, чатыры дымы.

ЯВп **Тызенгаўз**, ваявода Навагародскі з Бычкаўшчыны, сорак дымоў.

Яп **Стэфан Александровіч**, маршалак гарадзенскі з Лычкава і Нявішы.

Яп **Стэфан Стацкевіч** з застаўнога ад пана **Скіндара**, тры чвэрці дыма.

Яп **Павел Александровіч** з Лацкага Лянкевічаўскага, два дымы.

Яп **Леан Радашынскі** са Скрах, два дымы.

Яп **Мікалай Бутрымовіч** з Хадзеўшчыны, адзін дым.

ЯВп **Ян Дэ Кампа Сцыпіён**, кашталаян смаленскі з маёнтка Лацкага пасля **Міхала Заблоцкага** з Ахрэмаўшчыны, 1 дым, пасля **Міхала Барановіча** тры, пасля **Кохана** са Скялбедзічаў Дубчаў і Лоўбішак тры, … пана **Шадурскага** тры дымы, разам 10 дымоў.

ЯВп **Ежы Юзафовіч**, войскі полацкі, з Раманавічаў, васямнаццаць дымоў.

**Навадворская парафія**

ЯВ ксёндз плябан Навадворскі са сваёй плябаніі, адзін дым.

Яп **Бенядыкт Стацкевіч** з Глыбокага Стацкевічаўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Павел Гжымайла** з Няпрацкі, паўтара дыма.

Яп **Ян Гжымайла** з Няпрахі, палова дыма.

Яп **Кшыштаф Гжымайла** з Няпрахі, паўтара дыма.

Япані (удава) **Мацея Гжымайлы** з Няпрахі, адзін дым.

Яп **Скленскі** з Кульбанчына, тры дымы.

Яп **Ян Акуліч** з Яханаўскіх Гаўдзішак, адзін дым.

Яп **Ежы Шамяка** з Сырняў, тры чвэрці дыма.

Яп **Геранім Пацына** з Яхноўскага і Лебяды, адзін дым.

Яп **Мікалай Шамяка** з Яхноўскага Гаўдзішак ад Яп **Станіслава Яхноўскага**, адзін дым.

Яп **Ян Вамперскі** з Нявішы Кіюцёў, два з паловай дымы.

Яп **Кшыштаф Тамковіч** з Паўлаўшчыны, тры чвэрці дыма.

Яп **Казімір Тамковіч** з Паўлаўшчыны, адзін дым.

Яп **Самуэль Шамяка** з Сырнярскай, тры чвэрці дыма.

Япані (удава) **Данілы Бурцэвіча** з Хількаўшчыны, адзін дым.

Яп **Самуэль Юрэвіч** з Разнятыч з прыкупленымі, два з паловай дымы.

Яп **Самуэль Радзевіч** з Радзвічаў, адзін дым.

Яп **Казімір Рабіновіч** са Старынак, тры чвэрці дыма.

Яп **Ян Хрышчановіч Пясецкі** з Тойбішак, адзін дым.

Яп **Адам Няцецкі** з Маліхі Няцечы, тры чвэрці дыма.

Яп **Юзаф Лаўвіцкі** з Няцечы Рыжалоўскай, палова дыма.

Яп **Ежы Гладавіцкі**, скарбнік гарадзенскі з Каброўцаў Лоўбішак, 37 дымоў.

Яп **Канстанты Чамерка** з Лаўбішак, тры чвэрці дыма.

Яп **Міхал Радзевіч** з Радзевічаўскага, адзін дым.

Яп **Кшыштаф Даўгяла** з Радзевічаўскага, тры чвэрці дыма.

Яп **Францішак Шадурскі** з Відаўкі, палова дыма.

Яп **Канстанты Стукевіч** з …два дымы.

Яп **Караль Мілеўскі** з Плётак, адзін двор.

Яр **Андрэй Ваяводскі** з Даўнароўшчыны Каханоўшчыны, палова дыма.

Яп **Александровіч**, кашталяніч Навагрaдскі … адзін дым.

Яп **Самуэль Бенхоўскі**, стараста Люцінаўскі (?) з Глыбокага з карчмой, 28 дымоў.

*близко Рожанки обел вечно …"* [7]. 27 жніўня 1508 г. Шымка Мацкавіч атрымаў двух сялян і чатыры пусташы ў Жалудоцкім павеце[8], у 1509 г. - прывілей на людзей і на двор на рацэ Тур'я[9].

У 1514 г. кароль пісаў Жалудоцкаму намесніку: *"Биль намъ чоломъ подконюшій Виленскій Шимко Мацковичъ и поведилъ передъ нами, што жъ дей ловчій нашъ, наместникъ Ожскій и Переломскій, панъ Миколай Юрьевичъ Пацевичъ, какъ отъ насъ Жолудокъ держалъ, далъ ему землицу пустовскую леитскую въ Жолудскомъ повете на имя Можейковщину до нашое воли, а онъ дей тое землици въ держаніи ажъ и до тыхъ часовъ; ино и самъ панъ Миколай передъ нами поведилъ, ижъ тую землицу ему далъ держати до нашое воли; и онъ биль намъ чоломъ, абыхмо ему на то нашъ листъ дали. И мы ему на то сесь листъ нашъ дали: нехай онъ тую землицу Можейковщину держитъ со всимъ съ тымъ, што къ ней здавна прислухало, а намъ съ того службу земскую заступает; а хотя бы отчичи тое землицы выискалися, и мы ему дозволили тыхъ отчичовъ на тую землю приняти"* [10]. Такім чынам, яшчэ да 1514 г., у адзіным тады Мажэйкаве, Шымка Мацкавіч атрымаў за земскую службу пустэчу, якая раней належала лейцям[11]. Пазней частка Мацкавіча атрымала назву Малое Мажэйкава. У тым жа 1514 г. князь Палубенскі атрымаў пацверджанне сваіх правоў на двор Мажэйкава ў Жалудоцкім павеце і, відавочна, ягоная частка стала потым называцца Вялікім Мажэйкавам. З якога часу Вялікае Мажэйкава належала Шымку Мацкавічу, сказаць цяжка. Магчыма, гэта тая самая Мажэйкаўшчына, на якую Шымка атрымаў каралеўскую грамату ў 1516 г., вядома, што гэтая зямля належала лейцям (ажлейтам)[12]. Трэба сказаць, што вотчынная ўласнасць на зямлю была адной з гарантый таго, што лейці, нават тыя, якія кінулі сваю зямлю, захоўвалі свой комплекс павіннасцей і імя, якое характарызавала іх службу. Гэта бачна з акалічнасцей, якія Шымка Мацкавіч выклаў у 1516 г., калі пацвердзіў частку падзеленай з братамі вотчыны ў Мажэйкаве. Тады Шымка Мацкавіч атрымаў лейцеўскую зямлю, вотчыннікі якой пазней вярнуліся, усё адно яны засталіся ў статусе лейцяў, а не людзей іншага простага стану. Статус лейца сам па сабе быў спадчынным разам з уласнасцю (зямлёй), абавязкамі і правамі[13].

Шымка Мацкавіч на працягу свайго жыцця займаў наступныя пасады:

- Каралеўскага двараніна (згадваецца ў 1505 г.)
- Падканюшага Віленскага (1508 - 1528)
- Віленскага цівуна (1528 - 1542)
- Троцкага канюшага (1529 - 1536)
- Віленскага гараднічага (1537 - 1542)
- У 1540 - 1541 гг. таксама быў спраўцам Віленскага ваяводства[14].

Шымка Мацкавіч стаў адным з найбуйнешых абшарнікаў на Віленшчыне, бо ён атрымаў шмат зямлі ад вялікіх князёў ВКЛ за верную службу.

Ад вялікага князя Аляксандра ён атрымаў *"земли пустовскихъ"* у Жалудоцкім павеце: Нячуйкаўшчыну, Ананеўшчыну і трэцюю *"служебную"* Якубаўшчыну.

Жыгмонт I у 1507-1508 гг. пацвярджае гэтыя наданні і надае 2 людзей і землі *"што держалъ подконюшій виленскій Васко Дорошковичъ"*: Андронаўшчыну, Піліпаўшчыну, Пліскаўшчыну, Бабішку. Тады ж ён атрымлівае *"двое человековъ і четыре зямли въ Жолудоцким пов"*.

У 1511 г. Жыгімонт I дае Шымку Бярэсце; у 1513 г. ён атрымлівае *"Городишский"* стаў; у 1514 г. атрымлівае пустыя землі ў Жалудоцкім павеце: Марцінаўшчыну і 2 зямлі ў тым жа павеце: Міцькаўшчыну і Люрксeлеўшчыну. У тым жа годзе ён атрымаў ад Жалудоцкага намесніка Шымкі Кібартавіча 4 пустоўшчыны: Любелеўшчыну, Радзелеўшчыну, Тракеўшчыну і Якубелеўшчыну.

У 1516 г. Шымка Мацкавіч атрымлівае прывілей ад Жыгімонта I на наступныя землі: 1) у Жалудоцкім павеце Марціна Шунеліса - Міцькаўшчыну, Аргелеўшчыну і Ажлейтскую - Мажэйкаўшчыну (будучае - Мажэйкава). 2) у Жалудоцкім павеце на рэчцы Ішчална *"што Мелникъ держалъ"* і 3) у Віленскім павеце ў Судзераўскай воласці дзве пустоўшчыны: Каіртаўшчыну і Мялейкаўшчыну.

У першай палове XVI ст. у дакументах згадваюцца не адзін, а два Мажэйкаўскія маёнткі. Мажэйкава, пра якое ішла размова раней, стала Малым, а Вялікім стала Мажэйкава, дзе, па меркаванні Ядкоўскага, Шымка Мацкавіч правёў значную частку свайго жыцця.

У 1522 г. Жыгімонт I надае Шымку 5 земляў у Астрынскім павеце: Дзедаўшчыну, Анацкаўшчыну, Пацоўшчыну (Парцоўшчыну), Атапаўшчыну (Атавоўшчыну) і Жлуктаўшчыну. У Васілішскім павеце: Маслючыхі, Хохлічы, Бакчычы, Жураўшчыну (Журыноў-

[7] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 6 (1494-1506): Uzrasymu knyga 6 / Lietuvos istorijos institutas; parenge A. Baliulis. Vilnius, 2007. P. 308.

[8] Lietuvos metrika. Knyga Nr. 8 (1499-1514): Uzrasymu knyga 8 / Parenge Algirdas Baliulis, Romualdas Firkovicius, Darius Antanavicius.. Vilnius, 1995. P. 277.

[9] Там жа. S. 319.

[10] Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута: Исторические очерки. М., 1892. С. 602.

[11] Лейці - служылае саслоўе, служылі ў якасці пamежнай варты, абаранялі замкі, прадстаўлялі велікакняскую ўладу на ўскраінах і ўтаймоўвалі незадаволеных ёй. Пазней яны даглядалі коней гаспадара і суправаджалі яго ў падарожжах.

[12] Иодковский И. И. Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси. С. 278.

[13] Дубоніс А. Лейці вялікага князя літоўскага: з гісторыі ранніх дзяржаўных структур літоўскага грамадства. Смаленск, 2015. С. 29-30.

[14] Wisniewski J. Mackowicz Szymko. S. 96.

шчыну) і Пецькаўшчыну, а ў Жалудоцкім павеце: Ліпнеўшчыну, Прусцеўшчыну (Русцеўшчыну) і Наруцеўшчыну.

5 лютага 1524 г. Шымка атрымлівае *"... зямлю Онихимовшину на поля и сеножати дядковщины матки его у Вострынском пов."*. Гэтая зямля *"привержена"* была яшчэ пры вялікім князі Казіміры, *"как тотъ Онихимъ державъ"* [15]. У Метрыцы ВКЛ прысутнічаюць запісы наданняў часоў вялікага князя Казіміра: *"Онихиму земля Щочина ..."* і *"Онихиму конокормци..."*[16]. У наданні Астрынскай царкве св. Спаса ад 1554 г., перапісаным у 1696 г. лацінкай, згадваюцца *"продкі цівуна Віленскага, дзяржаўцы Ушпольскага, Пенянскага і Радуньскага, нябожчыка пана Шымкі Мацкавіча паны Зэнявічове (Zeniewiczowie)"* [17]. Можна выказаць здагадку, што Зяневічам быў менавіта дзядзька Шымкавай маці Аніхім, калі гэта так, тады прадзед Шымкі Мацкавіча па кудзелі меў маёмасць каля Астрыны і зваўся Зянон ці Зіновій (?).

У тым жа 1524 г. Шымка атрымлівае пацвярджэнне на землі, нададзеныя яму ў 1522 г., некаторыя з іх былі заменены: Пацаўшчына на Галоўчыну, Русцеўшчына і Наруцеўшчына на Крупелеўшчыну і Алехнаўшчыну.

4 сакавіка 1524 г. Шымка атрымлівае пацвярджэнне на частку маёнтка *"въ Заболотьи, которую онъ купилъ у брата своего Семена Мацкавича и на некаторыя земли и сеножати въ Острынском павеце на вечность"*. Шымка Мацкавіч да таго часу ужо меў маёнтак Сідараўшчыну і прыкупіў у баярына Кузьміча маёмасць Скварцоўшчыну ў Астрынскім павеце.

У 1529 г. Шымка за 200 коп літоўскіх грошаў купіў *"дворецъ Кгневидане у Виленскомъ повете"*. Мікалай Юр'евіч Пацэвіча, лоўчы і намеснік Ожскі і Пераломскі, у час, калі трымаў Жалудок, прадаў Шымку *"землицу пустовскую въ Жолудоцкимъ пов. на имя Можейковщину"* [18].

За заслугі перад каралевай Бонай Шымка Мацкавіч атрымаў тры валасці: у 1529 г. Радунскую, а ў 1530 г. Ушпольскую і Пенянскую, якія адабралі ў Станіслава Радзівіла. На ўмовах таго, што Шымка Мацкавіч будзе плаціць двайную арэнду, кароль аддаў яму ў дзяржанне гэтыя дзве валасці і дзяржаўцам гэтай маёмасці ён быў да сваёй смерці. У 1537 г. Шымка атрымаў 1000 коп літоўскіх грошаў. У 1532 г. заступіўся перад Бонай за падданых гэтых валасцей, якіх забіралі на цяжкія працы ў Віцебскі замак. Рэвізія віленскіх двароў у 1538 г. пацвердзіла вельмі моцнае ўзбуйненне гэтых гаспадарак і даходаў з Ушпольскай і Пенянскай валасцей.

Шымка Мацкавіча меў дамы ў Вільні і маёмасць Шклін, Бародзічы і Сялец на Валыні. Галоўнай ягонай маёмасцю былі Астрына, Забалаць, Шклін, Сумялішкі, Мажэйкава. У 1528 г. Шымка выстаўляў у войска 7 коней і такім чынам меў каля 560 падданых.

Жыгімонт Стары ў 1508 - 1524 гг. і ў 1541 г. надаў ці пацвердзіў яму пакупку як найменей 29 кавалкаў пустой і заселенай зямлі ў паветах Жалудоцкім, Васілішскім, Астрынскім, Віленскім[19].

Гэтак за сваё жыццё, набываючы двары і землі з падданымі ці нявольнай чэляддзю, Шымка Мацкавіч сабраў вялікую маёмасць.

Шымка карыстаўся асаблівай павагай і пашанай пры двары вялікага князя і таму з'яўляўся сведкам ці арбітрам ў прыватных справах - яго прозвішча часта прысутнічае ў розных сямейных, маёмасных, межавых і шлюбных актах (напрыклад у Сангушкаў, Палубенскіх, Сапегаў, Вішнявецкіх). Цікава, што імя Шымкі Мацкавіча амаль што не згадваецца ў судовых кнігах Літоўскай метрыкі, а калі і згадваецца, дык не ў якасці абвінавачанага, а істца[20].

У 1536 г. Шымка жаліцца вялікаму князю на *"воеводиною троцкую, Григорьевную Станиславичевую Остиковича Альжбету ... о кгвалты"*.

У 1536 г. ён атрымлівае ад караля пацвярджэнне на *"дворец на реце Реши съ челед(ь)ю невол(ь)ною и семи служобъ людей у волости Немчинской ему отъ Станислава Яковича Вежкайла (Вержкайлы), записанных на вечность"*. Гэты "дворец" атрымаў ад вялікага князя Аляксандра дзед Станіслава за выслугу.

У 1541 г. Шымка Мацкавіч атрымлівае грамату на *"на землю пустовскую ("конное место") у повете Виленском у волости Судеревской"*. У гэтым дакуменце прыводзіцца поўны тытул Шымкі Мацкавіча: *"Справца воеводства Виленскаго тивунъ городничій Виленскій, ... державца Ушпольскій, Пенянскій и Радунскій"*.

У лістападзе 1541 г. Шымка Мацкавіч жаліцца каралю на *"Скумина Львовіча* (Тышкевіча - *Л. Л.*), *ижъ онъ ставомъ своимъ затопилъ сеножати именя его Можейкова"*. У тым жа дакуменце напісана *"панъ тивунъ съ хоробы не вышолъ"* [21].

3 мая 1542 г. кароль Жыгімонт І даслаў ліст Троцкаму падкамораму Васілю Канстанцінаваічу Жабе, у якім прадставіў на яго разгляд справу Шымкі Мацкавіча супраць Скуміна Львовіча аб заліванні Мажэйкаўскіх лугоў[22].

Але ў 1541 г. баяры Радунскай валасці скардзіліся на самога Шымку за розныя крыўды, уціскі і пасыланне іх на варту ў Троцкі замак.

[15] Иодковский И. И. Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси. С. 277.
[16] РИБ. С.-Петербург. 1910. Т. 27. С. 106.
[17] АВАК. Вильно, 1908. Т. 33. С. 51-53.
[18] Иодковский И. И. Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси. С. 277-278.
[19] Wisniewski J. Mackowicz Szymko. S. 97.
[20] Там жа.
[21] Там жа.
[22] AGAD. AR. Dz. X. Syg. 52. K. 1-2.

Шымка Мацкавіч не браў чыннага ўдзелу ў палітычным жыцці, аднак належаў да гаспадарскай рады. У 1534 г. ён быў выкліканы каралём для ўдзелу ў Сойме. У 1536 г. сустракаў маскоўскае пасольства, якое ехала да караля ў Вільню[23].

Вядома, што віленскі цівун Шымка Мацкавіч апекаваўся капліцай Вітаўта ў Вільні[24]. У 1528 г. Шымка Мацкавіч скардзіўся на Маркаўскага дзяржаўцу Яна Мікалаевіча, які пачаў забіраць сабе са *"старцаў і некаторых людзей" Маркаўскай воласці тое, што раней ішло на "капліцу Вітаўтаву"* [25].

Напачатку Шымка Мацкавіч служыў каралю Жыгімонту I і быў яго прадстаўніком у 1516 г. у спрэчцы паміж літоўскім падкаморым Андрэем Давойнам і троцкім ваяводам Рыгорам Осцікавічам. Потым Шымка стаў верным і надзейным падначаленым каралевы Боны ў Літве. Як вынікае з перапіскі паміж ім і каралевай, Шымка Мацкавіч выконваў самыя разнастайныя загады каралевы і распараджаўся яе грашыма, якія Бона прысылала з Кракава. Займаўся вяртаннем каралеўскіх зямель, канфіскацыяй прыватнай маёмасці, займаўся прывілеямі плябаній, ацэньваў купленыя для каралевы землі і двары, займаўся дастаўкай дрэва з віленскага склада на будоўлю каралеўскіх двароў у Літве. Таксама курыраваў і вёў будаўнічыя працы ў Ніжнім Замку, пабудаваў для каралевы так званы вялікі дом за ракой Віліяй. Як давераная асоба каралевы браў удзел у розных камісіях па ўстанаўленні межаў каралеўскіх маёнткаў і вырашаў памежныя спрэчкі паміж вяльможамі[26].

А зараз спынімся на агульных пытаннях, датычных пабудовы Маламажэйкаўскай царквы.

З каталіцкім хрышчэннем Літвы ў канцы XIV ст. у мастацтва Вялікага Княства Літоўскага пачынае пранікаць гатычны стыль. Яго распаўсюджванне звязана з дзейнасцю жабрацкіх манаскіх ордэнаў францысканаў і бернардынаў, а таксама ганзейскіх гандляроў. Вытокі і сутнасць готыкі - у метадзе мыслення і тэалагічнай дактрыне Сярэднявечча: *"Прыгажосць, створаная па імкненні душы рукамі мастака, бярэ пачатак ад той прыгажосці, якая вышэй за ўсё" (Святы Аўгусцін).* Узаемасувязь паміж мастацтвам, тэалогіяй і філасофіяй была ўвасоблена ў формах французскіх гатычных сабораў, якія ўзніклі адначасова з "саборамі ідэй" - універсітэтамі. Мастацтва архітэктуры было адной з формаў малітвы. Галоўная матывацыя стварэння гатычнай структуры сабора закладзена ў духоўным паняцці святла, бо *"Бог ёсць святло"*. Дзеля *"дыялогу з Богам"* майстры французскай готыкі стварылі нібыта *"празрыстыя сцены"* і *"балдахінную сістэму скляпенняў"*, чым дасягнулі ілюзіі нематэрыяльнасці архітэктурных мас. З Францыі гатычны стыль пачаў распаўсюджвацца ў краінах Паўночнай і Цэнтральнай Еўропы. Праз узаемадзеянне гатычных архітэктурных форм з традыцыйным мясцовым дойлідствам расквітнела цудоўная самабытная беларуская готыка. Яна ўвасобілася ў "Фары Вітаўта" ў Коўні, касцёлах св. Мікалая, бернардынаў і св. Ганны ў Вільні[27].

Прафесар Аляксандр Кушнярэвіч адзначыў стылістычную блізкасць Маламажэйкаўскай царквы да касцёлаў у Польшчы (у Плоцку, Шрэнску, Пясочным, Брахаве, Броку, Глогаўцы і інш.), збудаваных у тым жа XVI ст. Гэтыя сакральныя пабудовы маюць падобныя прынцыпы фармавання прасторы, характар кампаноўкі і аздаблення фасадаў, падобныя вежы і адсутнасць размежавання сакральнай і абарончай функцый - байніцы размешчаны нават у алтары. Новыя формы еўрапейскага дойлідства былі занесены ў Малапольшчу, а потым у Мазовію італьянскімі архітэктарамі. З-за моцнай канкурэнцыі на радзіме яны разам з майстрамі-мулярамі прыехалі ў Польшчу ў пошуках заказаў. Прозвішчы будаўнікоў храмаў у Мазавецкай зямлі захаваліся ў пісьмовых крыніцах - гэта архітэктары Ян Бапціста з Венецыі, Джавані Чыні з Сіены, Бернар Занобе да Джаноці, Барталамей Бярэчы. А. Кушнярэвіч высунуў версію, што нехта з гэтых архітэктараў мог пабудаваць і нашу царкву, бо храмы ў Польшчы і ў Малым Мажэйкаве маюць шмат агульнага ў фармаванні архітэктонікі, характары і арганізацыі дэкору фасадаў. Таксама прафесар адзначыў, што ў ніжняй частцы галоўнага фасада гэтыя храмы аб'ядноўвае завяршэнне цокаля ў выглядзе скосу, над якім вымураваны рад парэбрыка[28]. У верхняй частцы галоўнага фасада ўжыта глыбокая паўцыркульная ніша вялікіх памераў з круглым вакном у завяршэнні, а ў франтоне - аднолькавае паяруснае размяшчэнне плоскіх падвоеных з гіркамі[29] арачных ніш[30]. Падобную кампаноўку з вежачкамі, што ўмацоўваюць вуглы касцёла ў Пясочным, маюць вежы Маламажэйкаўскай царквы. Таму, верагодна, і нашу царкву будавалі італьянскія дойліды, якія паставілі касцёлы ў Шрэнску і Пясочыным[31].

[23] Wisniewski J. Mackowicz Szymko. S. 97.

[24] Wisniewski J. Mackowicz Szymko. S. 96.

[25] Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. С. 99.

Ад гэтай апекі Шымкі Мацкавіча над капліцай Вітаўта ў Вільні бяруць пачатак легенды пра тое, што нібыта Маламажэйкаўскую царкву заснаваў сам Вітаўт, па прынцыпе: “Чуў звон...”. *(Рэд.)*

[26] Wisniewski J. Mackowicz Szymko. S. 96.

[27] Габрусь Т. Саборы помняць усё. Готыка і рэнесанс у сакральным дойлідстве Беларусі. Мінск, 2007. С. 148.

[28] Парэбрык - тып арнаментальнай цаглянай муроўкі, у якой рад цэглы кладзецца пад вуглом да паверхні сцяны

[29] Гірка - фігурная дэталь у выглядзе перакуленай пірамідкі з цэглы або каменю.

[30] Ніша - паглыбленне ў сцяне будынка.

[31] Кушнярэвіч А. М. Мураваная дабастыённая фартыфікацыя Вялікага Княства Літоўскага. Мінск, 2014. С. 189-95.




***Невядомы аўтар. Абмер Маламажэйкаўскай царквы, план, разрэз, заходні фасад. Другая палова XIX стагоддзя***

Цікавай і павучальнай была перадгісторыя Маламажэйкаўскай царквы.

Вядома, што менавіта бернардыны першымі ў ВКЛ пабудавалі касцёлы і кляштары абарончага тыпу, г.зн. акружаныя мурамі, з абарончымі вежамі па вуглах, з байніцамі ў версе сцен. Дбалі бернардыны таксама і аб таўшчыні муроў і аб моцы ўжыванага дрэва. У такіх кляштарах мелася як вогнепальная зброя: гакаўніцы, фальканеты (гарматы невялікага калібру), ручніцы, гэтак і халодная зброя: мячы, шаблі, палашы, лукі і г. д. Не бракавала ў іх пораху і куль. На захоўванне зброі меўся дазвол папы, згода кардынала-пратэктара і адпаведнага біскупа. Такі кляштар быў падобны на цвердзь, з дапамогай якой можна было даць адпор наездам татараў, якія ніколі не рабілі доўгую аблогу[32].

Манахі-бернардыны пачалі будаваць свае мураваныя канвенты (кляштары) у часы, калі нават вяльможы ВКЛ жылі яшчэ ў драўляных дварах. Дзякуючы шчодрасці вялікага князя і караля Казіміра, яны распачалі ў Вільні будаўніцтва свайго першага мураванага канвента, але не выклікалі для арганізацыі гэтай працы архітэктара ці майстра-муляра (lapicidae) з-за мяжы. Юзаф Крашэўскі пісаў: *"Калі бернардынскі касцёл пачаў разбурацца, дык бернардыны заявілі вялікаму князю Аляксандру (каля 1500 года), што прычынай падзення іх касцёла служыць суседства млына (малатарні), што моцнае страсенне зямлі пры малацьбе вельмі шкодна ўплывае на касцёл і іншыя будынкі, што пры захаванні status quo небяспечна будзе нават заходзіць у касцёл для малітвы. Саступаючы просьбе бернардынаў, Аляксандр загадаў цалкам зачыніць млын, а пляц, на якім ён знаходзіўся, з усімі пабудовамі аддаць кляштару"*[33]. Мулярскія работы былі зроблены нядбайна і нетрывала, таму каля 1500 г. толькі што пабудаванае скляпенне і сцены канвента абваліліся. Манахі мусілі разабраць касцёл да фундаментаў - застаўся толькі хор, сакрыстыя і інтэрнат[34]. Такім чынам, канвент, які быў пабудаваны без інжынернага разліку і дагляду, разбурыўся, і набажэнствы былі перанесены ў суседні касцёл св. Ганны, над якім таксама апекаваліся бернардыны[35].

Пасля разбурэння першага мураванага кляштара, тагачасны віленскі гвардыян бернардынаў Камароўскі ў 1506-1516 гг. пабудаваў новы мураваны канвент. Падмуркі гмахаў гэтага віленскага кляштара бернардынаў былі настолькі моцнымі, што ў яго піўніцах нейкі час захоўваўся нават вялікакняскі скарб[36].

Добра вядома, што каралева Бона заўсёды выказвала сваю прыхільнасць да бернардынаў[37], і таму Шымка Мацкавіч не мог абысці іх дзейнасць сваёй увагай. Вядома, што нашы бернардыны мелі схільнасць да

[32] Bernardyni na Litwie i Bialorusi // Preglad Wilenski. 1933. № 19-20. S. 5.
[33] Kraszewski J. Wilno : od poczatkow jego do roku 1750. T. II. Wilno, 1840. S. 316.
[34] Bernardyni na Litwie i Bialorusi // Preglad Wilenski. 1933. № 19-20. S. 4-5.
[35] Bernardyni na Litwie i Bialorusi // Preglad Wilenski. 1934. № 1. S. 4.
[36] Bernardyni na Litwie i Bialorusi // Preglad Wilenski. 1934. № 2. S. 3.
[37] Bernardyni na Litwie i Bialorusi // Preglad Wilenski. 1933. № 21. S. 3.

готыкі[38], што, пэўна, таксама паўплывала на фундатара Маламажэйкаўскай царквы. Такім чынам, набліжанасць Шымкі Мацкавіча да каралевы Боны і веданне ім арганізацыйнага боку будаўнічай справы можа шмат што растлумачыць. Верагодна, для пабудовы Маламажэйкаўскай царквы Мацкавіч наняў некага з італьянскіх адмыслоўцаў, якія будавалі Віленкія замкі[39], а можа Маламажэйкаўскую царкву будавалі нават тыя самыя майстры, якія да таго часу закончылі працы па адбудове віленскага бернардынскага кляштара. Было б дзіўна, каб Шымка Мацкавіч не зрабіў неабходных высноваў з першай няўдалай спробы пабудовы віленскага канвента, і таму цалкам лагічна, што Маламажэйкаўскую царкву будавалі італьянскія будаўнікі, пра што піша прафесар А. М. Кушнярэвіч[40].

Трэба таксама заўважыць, што з'яўленне готыкі ў праваслаўным храмабудаўніцтве на Беларусі - гэта матэрыялізаваны вынік Фларэнцкай царкоўнай уніі 1439 г. Ролю Фларэнцкай уніі ў справе адаптацыі на нашых землях гэтага еўрапейскага стылю адзначае беларускі гісторык Альбіна Семянчук: *"... калі адкрыта прызнаць і паказаць, што ідэі Фларэнцкай царкоўнай уніі ў Вялікім Княстве Літоўскім адыгрывалі значную ролю ў культурна-рэлігійным і палітычным жыцці, то можна вырашыць адразу некалькі загадкавых пытанняў нашай гісторыі. ... Аналіз крыніц і літаратуры дазваляе зразумець, адкуль узяліся, з аднаго боку, цудоўныя гатычныя храмы ў Супраслі, Мураванцы, Сынкавічах, а, з другога, - капліцы з праваслаўнымі роспісамі ў Кракаве, Любліне, Сандаміры"* [41]. Меркаванне аб тым, што ўсе храмы беларускай готыкі, пабудаваныя прыблізна ў адзін перыяд - на памежжы XV-XVI ст., з'яўляюцца вынікам распаўсюджвання ідэй Фларэнцкай уніі сярод уплывовай праваслаўнай эліты Вялікага Княства Літоўскага, цалкам лагічнае. Нездарма гэтыя саборы з'явіліся на землях, якія ў той ці іншай форме кантраляваліся ўплывовымі асобамі, што паставілі свае подпісы пад лістом да папы Сікста IV ад 14 сакавіка 1476 г. і былі часткай палітычнай эліты ВКЛ[42].

Трэба таксама адзначыць, што нашы бернардыны былі галоўнымі прыхільнікамі уніі сярод рымакаталіцкага кліру і недарэмна існуе гіпотэза, пра тое, што Францішак Скарына вучыўся менавіта ў Полацкай школе пры бернардынскім кляштары[43].

Каралева Бона, якой служыў Шымка Мацкавіч, пакінула вялікі след у нашай гісторыі і пасля яе смерці засталася добрая памяць пра гэтую каралеву-італьянку. Шмат якія гістарычныя пабудовы мясцовае насельніцтва прыпісвала менавіта гэтай каралеве. Напрыклад рэктар лідскага піярскага калегіюма пісаў, што ва ўяўленні лідзян першай паловы XIX ст. лідскі замак пабудавала менавіта каралева Бона[44].

Таксама вельмі важна, што праз сваю другую жонку Зоф'ю Шымка Мацкавіч быў сваяком віленскага бургамістра Багданам Онкавіча, які падтрымліваў выдавецкую дзейнасць Францішка Скарыны, пра што сведчаць надпісы на тытульных старонках кніг, якія выдаў Скарына[45]. Гэта можа сведчыць пра прыналежнасць Шымкі Мацкавіча не толькі да тагачаснай кіраўнічай, але таксама і да інтэлектуальнай эліты ВКЛ, з чаго становіцца зразумелым невыпадковасць пабудовы менавіта гэтым чалавекам сапраўднай архітэктурнай пярліны Беларусі - Маламажэйкаўскай царквы.

Шымка Мацкавіч у дакументах называўся Шкленскім (ці Скленскім). Але асабістае прозвішча ў той час часцей за ўсё мелі толькі князі. У XV ст. слова "Шклёнскі" можна было разумець як *"князь на Шклёнску"*, але такога князя ў ВКЛ не было, не было і горада з такой назвай.

У актах Літоўскай метрыкі Ядкоўскі знайшоў *"жалобу Шимка Мацковича на Богдана Хребтовича о отведеньи именя его Склёнского къ Блудову надъ привилей великого князя Швитрыкгайла и листъ судовый короля его милости, которы нижей за прозбою его суть вписаны. Год 1541, сентября 20 дня"*. Далей у метрыцы цалкам прыводзіцца грамата Вялікага князя Свідрыгайлы Альгердавіча ад 1427 г., у якой чытаем наступнае: *"на прозбу ... Ивана Мушаты ... дали ему село Склинъ у Луцким повеце ... по высокую могилу едучи"*. Значыць, як і Мажэйкава, маёмасць Склін (Склёнск, Шкленск) на пачатку XV ст. належала вялікаму князю ВКЛ. Грамата Свідрыгайлы была прадстаўлена вялікаму князю для вызначэння межаў маёнтка Склёнскага і, верагодна, Шымка Мацкавіч, атрымаў маёмасць на пачатку XVI ст. бо гэты маёнтак нават не называўся "отчизным" [47].

Іван Шымкавіч Шклёнскі - сын Шымкі Мацкавіча

[38] Bernardyni na Litwie i Bialorusi // Preglad Wilenski. 1933. № 19-20. S. 6.

[39] Wisniewski J. Mackowicz Szymko. S. 97.

[40] Гл: Кушнярэвіч А. М. Мураваная дабастыённая фартыфікацыя Вялікага Княства Літоўскага. Мінск, 2014. С. 189-195.

[41] Семянчук А. А. Распаўсюджанне ідэй Фларэнцкай уніі ў Вялікім княстве Літоўскім у канцы XV - пачатку XVI ст. // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа: зб. навук. арт.: у 2 ч. Ч. 1 / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал.: С.В. Марозава [і інш.]. Гродна, 2009. С. 158.

[42] Там жа. С. 160.

[43] Гл: Bernardyni na Litwie i Bialorusi // Preglad Wilenski. 1933. № 22. S. 5-6.; Bernardyni na Litwie i Bialorusi // Preglad Wilenski. 1934. № 1. S. 2-4.; Christianin. Bernardyni wilenscy jako unijonisci // Preglad Wilenski. 1931, № 1-2. S. 10.

[44] Bernardyni na Litwie i Bialorusi // Preglad Wilenski. 1934. № 1. S. 5.

[45] Wspomnienie domku Pijarow Lidzkich. Napisal ks. Jozafat Wojszwillo, ostatni rektor Pijarow lidzkich // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu., sygn.3667/III. S. 13-14.

[46] Сліж Н. З дакументальнай спадчыны сям'і віленскага цівуна Шымка Мацковіча і Зафеі Паўлаўны. С. 247., 248.

[47] Иодковский И. И. Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси. С. 275-276.

ад першага шлюбу яшчэ пры жыцці бацькі ў 1536 г. адмовіўся ад спадкавання маёмасці бацькі ў Літве на карысць сваіх зводных братоў Яна, Філіпа і Рыгора. Яго бацька Шымка Мацкавіч выкупіў з заставы маёмасць маці Івана на Валыні: Склені, Бародзічы і Сельцы, якія знаходзілася ў заставе ў дачкі Шымкі Мацкавіча Марыны, яе мужа Васіля Чапліча і цёткі Мацкавіча Манькі з мужам Васілём Уколавым. У 1536 г. Васіль Семкавіч Уколаў выдаў квіток аб тым, што ён прадаў за 250 коп літоўскіх грошаў Шымку Мацкавічу маёнтак Склені, з гэтай сумы 170 коп грошаў заплаціў Шымка Мацкавіч, а астатнія 80 заплацілі сыны: Ян, Рыгор, Калістрат і Філіп Мацкавічы. Якраз гэтую Валынскую маёмасць і павінен быў успадкаваць Іван Шымкавіч Шклёнскі. Таму ён і адмовіўся ад маёмасці бацькі ў гістарычнай Літве: Рэшы, Забалаці, Астрыны, Бердаўкі, Ваверкі, Вяшэнтаў і Мажэйкава на карысць сваіх братоў і іхняй маці Сафіі[48].

Потым, у 1573 г. Фёдар Іванавіч Шкленскі, засведчыў, што яго бацька меў дамову са сваімі братамі Філіпам, Янам, Рыгорам і Калістратам Шымкавічамі, і згодна з гэтай дамовай, ён адмовіўся ад часткі маёмасці, якую павінен быў атрымаць у спадкі ад свайго дзядзькі Калістрата (які, верагодна, быў бяздзетным): 1/4 Мажэйкава і 1/2 Сапунцаў. За гэта ён павінен быў атрымаць 1100 коп літоўскіх грошаў (па 20 коп за апрацаваную валоку і па 10 за пустую)[49].

Цікавы дакумент у 1538 г. падпісаў Глеб Янавіч Сапега. Ён абавязаўся ўзяць у жонкі дачку Шымкі Мацкавіча, якая павінна была атрымаць пасаг у 200 коп літоўскіх грошаў у рухомасці і 100 коп літоўскіх грошаў у частцы маёнтка - нерухомасці яе маці Соф'і ў Жамойці. А калі б Сапега парушыў заручыны, дык павінен быў заплаціць Мацкавічу і вялікаму князю па 1000 коп літоўскіх грошаў[50].

У 1541 г. Шымка Мацкавіч на карысць сваёй жонкі Соф'і (Зафеі) Паўлаўны адмовіўся ад правоў на пляц пры вуліцы Вялікай у Вільні і ад пабудаванай ім камяніцы на Рынку[51].

Раскажу трошкі пра дачыненне роду Мацкавічаў да маёмасці Бердаўка - нейкай часткай Бердаўкі валодаў ці трымаў у арэндзе сам Шымка Мацкавіч, а потым яго сын Калістрат.

На пачатку XVI ст. Бердаўка была часткай вялікага маёнтка Ліпнішкі, які трымаў у заставе Юры Ільініч. Гэты дзяржаўны дзеяч выдаткаваў свае грошы на дзяржаўныя патрэбы, і з-за гэтага ў 1522 г. вялікі князь, сярод іншай маёмасці, пажыццёва надаў маёнтак Ліпнішкі Юрыю Ільінічу[52]. У 1527 г. Бердаўка згадваецца ў прывілеі Жыгімонта Старога і пасля смерці маршалка Юрыя Ільініча яна стала маёмасцю яго сына Станіслава[53].

16 чэрвеня 1568 г. браты Беняш і Іван Валовічы ў Гародні падпісалі акт продажы *"вечистое имення их Бердовки в повете Лидскомъ Калистрату Шимковичу Мацковичу"*. З акта бачна, што "*отец ихъ небошчикъ панъ Иванъ"* купіў *"Бердовку, в Лидскомъ повете у пани Яновое Юревича Ильиничовое пани Гальшки Фредрушовны за осмъсотъ копъ грошеи монеты и личбы литовское"*. З дакумента даведваемся, што маёмасць Бердаўка ад Юрыя Ілляніча перайшла да яго сыноў Яна і Шчаснага Юр'евічаў Іллінічаў[54], а потым да жонкі Яна Іллініча Гальшкі[55]. Гальшка Ілляніч прадала маёнтак Івану Валовічу, сыны якога, у сваю чаргу, прадалі яго Калістрату Шымкавічу Мацкавічу - аднаму з сыноў фундатара Маламажэйкаўскай царквы Шымкі Мацкавіча. Таксама з дакумента бачна, што яшчэ Юры Ілляніч з-за фінанасавых праблем, здаў Бердаўку ў заставу *"свояку своему небошчику пану Шимъку Мацковичу, тивуну виленьскому, державцы ушъпольскому, пеняньскому и радуньскому, в певнои суме п(е)незеи"*. Заўважым істотны факт, што Шымка Мацкавіча быў сваяком Юрыя Ілляніча. Пасля смерці Шымкі Мацкавіча, маёмасць знаходзілася ў заставе ў яго сыноў, а пасля падзелу сямейнай маёмасці паміж баратамі Шымкавічамі, застава на Бердаўку адышла да Калістрата Шымкавіча.

Браты Валовічы *"в тые часы валечные"* прыцягваліся *"ку частымъ выправам на службы наши господарьские и земские военъные"* і мелі патрэбу ў грашах. Таму яны патрабавалі ў *"брата своего тетечного"* Калістрата Шымкавіча грошы, якія той быў вінны яшчэ іхняму бацьку. Заўважым, што і Валовічы былі сваякамі Шымкавічаў[56].

У выніку Калістрат Шымкавіч стаў уладальнікам маёнтка Бердаўка: *"И вжо ма еть его м(и)л(о)сть панъ Калистрат самъ и его малъжонъка, дети, потомки, щадъки, на следки кревные и близкие тое именье Беръдовку з дворомъ, з будованьемъ дворнымъ, з бояры, з людми тяглыми и зъ ихъ землями, службами и повинъностями, с челедю невольною, зъ землями пашными, зъ сеножатьми и зъ болоты, с пушчою, з боры, з лесы и заросльми, зъ ставы, з млыны и их вымелъками, зъ*

[48] AGAD. AR. Dz. X.. Syg. 55. K. 1-7.

[49] AGAD. AR. Dz. X. Syg. 64. K. 1-8.

[50] AGAD. AR. Dz. X. Syg. 49. K. 1-2.

[51] AGAD. AR. Dz. X. Syg. 50. K. 1-2.

[52] РИБ. Т. 20. Петербург, 1903. С. 1133-1135.

[53] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 224 (1522-1530): Uzrasymu knyga 4. Vilnius, 1997. P. 216.

[54] Чамусьці, у дакуменце не згадваецца брат Станіслаў, бо вядома, што 28 мая 1527 г. браты Ян, Станіслаў і Шчасны Іллінічы, падзялілі маёмасць памерлага бацькі Юрыя Іллініча. Прычым двор Бердаўка і дварэц Прыдыбайлы дасталіся Станіславу Іллінічу. - Гл: Lietuvos metrika. (1522-1530) knyga 4. Vilnius, 1997. P, 216.

[55] 30.08.1539 г. жонка Яна Іллініча Гальшка Фрыдрушоўна атрымала пацверджанне на ўласнасць "двор Беръдовку" ад брата свайго мужа Шчаснага Юр'евіча Іллініча. - Гл: Lietuvos metrika. (1536-1539) knyga 20. Vilnius, 2009. P, 277.

[56] Lietuvos metrika. (1566-1572) knyga 49. Vilnius, 2014. P. 19.

*сажавками, зъ ставищи, з реками, речками и границами, з ловы зверынъными, пъташими и рыбными, з гоны бобровыми, з данью грошовою и медовою, и зо всими иншыми дяклы пашными и подачками, такъже зо всими и всякыми кгрунты, широ костью, властностью, обыходы и пожитками, яким кольвекъ назвискомъ поменеными, и зо всимъ на все от мала до велика, яко ся тое именье Бердовка с прылеглостями своими перед тымъ здавна мело и теперъ маеть, держати и вживати вечными часы навеки непорушно…"* [57], - вось люблю я чытаць дакументы на нашай старабеларускай мове!

Верагодна Шымка Мацкавіч памёр у 1545 г., і быў пахаваны ў Маламажэйкаўскай царкве, дзе над яго магілай, як заснавальніка царквы, мелася пліта з надпісам, на якой, па меркаванні Ядкоўскага, ён памылкова названы Юндзілавічам. Гісторык тлумачыць гэта тым, што герб Юндзілаў - "Лебедзь", а герб Шымкі Мацкавіча "Касцеша" [58].

Трэба сказаць, што Юндзілы - адна з галінаў магутнага роду Клаўсуцяў, які меў вялікія ўладанні на Лідчыне і ў іншых месцах, і даследчык роду Клаўсуцяў польскі гісторык Ян Глінка ў сваё фундаментальнай працы пра гэты род піша, што маёнткам Гародна валодаў прадстаўнік роду Клаўсуцяў Філіп Шымкавіч[59], які быў сынам Шымкі Мацкавіча. Якім чынам Шымка Мацкавіч быў параднёны з Клаўсуцыямі, невядома, але можна выказаць здагадку, што яго маці, род якой меў маёмасць пад Астрынай (гл. вышэй) паходзіла з роду Клаўсуцяў. У любым выпадку, калі ўлічваць толькі інфармацыю гісторыка Глінкі, Шымка Мацкавіч ўсё ж быў Юндзілавічам. Верагодна, прыналежнасць да гэтага старажытнага рода падвышала прэстыж ягонай сям'і.

Князь Васіль Андрэевіч Палубінскі, староста Мсціслаўскі, Бабруйскі і Барысаўскі і гаспадарскі маршалак, пасля смерці сваёй першай жонкі князёўны Аксінні Заслаўскай у вельмі пажылым узросце другім шлюбам ажаніўся з удавой Шымкі Мацкевіча Сафіяй Паўлаўнай. Верагодна, яна прынесла частку Малога Мажэйкава другому мужу як пасаг, бо ў 1546 г. ён адпісвае жонцы адну траціну сваіх уладанняў і 2000 коп літоўскіх грошаў ад сядзібы Мажэйкава і адначасова свайму сыну князю Івану - траціну ўсіх сваіх маёнткаў, за выключэннем Мажэйкава (раней ужо адпісанага жонцы Сафіі Паўлаўне). У пацвярджэнні, дадзеным у 1546 г. каралём княгіні Соф'і Паўлаўне яна завецца: *"пани Шимкавая Мачковича, Тивуновая виленская, пани Зофья Павловна"* [60].

Апошнюю траціну сваіх уладанняў Васіль Андрэевіч Палубінскі адпісаў як пасаг для сваёй унучкі Марыны, дачкі яго сына Льва, якая засталася сіратой пасля смерці бацькі. Князь Васіль Палубінскі памёр 4 сакавіка 1550 г. у сядзібе Гарадзішча. Удава перавезла яго цела ў Кіеў і пахавала ў Кіева-Пячэрскай Лаўры ў царкве Прачыстай Багародзіцы Пячэрскай каля ягонага сына Льва.

У 1563 г. Марына, дачка памерлага князя Льва Васільевіча Палубінскага і жонка Станіслава Паўлавіча Нарушэвіча (спраўцы староства Гарадзенскага), сумесна з мужам выступае з заявай, што маёнтак Мажэйкава быў падараваны каралём Аляксандрам *"яе дзеду князю Васілю Андрэевічу Палубенскаму, старасту Мсціслаўскаму"*, што апошні, аўдавеўшы, узяў шлюб з Сафіяй Паўлаўнай, удавой Шымкі Мацкавіча, якой адпісаў гэты маёнтак *"у вечнае карыстанне"*. Яна ж сама *"перапісала"* гэты маёнтак на свайго сына Яна Шымкавіча (маршалка і пісара гаспадарскага (вяліка-княскага - *Л. Л.*), дзяржаўцу Тыкоцінскага). Паколькі ў 1563 г. Марына была адзінай спадчынніцай свайго дзеда Васіля, бацькі Льва і дзядзькі Івана, усе свае правы на маёнтак Мажэйкава яна перадала Яну Шымкавічу, які ўжо і так меў на яго каралеўскае пацверджанне. У сваю чаргу, Шымкавіч упісаў сядзібу Мажэйкава ў так званы *"пасаг"* сваёй жонкі Аляксандры Іванаўны з Вішнявецкіх[61].

Акты падзелу маёмасці Шымкі Мацкавіча пасля яго смерці паміж сынамі захоўваюцца ў Варшаўскім Архіве галоўным актаў даўніх (AGAD) і зараз знаходзяцца ў вольным доступе ў інтэрнэце. Першай была вырашана справа з рухомасцю нябожчыка, акт падзелу складзены 4.03.1545 г.: грошы, срэбра і іншая рухомая маёмасць была падзеленая паміж братамі Іванам, Янам, Рыгорам і непаўнагадовым Філіпам.

Уся нерухомасць Шымкі Мацкавіча, разам з 1000 коп літоўскіх грошаў за прададзеную *"маёмасць Бакалара"* (верагодна, маецца на ўвазе Мікалай Бакалаўр з рода Клаўсуцяў[62]) і Вышынты, была падзелена наступным чынам:

- Маршалак і пісар гаспадарскі Ян Шымкавіч атрымаў Мажэйкава, з якога павінен быў выплаціць братам 400 коп літоўскіх грошаў;

---

[57] Lietuvos metrika. (1566-1572) knyga 49. Vilnius, 2014. P. 21.

[58] Иодковский И. И. Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси. С. 278.

[59] Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. Ze studiow nad ksztaltowaniem sie i rozanicowaniem spolecznym bojarstwa litewskiego // Studia srodloznawcze.Warszawa, Poznan, 1959. T. V. S. 52.

[60] Иодковский И. И. Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси. С. 275.

[61] Князья Полубинские. Сборник исторических материалов по истории рода / составитель: Д. Г. Карпинский) // Рэжым доступу: http://www.wikiznanie.ru/ru-wz/index.php/Полубинские. Дата доступу: 04.07.2021.

[62] У дакуменце Літоўскай метрыкі ад 1500 г. ён завецца Міхнавіч Бакалаўр, у 1504 г. - Мікалаевіч Рачкавіча, у 1508 г. - Міхнавіч Рачкавіча, у 1512 - Мікалаевіч Рачкавіча, у дакуменце 1514 г. выступае як Міхнавіч без авоніма, у 1515-1516 і 1517-1520 гг. - пераважна як Міхнавіч Рачкавіча ці Міхнавіч без авоніма, у 1519 г. у дакуменце на лаціне Nicolaus Raczkowicz. Потым акадэмічная ступень бакалаўра перамагла, і дзеці Мікалая былі ўжо Бакалаўравічамі, іх сяляне "людзі Бакалаўравы", маёмасць "Бакалараўшчына". - Гл: Glinka J. Rod Klawsucia w wiekach XIII-XIV. Ze studiow nad ksztaltowaniem sie i rozanicowaniem spolecznym bojarstwa litewskiego // Studia srodloznawcze.Warszawa, Poznan, 1959. T. V. S. 39.

- Рыгор атрымаў Астрыну, Забалаць, двор Грыкішкі і 300 коп літоўскіх грошаў;

- Філіп атрымаў маёмасць Рэша (у Віленскім павеце) і 300 коп літоўскіх грошаў;

- Калістрат атрымаў маёмасць Бердаўка і 800 літоўскіх грошаў[63].

Астрынская старасціна, віцебская ваяводзіна Ганна з Радзівілаў, якая ў першым шлюбе была за Кішкам, а ў другім за Садоўскім, у 1566 г. здала ў пацэсію гаспадарскаму маршалку Яну Шымкавічу 16 бліжэйшых да Мажэйкава валок са свайго маёнтка Касцянёва, яшчэ раней ён атрымаў ад яе 14 валок, на якіх жылі сяляне Адамовічы[64].

Філіп Шымкавіч пазычыў 300 венгерскіх злотых у свайго брата Рыгора і пасля смерці Рыгора, яго жонка Богна (Багдана) з Мялешак, якая да таго часу (1562 г.) другі раз выйшла замуж за Эйсманта, падала на швагра ў лідскі земскі суд. Судзіў справу лідскі земскі суддзя Ян Юр'евіч Сіруць. Багдана мела распіску пра пазыку, і суд прызначыў выплаціць ёй 600 злотых, якія запісаў на частку маёнтка Забалаць.

У 1582 г. людзі Філіпа Ліманта Ваўчанскага напалі на падданага Шымкавічаў з Мажэйкава, пабілі яго і адабралі трох валоў. Лідскі земскі суд прысудзіў Ліманта заплаціць грыўню і запісаў гэтую суму на маёнткі Воўчынкі.

У сваім тастаменце ад 1586 г. гаспадарскі маршалак Філіп Шымкавіч адну частку сваёй маёмасці (паза межамі Лідчыны) адпісвае жонцы Настассі Афанасьеўне Трызнянцы, а непаўнагадовым дочкам Гальшцы (Ганне) і Багдане пакідае Малое і Вялікае Мажэйкава, Ваверку і Забалаць[65]. Філіп Шымкавіча меў дом у Вільні, які пасля яго смерці, перайшоў да жонкі Настассі Трызнянкі. Пабудова межавала з пляцам Свята-Духавага манастыра, са старых дакументаў бачна, што гэты драўляны дом знаходзіўся *"идучи зъ рынку до Острое брамы по левой руце ... Филипповое Шимковичовое, а тепершнее Яновое Завищиное Настазіи Тризнянки"* [66].

У сярэдзіне XVI ст., пасля смерці Шымкі Мацкавіча, Вялікае Мажэйкава належала каралеўскаму маршалку Філіпу Шымкавічу[67].

У Варшаўскім архіве захоўваюцца розныя судовыя справы Філіпа Шымкавіча, з адной з іх даведваемся, што ў 1563 г. кароль Жыгімонт Аўгуст звольніў Філіпа Шымкавіча ад адказнасці за забойства 2 чалавек, адзін з забітых быў пасланец Курляндскага князя, забойства адбылося ў доме віленскага месціча Мальхера Штэфля[68].

У 1586 г. сын Івана Шымкавіча Шклёнскага - Фёдар Іванавіч Шкленскі судзіўся з сваім дзядзькам Філіпам Шымкавічам, а потым з яго ўдавой Настассяй з Трызнаў. Філіп Шымкавіч павінен быў аддаць сваяку 26 дакументаў на маёнтак Рэша ў Віленскім і маёнтак Кавалі ў Ашмянскім паветах. Да таго часу Настасся Трызнянка ўжо другі раз выйшла замуж за Яна Завішу[69].

Філіп Шымкавіч меў двух дачок - Багдану, якая выйшла замуж за Аршанскага старасту Андрэя Іванавіча Сапегу, і Гальшку, якая выйшла замуж за Хрыстафора Мікалаевіча Нарушэвіча. Яны падзялілі паміж сабой маёнткі ў 1598 г. і пакінулі Маламажэйкаўскай царкве пацвярджэнне фундуша, дадзенага Шымкам Мацкавічам.

У 1598 г. нашчадкі Шымкі Мацкавіча склалі падзельны запіс, у якім пацвердзілі недатыкальнасць царкоўнай зямлі і фундушовы запіс, дадзены Мацкавічам у 1642 г. Маламажэйкаўскай царкве. Як бачна з гэтага дакумента, у 1542 г. царква ўжо існавала, у тым жа годзе была ўстаноўлена дзесяціна[70].

З дакументаў 1598-1601 гг., якія належалі дачцэ Філіпа Шымкавіча Багдане, бачна, што яна перапісала сваю частку Мажэйкава мужу, аршанскаму старасту Андрэю Сапегу, а яе сястра Ганна, якая выйшла замуж за Нарушэвіча, валодала другой часткай маёмасці[71].

У 1622 г. Багдана Сапега з Шымкавічаў, запісала сваю частку Мажэйкава дочкам: мсціслаўскай ваяводзіне Ганне Шамёт (жонцы Яраслава Шамета) і Зоф'і Палубінскай (жонцы Канстанціна Палубінскага), пакінуўшы сабе да канца жыцця 1/3 частку маёнткаў Мажэйкава і Гародна ў Лідскім павеце. Таксама нейкую частку маёнткаў атрымала і трэцяя дачка Гальшка Сапяжанка, якая пайшла ў кляштар[72].

У 1623 г. Гальшка Сапяжанка адмовілася на карысць сясцёр ад сваёй часткі маёмасці Мажэйкава і Гародна (частку Гародна яна мела ад сваёй бабулі Настассі з Трызнаў, якая ў першым шлюбе была за Філіпам Шымкавічам, а ў другім за Завішам). У 1624 г. пасля смерці Багданы Сапегі з Шымкавічаў, яе дачка Ганна Шамёт дамаўляецца з Зоф'яй і Канстанцінам Палубінскімі аб роўным падзеле маёмасці, але паміж сёстрамі ўзніклі нейкія маёмасныя праблемы, якія ў 1627 г. вырашаліся ў лідскім гродскім судзе[73].

Вось тое галоўнае, што на сёння вядома пра Шымку Мацкавіча і яго нашчадкаў і пра перадумовы будаўніцтва Маламажэйкаўскай царквы.

[63] AGAD. AR. Dz. X. Syg. 54. K. 1-17.
[64] AGAD. AR. Dz. X. Syg. 409. K. 1-6.
[65] AGAD. AR. Dz. X. Syg. 69. K. 1-2.
[66] АВАК. Вильна. 1893. Т. 20. С. CLVIII.
[67] Иодковский И. И. Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси. С. 278.
[68] AGAD. AR. Dz. X. Syg. 66. K. 1-6.
[69] AGAD. AR. Dz. X. Syg. 67. K. 1-42.
[70] Иодковский И. И. Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси. С. 278-279.
[71] AGAD. AR. Dz. X. Syg. 72. K. 1-21.
[72] AGAD. AR. Dz. X. Syg. 89. K. 1-13.
[73] AGAD. AR. Dz. X. Syg. 91. K. 1-18.

# Памяці Станіслава Ушакевіча

***1 лістапада памёр Станіслаў Алёйзавіч Ушакевіч, шматгадовы дзеячТаварыства польскай культуры на Лідчыне, ініцыятар многіх прадпрыемстваў, найстарэйшы лідскі краязнавец, пэўны час рэдактар "Ziemi Lidzkiej".***




**Неардынарны Станіслаў**

Мне пашчасціла, што нарадзіўся ў адзін 1931 год разам з Ушакевічам Стасям, родам з гаротнай і шматпакутнай, як і мае родныя Крычнікі, вёскі Такарышкі, даволі вялікай (больш за 100 гаспадарак), што прытулілася паміж рэчкай Прудзец і паўночна-заходнім краем услаўленай старажытнай Налібоцкай пушчы. З ранніх юнацкіх гадоў мне давялося разам са Стасям закончыць Эйгердаўскую сямігодку (1950 год) і вялікімі пераросткамі (прычынай сталася вайна і пасляваенныя цяжкасці) у 1953 годзе ў Юрацішскай СШ атрымаць сярэднюю адукацыю. Мы былі выпускам школы ў колькасці 19 чаавек. Веды ж па тым часе, складаным і паўгалодным, атрымалі грунтоўныя, бо была вялікая цяга да навукі і працаваў кваліфікаваны педагагічны калектыў, на чале якога стаяў патрабавальны і адзіны ў раёне педагог з універсітэцкай адукацыяй 30-гадовы ўдзельнік ВАВ, шчыры беларус-патрыёт Бародзіч ЗміцерЗахаравіч (пазней - навуковец Акадэміі навук), якога змяніў вялікі знаўца дзіцячых душ (і дарослых таксама) Касяк Міхаіл Іванавіч, працавіты і паважаны аўтарытэт.

Стааніслаў Ушакевіч сярод сваіх аднакласнікаў выдзяляўся дысцыплінаванасцю, акуратнасцю, зацікаўленасцю да навукі, асабліва прыродазнаўчай і матэматыкі, набожнасцю, павагай да працы і да акаляючых людзей. Так вучылі яго і ўсіх сваіх дзяцей яго бацька Алёйзы і маці Яніна са шляхецкага роду Пляямовічаў. Бацька, патомны селянін, меў 9,5 га зямлі і шмат жывёлы да прыходу бальшавікоў у 1939 годзе. Парабкоў не меў, а таму новая ўлада яго не кранула, калі не лічыць вялікіх і многіх падаткаў. Ён кожную нядзелю хадзіў на набажэнства ў касцёл мястэчка Лаздуны. Выдзяляўся дабрынёй і сціпласцю.

За любоў да кветак, садоўніцтва Стася ў школе называлі Мічурынам. І не памыліліся. Зінаіда Іосіфаўна Ярашэвіч, класная настаўніца падаравала яму рэкамендацыю аб паступленні ў Горацкую сельгасакадэмію, у якую і паступіў, толькі на гідрамеліярыяцыйны факультэт, які ў адрозненне ад агранамічнага, быў больш цяжкім і пашыраным. Беларусь рыхтавалася да наступу на многія балоты. Акадэмію закончыў у 1958 годзе са спецыяльнасцю інжынер-гідратэхнік міліярацыйнага будаўніцтва.

На розных пасадах па сваёй спецыяльнасці адпрацаваў 13 гадоў, пачынаючы з Лаздунскага СМУ (с/г меліярацыйнага ўпраўлення), але расчараваўся ў працы, бо падначаленыя яму брыгадзіры, тэхнікі з маўклівай згоды вышэйшага бюракратычна-адміністрацыйнага кіраўніцтва, парушалі навуковасць міліярацыі, фарсіруючы перавыкананне планавых заданняў. Патрэбны былі павышаныя прэміі і ўзнагароды.

У 1972 годзе перайшоў на пасаду кіраўніка будаўнічай брыгады калгаса побач з горадам Ліда. Тут Станіслаў Алёйзавіч у вёсцы Малэйкаўшчына дамогся пабудаваць уласны дом за горадам. А калі ў 1991 годзе пасля 19-гадовай працы ў калгасе выйшаў на пенсію, поўнасцю аднавіў мічурынскія замілаванні набыў многа розных гатункаў кветак, ягаднікаў, агародных культур, дэкаратыўных кустарнікаў. Усяго каля сотні розных відаў!

*"Пасля пастаўлення гарбачоўскай перабудовы і сцвярджэння незалежнай Беларусі я актыўна ўключыўся ў грамадскую дзейнасць па адраджэнні польскай мовы, кулыуры, па аднаўленні гістарычнай памяці на Лідчыне і Іўеўшчыне. У 1990 годзе ўвайшоў у склад камітэта па аднаўленні выдання краязнаўча-гістарычнага незалежнага часопіса на польскай мове ("Лідская Зямля"), які выдаваўся яшчэ ў 1936-1939 гадах. Адноўлены ў 1990 годзе. У складзе яго рэдакцыі знаходжуся да цяперашняга часу. На старонках гэтага выдання час ад часу друкуюцца мае артыкулы. Таксама мае артыкулы друкаваліся ў польскіх рэспубліканскіх выданнях і ў мясцовай "Лідскай газеце".*

Станіслаў Ушакевіч дасканала валодаў беларускай і польскай мовамі. Даследаваў і пісаў выбітныя нарысы пра забытыя цікавыя мясціны, гістарычныя падзеі, людзей. Меў багатую бібліятэку з навуковых кніг на рускай, польскай і беларускай мовах. Многа ездзіў, ладзіў экскурсіі-пілігрымкі па Беларусі, Літве, Польшчы і Расіі для дарослых і дзяцей.

Вельмі неардынарная і багатая асоба. Меў вялікія планы на будучыню.

***Валянцін Врублеўскі.***

***Станіслаў Ушакевіч***

# Успаміны

Большая частка сялян Такарышак вяла гаспадарку, можна сказаць, па-старому, прымітыўна. Так іх ужо прывучылі царскія ўлады. Я нават помню двух сялян на хутарах, якія аралі зямлю сохамі, гэта Кандратовіч Антоній, ці, як яго звалі, Антачка, і прымак з Загорцаў, таксама, здаецца, Кандратовіч. Апошні нават сечку карове рэзаў не сячкарняй, а касой. Для падняцця культуры земляробства ў Валожынскай акрузе Валожынскі соймік выкупіў маёнтак у Лаздунах і арганізаваў там сельскагаспадарчую школу для сялянскіх дзяцей. Сельскагаспадарчая школа на сваёй базе не раз арганізоўвала выстаўкі. Мой бацька стараўся быць передавым селянінам і быў падпісчыкам сельскагаспадарчага журнала "Plon" - "Ураджай". Адтуль не раз чэрпаў ён патрэбныя веды і прымяняў іх у сваёй гаспадарцы. Для павышэння выдайнасці ў жывелагадоўлі вучоныя заахвочвалі садзіць кармавыя буракі. Мой бацька скарыстаў з гэтай рэкламы і пасадзіў нейкую плошчу кармавых буракоў, даглядаў іх згодна паданай рэкамендацыі. Буракі выдаліся выдатныя, ен павёз іх нават на выстаўку ў Лаздуны. Жыў у Такарышках яшчэ адзін чалавек з бурлівай натурай, які любіў за многае хапацца, улезці, дзе трэба і дзе не трэба. Для майго бацькі быў нават сватам, а потым бацька паняволі, выпадкова, стаў кумам пры хрышчэнні яго малодшага сына. Звалі гэтага чалавека Савіцкі Косцік (Канстантын). Дык і ён таксама садзіў кармавыя буракі, але з недастатковага догляду яны добрымі не ўдаліся, а на выстаўцы хацелася яму засвяціцца. Дык вось ён і прыстаў да майго бацькі, каб ён даў сваіх буракоў. Бацька не любіў ашуканцаў і розных круцялёў, але свату мусіў даць сваіх буракоў. На выставе абодва занялі прызавыя месцы і былі прэміраваны па пяць прышчэпаў яблынь. На той час, хваліўся мой бацька, гэта была добрая прэмія. Туды, на выставу, некаторыя сяляне вадзілі добра дагледжаную, прадуктыўную жывёлу і таксама атрымлівалі ўзнагароду. Вёска памалу падымалася на ногі. Мой бацька, Сапяжынскі і Гаштольд, якога ўжо падмяняў сын Кандрат, набылі конныя прывады, вырабленыя ў Лідзе фабрыкантам Шапірам. Бацька са сваім цесцем на дваіх купілі конную малатарню. Яшчэ была малатарня і ў Сапяжынскага. Здаецца, нехта меў і ручную малатарню. Была пара арфаў для ачысткі намалочанага збожжа. Мой бацька пазычаў заўсёды арфу ў сваёго калегі Радзвіловіча Юзіка. Конны прывад у гаспадарцы майго бацькі ў зімовы час выкарыстоўваўся для рэзкі жывёле сечкі. Бацька са мною за гадзіну-дзве наразаў сечкі на цэлы тыдзень для дзвюх кароў, каня, цялушкі. Бацька быў каля сячкарні, а я ездзіў на дышлі прывада і падганяў каня.

Усе дзеці школьнага ўзросту ў абавязковым парадку абавязаны былі хадзіць у школу. Школа знаходзі-

**Такарышкі**



***Ліпавая алея пасаджаная панам Радкевічам. Фота © patocki. Дата: снежань 2010***



***Прыдарожны крыж у вёсты Такарышкі на скрыжаванні дарог Юрацішкі-Вішнева і Крычнікі-Кірвелі.***
***Фундатар крыжа - ураджэнец Такарышак, жыхар вёскі Малэйкаўшчына Ушакевіч Станіслаў Алёйзавіч. Усталяваны жыхарамі вёскі ў жніўні-верасні 2013 года. Урачыста асвенчаны 15.09.2013 пробаршчам Юрацішкаўскай парафіі Перамянення Пана ксяндзом Віталіем у прысутнасці жыхароў вёскі, гасцей, фундатара крыжа, а таксама ўнука апошняга ўладальніка фальварка Такарышкі Вітольда Радкевіча - Мечыслава Пяркоўскага.***
***Фота © patocki. Дата: верасень 2013***

лася ў Гэлькі Дабаровічавай на хутары. Некаторым дзецям было далекавата хадзіць да школы, напрыклад, дзецям з Гварака, які стаяў на сённяшнім скрыжаванні дарог Юрацішкі-Эйгерды і Такарышкі-Крынічкі. Найдалей было да школы Дзюні Даўгялавай. Зімой яе бацька падвозіў на санях, а потым забіраў, дык падбіраў і нас, каму хапала месца на санях. Вучыў нас Казімеж Клідзіо. У яго было трое дзяцей. У 1938 годзе я пайшоў у першы клас, а сын Клідзіо Генрых хадзіў ужо ў другі клас. Вучыліся ў дзве змены: старшыя два класы ў першую эмену, а першы і другі па абедзе.

Дом, у якім знаходілася школа, дзяліўся на дзве палавіны: у адной была школа, у другой кухня і жытло самой гаспадыні. Як прыходілі ў школу, то чакалі на кухні, і было не павярнуцца нават самой гаспадыні. У яе якраз мелася дзіцё, дык у плеценай калысцы знаходзілася на печы. Калі яно зачынала плакаць, то Ваня Агафонаў - найбольш адважны з нас - мігам, як кот, скакаў на печ і там яго супакойваў. У класе на сцяне вісеў крыжык і некалькі партрэтаў кіраўнікоў польскай дзяржавы, але я не помню іх прозвішчаў. Навуку зачыналі і канчалі кароткай малітвай да Бога. У школе праводзілася акцыя збору грошай на будовы новых школ. Збор быў невялікі - усяго пяць грошаў, і каму ўдавалася дастаць ад бацькоў гэтыя грошы, то настаўнік даваў значок, на якім была адлюстравана тыповая школа з надпісам па-польску: "Budowa szkol powszechnych" - "Будова пачатковых школ". Такія школы ўжо былі пабудаваны ў Верашчаках, Даўгірдзішках, Эйгердах, але савецкія партызаны іх папалілі. Далей чатырох класаў вучыцца было вельмі цяжка - у бацькоў не было на гэта грошай. Майго бацькі суседа Кандратовіча Антака сын Уладак вельмі прагна хацеў вучыцца, а ў бацькі не было многа грошай, і да таго яшчэ быў ён вялікім скупярдзяем. Таму, калі сын Уладак вучыўся ў дзесяцігодцы ў Іўі, то хадзіў туды і дадому пешшу, а калі не меў чаго есці, то хадзіў у лес збіраць грыбы. У 1939 годзе ён ужо вучыўся ў Лідзе ў Бухгалтарскай школе ксяндзоў-піяраў і адначасова на аэрадроме займаўся ў гуртку авіятараў. З верасня ўжо ішла вайна з Германіяй, а ён здаваў экзамен на палёт на планеры, аб чым потым меў дакумент. Таксама ўжо ўпамянуты Савіцкі Косцік старэйшую дачку Вандзю вывучыў за прадаўца і збіраўся ў сваім доме адкрыць другі вясковы магазін. Але вайна перашкодзіла. На вясковым могільніку вёскі Такарышкі, дзе цяпер стаіць помнік савецкім салдатам, была брацкая магіла нямецкіх салдатаў з Першай сусветнай вайны. Рыхтуючыся да новай вайны, немцы пачалі выкопваць парэшткі сваіх салдат і звозіць у Германію. Мае калегі вучні, якія жылі блізка могільніка, бегалі глядзець эксгумацыю, а потым дзяліліся бачаным у школе. Казалі, што асобныя труны не былі поўнасцю згніўшымі, і як іх адкрывалі, то там былі чалавечыя твары, адзенне, а як да іх датыкаліся рыдлёўкай, то ўміг рассыпаліся ў попел. 1939 год быў трывожным. На трэцяе мая бацька са мною ездзіў у Юрацішкі на набажэнства ў касцеле. Духавенства і польскія ўлады змушалі святкаваць гэтае свята, а калі хто гэтым днём спрабаваў працаваць на полі, то рызыкаваў атрымаць кару ад паліцыянта, калі б той дзе тут накруціўся. Пасля ўрачыстасці ў касцёле ў мястэчку каля гміны адбываўся мітынг. Юрацішкі на той час былі невялікім мястэчкам. Акрамя гміны, там яшчэ былі праваслаўная царква, новапабудаваны касцёл, сямігадовая школа. Пакуль будаваўся касцёл, набажэнствы адбываліся ў спартыўнай зале школы. Я там быў пару разоў з бацькамі. Школа знаходзілася па цяперашняй вуліцы Савецкай, на яе фундаменце цяпер стаіць чатырохкватэрны дом.

Па ўспамінах майго бацькі на могільніку ў Такарышках і Гердушках былі каталіцкія капліцы, але іх разабралі царскія ўлады на рамонт царквы ў Юрацішках. Узгаданая раней Радвіловіч Марыя (1906-1992) успамінала, што яе бацька расказваў, як некалі праз акно ў фундаменце лазіў у падзямелле капліцы, дзе стаялі труны гаспадароў маёнтка. Калі цяпер пасля зімы зазірнуць на вясковы могільнік, то недалёка ад помніка савецкім воінам, злева, добра бачацца фундаменты былой капліцы. На захаваўшыхся помніках на могільніку прозвішчы жыхароў не з Такарышак. Відавочна, яны былі неяк звязаны з маёнткам.

Надышла трывожная восень 1939 года. У астатніх днях жніўня пачалася мабілізацыя мужчын, потым коней, вазоў. Колькі мужчынаў пайшло на вайну, я не помню. Некаторыя з іх не вярнуліся, як шавец Станчыц. Мабілізацыйны пункт коней і вазоў быў аж у Дзярвянішках. Адтуль мой бацька вярнуўся без воза, які змабілізавалі з ацэнкай сто злотых - вартасцю на той час адной каровы.

Нашага настаўніка Казіміра Клідзіо таксама мабілізавалі перад першым верасня. Мае калегі казалі, што бачылі, як ён ад'язджаў з дому ў форме польскага афіцэра з шабляй пры боку. З гэтай прычыны першага верасня заняткі ў школе ў нас не распачаліся, і перапынак быў аж да прыходу саветаў. Маім бацькам таксама па распараджэнні солтыса прыйшлося здаць падкормленага вяпрука для жыўлення войска. На ўсе змабілізаваныя прадметы выдаваліся гарантыйныя квітанцыі выплаты гэтых сум дзяржавай. Аднак гісторыя склалася так, што гэтыя паперкі засталіся толькі гістарычнай памяткай. Нямецкая авіяцыя лятала беспакарана. Немцы збамбілі Іўе. Мой бацька чакаў з дня на дзень мабілізацыйнага квітка, а матуля кожны дзень моцна плакала і прасіла Бога, каб наш дом, сям'ю абмінула гэтая няшчасце, бо што б было рабіць маці адной па гаспадарцы з чацвярыма малымі дзецьмі ва ўзросце 8, 6, 4, 1,5 года. На наша шчасце Бог адхіліў гэтую бяду. У вёсцы сяляне мелі пару радыёпрыёмнікаў, і весткі з фронту паступалі з кожным днём усё больш сумныя. Надышла нядзеля 17 верасня. Мужчыны, што яшчэ не былі змабілізаваны, па старым звычаі пайшлі ў Юрацішкі на набажэнства - адны ў касцёл, другія ў царкву. Насельніцтва Такарышак моцна паміж сабой не дзялілася па канфесіях, а таму і на набажэнства ў Юрацішкі стараліся хадзіць групкамі, каб весялей разам прайсці гэтыя 7-8 кіламетраў, падзяліцца рознымі сялянскімі навінамі і палітыч-

нымі плёткамі. Дадому вярталіся ўжо канфесійнымі групамі, бо ў касцёле набажэнства канчалася значна раней, чым у царкве. Мой бацька таксама пайшоў да касцёла. З раніцы стаяў густы туман, і маці прытрымала каровы ў хляве, а як трошкі туман пачаў радзець, паслала мяне выгнаць каровы з хлява на цялятнік, каб да абеду тут папасвіліся. Пасля абеду статак выганялі на незааранае яшчэ іржышча. Калі я выйшаў на падворак, то пачуў недзе за хлявамі цяжкі гул самалётаў. Па гуле нямецкіх самалётаў я ўжо навучыўся адрозніваць бамбардзіроўшчыкаў ад легкавых самалётаў. На гэты раз былі бамбардзіроўшчыкі і ляцелі яны недзе ў напрамку вёскі Забалаць. Не паспеў я загнаць кароў на цялятнік, як пачулася некалькі глухіх, але магутных выбухаў. Я моцна спалохаўся і хутчэй пабег дадому, а маці пытаецца, што там здарылася. Мы вельмі затрывожыліся за лёс бацькі. Недзе ў абед на дарозе Эйгерды-Такарышкі паказалася некалькі дзясяткаў польскіх жаўнераў. Я адразу кінуўся да сябра Вані Раманова (Сарокі), і праз некалькі хвілін мы былі за рэчкай і беглі да бярозаў, дзе цяпер зроблены прыпынак аўтобусаў у напрамку Эйгердаў. Тыя дзве бярозы потым спілавалі, як будавалі шашу. Салдаты сядзелі на абочыне дарогі, паздымаўшы каскі. Нехта з жыхароў Гварака прынёс салдатам вады. Іх было можа чалавек з трыццаць, на сабе яны мелі скручаныя колам шынялі. Пасля нядоўгага адпачынку адзін з салдатаў падняўся і зайграў у трубу. На яе сігнал усе салдаты падняліся і памаршыравалі далей у напрамку Юрацішак. Калі я стаў дарослым і начытаным па гісторыі, то дайшоў да высвадаў, што гэта былі жаўнеры з нейкай пляцоўкі КОПа (Korpus ochowy pogranicha), якія, даведаўшыся аб савецкай агрэсіі на Польшчу, адступаў на захад. Бацька вярнуўся з Юрацішак і сказаў, што саветы пайшлі вайной на Польшчу, а войт Пялецкі на сваім падворку паліць нейкія дакументы. Запрэжаны ў брычку конь, на якім ён ездзіў на працу ў гміну ў Юрацішкі, стаіць напагатове. Відаць, ён збіраўся некуды ўцякаць. Дом войта стаяў метраў сто ад дарогі ў вёску Верашчакі, недалёка, дзе цяпер пракапана глыбокая канава. У Такарышках, хто меў радыёпрыёмнікі, даведаўся аб гэтай падзеі. Адным з такіх быў ужо ўпамянуты Савіцкі Косцік, які любіў усюды ўлезці. Ён і Гансоўскі Ясь былі калегамі па камуністычнай ідэалогіі і, як аказалася, бальшавіцкімі агентамі і нават атрымоўвалі пры Польшчы з Саюза значную фінансавую падтрымку. Суседзі іх у гэтым падазравалі, але польскія ўлады былі даволі няўважлівыя і не цікавіліся, хто і адкуль мае фінансавыя сродкі. Абодва гэтыя сябры, на вялікі жаль, былі кумы майго бацькі, а адзін быў яшчэ і сватам. Вось іх характарыстыка.

Гансоўскі Ясь да 1938 года паспяхова перабудаваўся на калёнію (хутар), меў чацвёра дзяцей: тры сыны і дачку. Старэйшай была дачка Валюня, потым сыны Віктар, Павел і Янак. Мой бацька быў хрышчоным для Валюні. Ясь меў ровар, а на той час гэта азначала, што сёння мець які небудзь мэрсэдэс-бэнц. Савіцкі Косцік таксама да 1938 года адбудаваў на хутары новую хату ў гладкі вугал. Меў шасцёра дзяцей, а ў гаспадарцы прыёмнік, ровар. Старэйшую дачку Вандзю вывучыў на прадаўца і збіраўся ў сваім доме адкрыць магазін. Быў Косцік бурлівай натуры і заўсёды стараўся недзе без патрэбы ўлезці. Спачатку ён належаў да Беларускай грамады, цэнтр якой месціўся ў Гародзьках. Грамада была арганізавана праз бальшавіцкую агентуру і вядома ж працавала супраць Польшчы. Дык вось, у гэтых Гародзьках адбываўся нейкі збор Грамады, на якім быў і Савіцкі. Польская паліцыя частку членаў Грамады арыштавала. Савіцкаму неяк удалося пазбегнуць арышту і за ноч, як смяяўся мой бацька, са смярдзючымі порткамі прыбегчы ў Такарышкі. Потым ён улез у польскую сельскагаспадарчую арганізацыю "Azoty" (Азоты). Як жаніўся мой бацька, то ў сваты паехаў у вёску Загорцы да Пляхімовіч Яніны. Савіцкага узяў за свата. У сваты ў той час ездзілі на вечар, каб не перашкаджаць гаспадарам у дзённым рытме працы. Варочаліся са сватоў ноччу. Дарога да Загорцаў бегла па даволі рухлівым шляху, але зусім неўпарадкаваным. З Загорцаў у Такарышкі ехалі праз вёску Куцькі, за якой цягнулася лясная паласа аж да чыгункі Ліда-Маладзечна. Пасля ўезду ў лес недалёка ад краю цягнулася даліна, вясной і восенню заўсёды забалочаная. У лужынах дно была пясчанае, цвёрдае, і конь без вялікай натугі цягнуў воз. Называлі гэтае месца Рэзаніца. З правага боку ў гэтай Рэзаніцы недалёка ад дарогі рос многагадовы карклаты дубок. Магчыма, ён і сёння яшчэ жыве, бо сваім ствалом не гадзіўся ні на якую добрую справу. Дык вось варачаецца мой бацька са сватоў з Савіцкім Косцікам, а як пад'ехалі да гэтага дубка, конь наставіў вушы і захроп. Прыглядаюцца пасажыры і бачаць у прыцемках летняй ночы каля дуба чалавека. Напэўна, нейкі рабаўнік, але, угледзеўшы на возе двух мужчын, не адважыўся на рабунак і добра зрабіў, бо для яго ўсё, напэўна, скончылася б трагічна. Аказваецца, Савіцкі прыхапіў з сабой рэвальвер, палажыў яго на калені, а як трохі ад'ехалі ад таго дубка, выстраліў уверх, даючы знаць ляснаму незнаёмцу, што яго магло напаткаць. Даведаўшыся 17 верасня 1939 года, што саветы, ці, як іх тады называлі, бальшавікі, пайшлі вайною на Польшчу, Савіцкі і Гансоўскі селі на ровары і паехалі праз Вішнева на Валожын спатыкаць тых бальшавікоў. Не спаткаць іх было б для іх вялікім грэхам, бо і ровар, відаць, быў куплены за савецкія грошы. Сталін не шкадаваў грошай на падрыўную працу ў суседніх дзяржавах. Вось і ровары Савіцкі і Гансоўскі атрымалі з дапамогай бальшавіцкага падполля, каб маглі больш эфектыўна працаваць, бо пешшу далёка не зойдзеш. Спаткалі яны Чырвоную армію пад Валожынам у вёсцы Стайкі, а к вечару з баявым духам вярнуліся дадому. Не маглі бедалагі прадбачыць, якую трагічную памылку рабілі сабе і сваім сем'ям.

Раніцай, як толькі развіднела, па дарозе з Вішнева на Юрацішкі пацягнулася чарада машын. Паветра стала невыносна смярдзючым. На той час аўтатэхнікі не было, ці, правільней сказаць, яна па гэтай дарозе не ездзіла. Паветра было на сто працэнтаў чыстым, натуральным. Таму праезд нават аднаго грузавіка атручваў паветра

на вялікую адлегласць. Гэта сёння нашыя арганізмы так прыстасаваліся да розных смуродаў, што мы іх не заўважаем, калі толькі не стаім каля выкідной трубы. Гаспадар маёнтка Радкевіч Вітольд з жонкай раніцай 17 верасня з'ехаў з маёнтка, пакінуўшы ўсё у пакоях, у тым ліку і лямпавы радыёпрыёмнік. Як даведаліся аб гэтым мужчыны, то забралі яго і перанеслі ў дом маткі Кастуся Куляша Агаты. Яе дом стаяў прытуліўшыся да могільніка. Пачалі вясковыя мужчыны збірацца на вячоркі ды слухаць, што дзеецца на белым свеце. Асабліва атрутнай была гітлераўская прапаганда адносна Польшчы. Бацька ўспамінаў, прыйшоўшы з такога вечарка, што гітлераўцы смяяліся з палякаў, якія выехалі на мужыцкіх вазах і хацелі даехаць аж да Берліна. Савіцкі з Гансоўскім са сваіх асоб стварылі самазванчы камітэт, прыбылі ў маёнтак і пачалі дзяліць маёнткавае дабро: каму карову, каму каня, каму каня з возам. Пры Польшчы хадзілі розныя чуткі аб жыцці ў саветаў. Польская прэса, у тым ліку і рэлігійная, пісала аб страшных справах, якія адбываліся ў гэтай краіне. Камуністычнае падполле распаўсюджвала розныя прапагандысцкія лістоўкі і газеткі, дзе пісалася, што ў ССР ужо створаны амаль што рай на зямлі. Таму, як толькі пацягнулася чарада калонаў Чырвонай арміі, з бліжэйшых вёсак прыйшлі да маёнтка Такарышкі мясцовыя людзі паглядзець на савецкіх салдатаў. Заўсёды па стане арміі: абмундзіраванні, экіпіроўцы, выглядзе - можна беспамылкова меркаваць і аб дзяржаве. Чырвонаармейцы ў параўнанні з польскімі салдатамі, а асабліва афіцэрамі выглядалі вельмі дрэнна, нагадвалі нейкіх жабракоў, якія мала чым розніліся ад тых, што у 1917-1920 гадах хадзілі ў лапцях, а вінтоўкі насілі на вяроўках. Магчыма, рамяні ад вінтовак выкарыстоўвалі на рамяні да портак. Больш праворлівыя жыхары ад першага погляду зразумелі, што гэта "Фядот ды ня тот". Хто раней трохі верыў ў саветаў, цяпер, апусціўшы нос, вяртаўся моўчкі дадому, расчараваны ўбачаным. У ліку цікаўных аказаўся і мой бацька. Паглядзеўшы на салдатаў, пайшоў паглядзець, што там за рух у маёнтку. Самазванчы камітэт у гэты момант "працаваў" у складзе, які знаходзіўся ў каменным будынку былога бровара і меў два паверхі. Угледзеўшы майго бацьку, кінуліся яны да яго і за рукаво ўцягнулі ў склад, кажучы, што хочуць пачаставаць яго яблыкамі. Бацька мой не любіў браць чужое і аднекваўся ад пачастунку, але адзін з іх пайшоў у вугал склада, знайшоў нейкі мяшок, усыпаў кошык яблыкаў і палажыў бацьку на плечы. Дзявацца не было куды, мусіў несці дадому. Свайго пладавітага саду яшчэ не было, прэміяльныя дрэўцы толькі падрасталі, а прынесеныя бацькам з панскага саду антонаўкі мы вельмі смакавалі.

Прыйшоўшыя за вайскавымі часткамі энкавэдысты пачалі наводзіць савецкія парадкі. У першую чаргу забралі панскі радыёпрыемнік, з якога мужыкі цешыліся каля тыдня. Відавочна, баяліся, каб сяляне з якой-небудзь замежнай радыёстанцыі не даведаліся аб "шчаслівым" жыцці ў СССР. У доме, у якім жыў эканом маёнтка, размясцілі сельсавет. На старшыню сельсавета выбралі з Нарэяк камуніста Завацкага. Такарышскія кандыдаты міма іх старання чымсьці не падыходзілі на пасады і так і засталіся незаўважанымі бальшавікамі аж да вайны з немцамі. У час сталінскага тэрору бальшавіцкае падполле ўзмоцнена распаўсюджвала прапаганду аб шчаслівым жыцці ў саветаў. Да гэтага, можна здагадацца, мелі дачыненне Савіцкі з Гансоўскім. Пяць маладых такарышскіх хлопцаў клюнулі на гэтую прапаганду і падаліся на ўсход. З прыходам бальшавікоў сем'і гэтых хлопцаў цешыліся, што вось хутка яны ўбачаць сваіх сыноў з вялікімі грашыма, магчыма, большымі, чым у тых, што вярталіся з Францыі ці Амерыкі. Аднак хутка беглі месяцы, а хлопцы не вярталіся ў сваю вёску, а да гэтага той-сёй нейк даведваўся ад савецкіх салдат, савецкіх служкаў, якія пачалі прыязджаць з усходу, вельмі сакрэтную і кароткую інфармацыю аб тым, як сапраўды жывецца людзям у СССР. Родзічы зразумелі, што, напэўна, іх сыноў ужо няма ў жывых. Вельмі добра такі момант пераходу граніцы з Польшчы ў СССР апісвае Васіль Быкаў у сваёй аповесці "Доўгая дарога дадому". Акрамя працягнутай брацкай рукі заходнему беларусу, як трубілі бальшавіцкія палітрукі, надалей ахоўвалася польска-савецкая граніца да 1939 года, і праехаць яе можна было толькі па пропуску НКВД. Відаць, савецкая ўлада вельмі баялася, каб усходні беларус не заразіўся буржуазнай ідэалогіяй.

У газеце “Звязда” за 1994 год быў надрукаваны жудасны артыкул аб лёсе ўцекачоў з Польшчы. Каля Негарэлага праходзіла лінія фронту ў час Першай сусветнай вайны, і там засталіся незасыпаныя франтавыя акопы. Пасля Рыжскага мірнага дагавору гэтыя акопы аказаліся ў прыгранічнай паласе саветаў і засталіся без змен. Калі пайшла мода на будову дач, гэтую тэрыторыю з дапамогай бульдозераў упарадкавалі і раздалі дачнікам. Калі ўласнікі зямельных участкаў пачалі будаваць на іх дачныя домікі і капаць дол пад фундамент, пограб, падвал, то многія наткнуліся на групавыя чалавечыя пахаванні. Людзі паднялі трывогу і пачалі высвятляць, што ж гэта тут рабілася. Хутка мясцовыя старажылы адкрылі ім праўду. Тут расстрэльвалі ўцекачоў з Польшчы і, каб аблегчыць сабе працу, энкавэдысты расстраляных укідалі ў былыя траншэі і зверху прысыпалі зямлёй. Так па-зверску бальшавікі спачатку заахвочвалі жыхароў Польшчы на ўцёкі ў СССР, а на граніцы іх забівалі.

Пасля арганізацыі адміністрацыйнага падзелу на акупаваных трыторыях заходняй Беларусі бальшавікі прыступілі да арганізацыі школ. Многіх вучняў адкінулі на адзін клас ніжэй. Відаць, палічылі, што польская адукацыя ніжэйшая за савецкую. Я мусіў зноў пайсці ў першы клас. Школа засталася ў ранейшай гаспадыні з усім школьным інвентаром. Настаўнікам быў Бабровіч Фёдар, які да выхаду вёскі на хутары праз некалькі гадоў наймаўся вясковым пастырам (пастухом), але, відаць, з царскіх часоў трохі падвучыўся грамаце. У школе знік крыжык, а на сценах з'явіліся выразаныя з газет партрэты Леніна, Сталіна, Калініна, па краях абклееныя чырвонай паперай. Ужо не трэба было перад урокамі адмаўляць малітву, а сын упамянутага Косціка Савіцкага гава-

рыў: "Дзякуй богу, што бога няма". Бацька яго выхаваннем сына, відаць, не займаўся.

Такарышкі па новым адміністратыўным падзеле належалі да Такарышскага сельсавета Юрацішкаўскага раёна Баранавіцкай вобласці. З устанаўленнем савецкай адміністрацыі бальшавікі ўвялі і новыя павіннасці, якіх нашыя людзі не знали, - гэта бясплатныя сутачныя дзяжурствы пры райвыканкаме з канём, запрэжаным у воз ці сані. Звычайна прызначалі пару дзяжурных. Пасылалі дзяжурыць, ці, як тады казалі, "на стойку" работнікі сельсаветаў. Наступіла марозная зіма 1939 -1940 года. 9 лютага прызначылі майго бацьку на гэтую "стойку". Старшыня сельсавета Завацкі знаў, што будзе адбывацца гэтай ноччу, і таму падбіраў на стойку "гаспадарлівых" людзей, у якіх мелася адпаведная вупраж, добры конь, сані, а гаспадары мелі зімовую вопратку. Калі мой бацька вечарам прыехаў пад будынак НКВД, які размяшчаўся ў Ясюлевічавай хаце, што стаяла з правага боку цяперашніх лазні Юрацішак, то ўбачыў вялікую групу з запрэжанымі ў сані коньмі, ды яшчэ пад'язджалі наступныя. Фурманы пачалі трывожыцца, што гэта магло азначаць, бо да гэтага звычайна прызначалася толькі пара фурманаў. Праз пару гадзін, як пачалася ноч, да будынка НКВД прыбылі каля пару дзясяткаў салдатаў у доўгіх шынялях з вінтоўкамі са штыкамі. Фурманы зразумелі, што заносіцца на нейкую злачынную справу. Пасля нядоўгага пабыцця салдат ў будынку выйшлі і падышлі да саней і пачалі называць, хто з такой ці іншай вёскі. Назвалі і вёску Такарышкі. Бацька адазваўся, і два салдаты селі ў сані і сказалі везьці іх ў вёску, а як даедуць, каб сказаў, што яны на месцы. Ехаў бацька з трывожнай думкай, ці не па сваю едзе сям'ю. Як даехалі да Такарышак, сказалі, каб вёз пад дом, дзе пражывае сям'я Клідзіо, які пайшоў на польскую вайну і не вярнуўся. Відаць, трапіў у бальшавіцкія рукі, а можа, яго занёс у адпаведны спісак старшыня сельсавета. Жонка настаўніка пасля таго, як муж пайшоў на вайну, не мела вялікіх запасаў для пракармлення сям'і з чатырох душ і пачала галадаць. Людзі ў той час шанавалі настаўнікаў і іх сем'і, таму патроху пачалі падкормліваць гэтую сям'ю: то кошых бульбы, іншы гарнец круп ці мукі, а перад Калядамі дык і кілбаску. Гэтая сялянская дапамога андак не магла рэгулярна ўтрымаць гэтую асіроцелую сям'ю - маці і трох дзяцей. Старэйшаму сыну Генрыку было каля 9 год, а яшчэ двое малых. Таму пані Клідзіо пайшла ў сельсавет да старшыні прасіць якой-небудзь дапамогі. На гэты момант і мой бацька аказаўся па нейкай справе ў сельсавеце. Старшыня ў гэты час адпачываў у сваім пакоі, лежачы на падлозе і падлажыўшы пад галаву сядло. Для даезду з Нарэяк у Такарышкі на працу і раз'езду па вёсках Завацкі меў каня і сядло, якое, магчыма, належала раней эканому маёнтка. Не падымаючыся з падлогі, старшыня адказаў пані Клідзіо, што пастараецца ёй дапамагчы. І вось, магчыма, пры яго старанні ў ноч з 9 на 10 лютага 1940 года і прыехала "дапамога". Салдаты разбудзілі гаспадароў дома Гаштольдаў і сям'ю Клідзіо. Пані Клідзіо сказалі, што яна прызначана на высяленне з вёскі і павінна збірацца. Часу даецца адна гадзіна. Пачуўшы гэта, пані Клідзіо страціла прытомнасць, але гаспадары дома яе апрытомнелі і пачалі дапамагаць адзяваць дзяцей, якія моцна плакалі, разбуджаныя сярод ночы. Мы, вясковыя дзеці, на той час мелі больш як напалову адзенне самаробнае. Яно выглядала не элегантна, але затое было цёплае. Зімой насілі капоты. Пашытыя з шарачку з падкладкай, а паміж імі тоўсты слой мяккага пакулля. Іншыя мелі "баранчыкі", гэта значыць, кажушок, абцягнуты зверху шарачком ці паўсукенкам, а дзеці блыш заможных бацькоў мелі кажушкі. Дзеці Клідзіо былі адзетыя ў фабрычне адзенне, больш элегантнае, але затое і больш зімнае, а тут за вакном мароз 40 градусаў. Ад яго аж лопаліся з трэскам некаторыя ствалы дрэў і бярвенне ў сценах пабудоў. На шчасьце, мой бацька, выязджаючы на стойку ўсе рагуці добра запакаваў сенам, не толькі для каня, але і каб самому можна было добра адпачыць. Каб ратаваць дзяцей ад марозу, бацька сярод рагуцей у сене зрабіў нібы гняздо, якое выслалі коўдрамі, і туды шчыльна пасадзілі дзяцей, потым іх акрылі нейкімі дзяружкамі, палажылі сціплы набытак, які НКВД-ысты пералічылі, каб ведаць, што можна браць. Гаштольды аддалі ім хлеб, які мелі на той час і трохі іншай драбязы. Маці села, прытуліўшыся да сваіх дзяцей, нібы тая гаротная птушка, закрываючы іх ад ворагаў. НКВД-ысты селі ззаду на вуглах рагуцёў, а бацьку засталося месца ў санях амаль пад хвастом у каня. Калі ўладкаванне ў санях было закончана, НКВД-ысты далі бацьку загад напрамку язды на станцыю Юрацішкі. Пасля двухгадзіннага падарожжа праз Верашчакі, Брадзішча, Дарэні, глыбокай ноччу аказаліся яны на чыгуначнай станцыі Юрацішкі. Стаяў цягнік з таварных вагонаў, ці, як іх тады называлі, быдлячых, а каля іх бегалі НКВД-ысты з вінтоўкамі і камандавалі, пад які вагон пад'язджаць прыбываючым то з аднаго, то з другога боку саням з "пасажырамі". Атрымаў і мой бацька ўказанні, куды пад'язджаць, дзверы вагона адчынілі і сказалі загружацца. НКВД-ысты таксама пачалі дапамагаць, бо работа была нялёгкая: парог дзвярэй быў вельмі высокі. Спачатку ўсадзілі дзяцей, потым укінулі іх багаж, пасля чаго пані Клідзіо жалобна і сардэчна развіталася з маім бацькам. Ёй дапамаглі забрацца ў таварняк да дзяцей, і дзверы вагона салдаты зачынілі. Бацьку сказалі, каб ехаў дадому, аперацыя закончана. Бацька пад раніцу вярнуўся дадому і як зайшоў у хату, я ужо не спаў, выйшах да яго на кухню. Маці і мне бацька расказаў аб страшных і жудасных дзеяннях НКВД. Раніцай я павінен быў ісці ў школу, дык бацька загадаў мне, каб я ў школе ні слова не гаварыў аб пачутым, бо можа, хутка і нас спаткае такая самая доля. Але з настаннем раніцы чуткі аб злачынстве бальшавікоў папаўзлі па цэлай вёсцы. Сям'я Клідзіо была не адзінай ў ваколіцы, якую спаткала такая нядоля. З Юнкавічаў (каля Эйгердаў) гэтай ноччу вывезлі сям'ю лесніка Грышкевіча. З пад Яхамоўшчыны таксама вывезлі сям'ю лесніка, але гаспадар змог збегчы і нейкі час хаваўся ў лесе за вёскай Магенцы, у якой была яго фамілія. НКВД-ысты потым вынюхвалі, дзе ён хаваецца, і завербавалі з вёскі Забалаць Драздзіка, каб ён яго высачыў і забіў.

Дроздзік (магчыма яго прозвішча было Дрозд) у Магенцах залез на вышкі ў гумне і там пільнаваў лесніка, бо ведаў, што ён гэтым загуменнем прыходзіць з лесу да сваякоў. Тут гэты Дроздзік лесніка і забіў. Якую ўзнагароду ён атрымаў ад бальшавікоў, я не ведаю, але як прышлі немцы, мясцовыя людзі аб гэтым расказалі, і немцы яго застрэлілі. Хаты вывезеных гаспадароў вясной пачалі перавозіць у Юрацішкі, даючы пачатак бурнаму росту мястэчка. Да гэтага часу Юрацішкі былі маленькім мястэчкам. З поўдня астатняй хатай была хата бацюшкі, з захаду - праваслаўны могільнік, касцёл і плябанія, якія захаваліся да сённяшняга дня. З поўначы апошні быў дом Журко, дзе цяпер мураваны магазін, а на другім паверсе сталовая. З усходу граніцай мястэчка была вузкакалейка, а потым малочны завод.

Але вяртаемся ў Такарышкі. У другой палове навучальнага года настаўніка Бабровіча замяніла Ванда Станіславаўна Альшэўская, мая стрыечная сястра. У 1939 годзе з 1 верасня яна ўжо была гімназісткай другога курса Гарадзенская жаночай гімназіі. З закрыццём бальшавікамі гэтай установы яна з сястрою вярнулася да бацькой у Загорцы, а потым пасля кароткіх курсаў пачала настаўнічаць у Такарышках. Давучыла нас да канца года. З 1 верасня 1940 года ў Такарышкі прыслалі з Менска маладога настаўніка Бадылевіча Фёдара Фёдаравіча. Пасяліўшыся ў Такарышках, ён хутка ажаніўся з дачкою Гансоўскага Яся Валюняй, хрышчонай майго бацькі, і ў іх жыў. Сям'я гэтая аказалася інтэрнацыянальнай. Ясь Гансоўскі падчас Першай сусветнай вайны нейкім чынам блытаўся па Паволжы і адтуль, як быў падпісаны мірны дагавор паміж Польшчай і СССР, прыехаў дадому і прывёз сабе за жонку немку Лідзію. З рацыі кумаўства яна час ад часу заходзіла па нейкіх агародных справах да маёй матулі. Нам, дзецям, было вельмі смешна ад яе руска-беларуска-польскай трасянкі. Яна гаварыла прыкладна так: "Моя Павля ходзіла". Гэта азначала, што яе сын Павел хадзіў. Настаўнік Бадылевіч правучыў нас 1940-1941 год. Я ужо перайшоў у 3 клас і меў амаль што ўсе падручнікі для 3 класа, але бацька, як прыйшлі немцы, іх папаліў, бо там у чытаннях былі партрэты Сталіна, Леніна і адпаведныя тэксты. Бацька баяўся, што немцы за іх могуць без патрэбы прычапіцца.

Вясной 1940 года бальшавікі надзялілі зямлёй тых сялян, якія хацелі працаваць і гатовы былі плаціць за яе падаткі, як пры Польшчы. Аднак меркі ўжо былі далёка не тыя. Пры Польшчы падаткі на зямлю былі амаль смехатворныя. Захаваўся адзін польскі квіток на гаспадарку майго бацькі за 1939 год на падатак, які сведчыць, што з гаспадаркі плошчай зямлі 9,48 га трэба было заплаціць 8 злотых і 14 грошаў, а за абавязковую страхоўку будынкаў, ацэненых на суму 3330 злотых, гадавая аплата выносіла 14 злотых і 25 грошаў. І ўсяго разам плата складала 22 злотыя 39 грошаў. А цяпер параўнайма, што гэта выходзіла: адзін пуд жыта цаной 2 злотых - 11 пудоў. Відаць, пры заробку за дзень рабочага касца 2-2,5 злотых 11-9 дзён працы. Заплаціўшы ў час прызначаны падатак і страхоўку, селянін не ведаў ніякага польскага начальніка апрача солтыса і штогод з вясны паліцыянта, які, як я ўжо узгадваў, правяраў чысціню і парадак на сядзібе селяніна. Пры Польшчы ўсім гаспадарам прызначалася абавязковая некалькідзённая праца па добраўпарадкаванні дарог. Гэта засталося і з прыходам бальшавікоў. Толькі пры Польшчы гэтую павіннасць звалі "шараваркай", а пры бальшавіках "гужтруд". Відавочна, тыя дзве меліярацыйныя канавы, якія выкапалі пры выйсці на хутары, былі выкапаны за кошт шараваркі. Захавалася ў маёй памяці і ўпарадкаванне дарогі на Подушкі ў 1938 годзе. Пачаткова гэтая дарога была звычайнай палявой дарогай паміж вёскамі. Пры выйсці на хутары яна была значна пашырана да памераў устаноўленых стандартаў, але сяляне надалей засявалі па старых мерках. І вось, як закончыліся палявыя працы, усім сялянам на шараварку было загадана прыйсці на гэтую дарогу адным з рыдлёўкамі, а іншым з коньмі, запрэжанымі ў плугі і бароны. Прыбылі нейкія начальнікі, відаць, інжынеры ад пабудовы дарог, і адзін паліцыянт. Пасля таго, як былі выткнутыя лініі дарогі з поўдня, бо з левай роўным радам стаялі капцы дубовых слупоў. Ужо было высокага росту жыта, і гаспадарам прапаноўвалася тут жа яго скасіць без супраціву і скандалу, бо для гэтага і прывезлі паліцыянта. Потым мужчыны пачалі ўздоўж дарогі гараць і баранаваць пашыраную паласу. Людзей з рыдлёкамі раставілі па ўсёй даўжыні дарогі. Нам, дзецям, было вельмі цікава назіраць за гэтай працай. Дабаровіч Болюсь, які мей прыдомак "Магдулін", прыйшоў з рыдлёўкай і сабакам. Паліцыянт адразу выняў рэвальвер і застрэліў сабаку, а потым з ашыйніка зняў рэгістрацыйны жэтон. Сабакі ва ўсіх гаспадароў у абавязковым парадку павінны былі быць зарэгістраваны, на ашыйніку мець жэтон і быць на ўвязі ці ў адпаведнай загародзе. Катэгарычна забараняліся бадзячыя сабакі. Кожны паліцыянт быў абавязаны знішчаць бадзячых сабак, якія былі разносчыкамі шаленства. У 1905 годзе ва ўзросце каля сарака гадоў з шаленства ад сабакі памёр мой дзед. Застрэленага сабаку Дабаровіч тут жа на дарозе закапаў, а потым заплаціў кары 5 злотых. Гэта цяпер па вёсках і нават па горадзе Лідзе бадзяецца процьма безгаспадарчых сабак, якіх з кватэр выкідаюць іх былыя бяздушныя савецкага выхавання гаспадары.

Але вернемся ў Такарышкі. Польскі грашовы падатак сялянам замянілі натурай - трэба было здаваць рознага гатунку збожжа, а каб было куды яго ссыпаць, на чыгуначнай станцыі Юрацішкі пачалі будаваць два вялікія драўляныя збожжасховішчы, якія вельмі доўга служылі па сваім прызначэнні, выкарыстоўваліся пазней і акупантамі. За здадзеннае збожжа і сена бальшавікі плацілі мізэрныя грошы. На рынку гэтае збожжа каштавала значна даражэй, ды і колькасць прымусовай здачы збожжа майму бацьку ўжо была не пад сілу: не 11 пудоў, а ў тры разы больш. Сяляне, якія ўзялі панскую зямлю, прыраўняліся да серадлякоў, і плаціць трэба было больш высокія савецкія падаткі. Некаторыя пасля карыстання панскай зямлёй хацелі ад яе адмовіцца, бо выходзіла так, што селянін вымушаны быў больш працаваць на саветаў, чым на сваю зямлю. Але назад зямля не прымалася, таму пасля заканчэння Другой сусветнай вайны

сяляне, накормленныя зямлёй "першымі саветамі", не ўзялі ані гектара панскай зямлі. Так і валялася яна адлогам аж да арганізацыі калгасаў у 1949-50 гадах. Хто меў коней з сялян, то на "гужтруд" у 1940-1941 гадах мусілі ездзіць аж у Жэмыслаў на некалькі дзён і там вазіць каменне і жвір на распачатае будаўніцтва аэрадрома. Апрача ўжо узгаданых павіннасцяў, накінутых сялянам бальшавікамі, вялікай карай была добраахвотная падпіска на пазыку, аплачваная грашыма з беднага сялянскага бюджэту. Помню, як у 1940 годзе падчас жніва да нас прыйшлі падпісчыкі пазыкі. У гэты момант мы прывезлі ў гумно воз збожжа, а ззаду і падпісчыкі пазыкі як прычапіліся да маіх бацькоў, каб падпісаліся на вялікую суму, мусіць, на сто рублёў, дык аніяк не маглі ад іх адгаварыцца. Прымянялі яны не толькі ўгаворы, але і застрашванні кшталту кары за антысавецкую настроенасць. І гэты страх людзям бальшавікі ўжо ў значнай ступені змаглі нагнаць пастаянным тэрорам, бо пасля вывазу 10 лютага 1940 года некаторых жыхароў быў яшчэ і наступны вываз вясной і летам катэгорыі людзей, залічанных да ворагаў савецкай улады. І так маім бацькам давялося падпісацца на пазыку, якую акрэслілі падпісчыкі. Найбольшым зморам для сялян, акрамя іх бедных грашовых бюджэтаў, быў гандаль. Пасля таго, як 17 верасня 1939 года прыйшлі бальшавікі, польскія грошы перасталі хадзіць, і ніхто іх не мог вымяняць на савецкія. Разам з гэтым закрыліся і ўсе прыватныя магазіны. Наступіў поўны параліч гандлёвай сістэмы і фінансаў. Сяляне паміж сабой пачалі разлічвацца спосабам першабытных людзей - натурай. За эталон гандлёвага эквівалента быў абраны кошт аднаго пуда жыта. Гэтая сістэма разліку паміж людзьмі, створаная бальшавікамі ў 1939 годзе, трымалася даволі доўга і скончылася пасля Другой сусветнай вайны, калі трохі ўрэгулявалася савецкая грашовая сістэма. У Такарышках магазін працаваў у будынку былога панскага дома. Там пачаткова нічога не было для продажу, нават вучнёўскіх сшыткаў, алоўкаў. З часам пачало трохі з'яўляцца рознай нізкаякаснай дробязі. Напрыклад, завезлі з Расеі драўляныя лыжкі, распісаныя рознымі ўзорамі і пакрытыя лакам. З'явілася некалькі лыжак і ў нашам доме, але паспрабавалі імі карыстацца і кінулі, бо не адпавядалі нашай культуры. Смяяліся, што гэтыя лыжкі надаюцца толькі для бальшавікоў, бо ў іх шырокія азіяцкія горлы. Час ад часу ў магазіне можна было купіць без чаргі цукеркі "падушачкі", бо яны былі такой формы з некай начынкай у сярэдзіне. Прадавалася і кава ў выглядзе спрасаваных брускоў у ўпакоўцы. Складалася яна з нейкіх адходаў і падпражаных засалоджаных сухафруктаў. Мы, дзеці, куплялі гэтую каву і грызлі са смакам, як сёння гэта робім з шакаладам. Для нас тады гэта быў савецкі прысмак.

Некаторыя тавары пачалі прадавацца нармавана. Пагалоўна для ўсяго насельніцтва пачало бракаваць солі і газы, а калі прывезлі нейкую ёмкасць на газу і паставілі ў адным з адсекаў панскіх гаражоў, то газу прадавалі на дом адзін-два літры. Для гэтага каля бочкі вісеў спецыяльны чарпак ёмкасцю 1 літр, якім магазіншчык Ілюковіч па спісу прадаваў тавар. Сваім гандлем бальшавікі выклікалі ў насельніцтва пагалоўную непавагу да гэтага ладу, людзі паміж сабой пачалі называць іх смярдзюшнікамі, башлыкамі (ад шапак- будзёнавак у чырвонаармеёцаў, бо яны ў нейкай ступені нагадвалі башлыкі да сялянскай суконнай вопраткі з грубага валянага сукна з капюшонам, які таксама звалі башлык).

Час ляцеў міма ўсяго хутка. Бальшавікі пачалі распаўсюджваць па падпісцы сваю прэсу на беларускай, расейскай і польскай мове. Мой бацька падпісаўся на польскамоўнае выданне, якое называлася, калі не заводзіць мне памяць, "Чырвоны штандар". Гэтую газету чытаў і я, паміма таго, што скончыў толькі адзін клас польскай школы. У нашым доме ў бацькоў мелася трохі рэлігійных каталіцкіх выданняў, такіх, як "Rzycerz Niepokalanej" (“Рыцар беззаганнай”), сельскагаспадарчы часопіс "Plon" (“Ураджай”). Акрамя таго, стрыечныя сёстры Вандзя і Лёдзя Альшэўскія, калі пачалі вучыцца ў Гародні ў гімназіі, перадалі мне ўсю сваю дзіцячую літаратуру і нават пару кніг з Валожынскай публічнай бібліятэкі. Гэтыя кнігі захаваліся ў мяне як каштоўныя гістарычныя памяткі мінулага часу. У вольныя часіны я любіў дастаць календары "Рыцара беззаганнай" 1931 года выдання, маіх равеснікаў, і пачытаць цікавыя звесткі не толькі рэлігійнага зместу, але і пра іншыя падзеі, якія адбываліся ў СССР. Бацька мой гэтыя выданні трохі прыхоўваў, каб не трапілі на выпадак рэвізіі НКВД-ыстаў. Увогуле за паўтара года бальшавіцкага гаспадарання людзі ўжо былі імі змучаны амаль пагалоўна, апрача тых, хто аказаўся на савецкай службе і меў ад саветаў нейкую карысць. Напрыклад, Юзя (Іосіф) Сарокаў, якога выкінулі з Францыі, з Парыжа, за камуністычную настальгію, расчараваўся ў бальшавіках. Многа пазней, недзе пасля 1960 года, мне давялося разам з ім ісці з Такарышак аж да Юрацішак. Ён мне без страху перад саветамі расказваў, як далёка наша жыццё ад французскага, якое яму давялося пабачыць яшчэ задоўга да вайны.

Ва ўзброеных сілах Савецкай Арміі значную цяглавую сілу займалі коні, але былі не найлепшай кандыцыі. Таму пасля захопу польскай тэрыторыі інтэндантскія службы пачалі скупляць добрых коней, пачынаючы аж з-пад Беластока, а, магчыма, забіраць іх з польскіх конезаводаў ці з маёнткаў і табунамі прыганяць на савецкую тэрыторыю. На ноч, дзе яны затрымліваліся, у мясцовага насельніцтва скуплялі для коней сена, канюшыну і авёс. За зіму 1939-1940 года два разы прайшлі такія табуны праз Такарышкі. Начавалі ў будынках маёнтка, а кармы закуплялі па бліжэйшых хутарах, а дакладна ў майго бацькі, куды мог скіраваць старшыня сельсавета, бо найлепей ведаў, хто можа мець лішкі кармоў. Таму пры звароце камандзіра перагоншчыка коней, якія былі ў вайсковым абмундзіраванні, ахвотна прадаў ім канюшыну і авёс. Пасля разліку за кармы камандзір з ад'ютантам ахвотна згадзіліся на вячэру ў нас. Бацька знайшоў недзе пару чарак барышу за пакупку, бо плацілі нядрэнна, і вячэра прайшла добра. Праз кароткі час гэты самы камандзір гнаў ужо наступны табун коней і зноў заначаваў у Такарышках, а для пакупкі кармоў прыехаў да майго бацькі, як да добрага знаёмага.

*(Працяг магчымы.)*

# Памяці Тадэвуша Чарнавуса

У суботу, 5 лістапада 2022 года перастала біцца сэрца журналіста "Лідскай газеты", сябра літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты" Тадэвуша Чарнавуса.

Так, зменшыліся шэрагі ў журналісцкім і літаратурным асяроддзі... Не стала сярод нас Чалавека яркага, адкрытага, смелага. У прынцыпе, такія і павінны быць журналісты. Меў Тадэвуш Вацлававіч і густ у паэзіі. Яго творы друкаваліся ў шматлікіх выданнях. Ён быў на адной назе з тымі, хто ведаў сэнс выказвання "людзьмі звацца". Ён быў шчырым патрыётам сваёй Радзімы... Ужо на пенсіі, у сваёй роднай "Лідскай газеце" ў якасці пазаштатнага аўтара ён вёў рубрыку "Матчына мова: гаворым па-беларуску". Эпіграфам да яе былі, напісаныя ім, такія радкі:

*"Кажуць, мова мая знікае...*
*Вось адзін яшчэ толькі міг.*
*А па-мойму тут справа такая:*
*Усё залежыць ад нас саміх... ".*

Для аўтара гэтых радкоў ён таксама пакінуў важкі след у творчай дзейнасці і ў біяграфіі. Менавіта Тадэвуш Чарнавус быў першым, хто працягнуў мне руку з раённага перыядычнага выдання, даваў парады, вычытваў мае першыя нататкі. Было гэта ўжо ў далёкім 1998 годзе. З тых пор я не пакідаю сувязі з "Лідскай газетай". Тадэвуш Чарнавус пастаянна наведваўся ў Дом Валянціна Таўлая, прымаў удзел і ў пасяджэннях "Суквецця"... Але ж так і не выдаў свайго зборніка. У першую чаргу ён хацеў пабачыць мой зборнік, нават прапаноўваў свайго знаёмага выдаўца і выдавецтва... Пісаць можна доўга...

У літаратурна-мастацкім зборніку "Ад лідскіх муроў" № 9 (2016-2019) былі змешчаны яго вершы. Для знаёмства з чытачом ён напісаў пра сябе наступнае:

**"ЗНОЎКУ Я СПАЦЬ НЕ ЛЯГУ…**
**(Радкі з аўтабіяграфіі)**

Ізноўку я спаць не лягу,
*Пакуль не ўтаймую смагу.*
*А смага мая такая:*
*Прагну ўвесь час радка я,*
*Прагну, нібы жанчыны, -*
*Дык, можа, не без прычыны?..*

*Гэты невялічкі вершык нарадзіўся ў мяне яшчэ ў далёкім юнацтве, а пытанне: "Дык, можа, не без прычыны?.." - хвалюе па сённяшні дзень. Па сутнасці, ужо тады - у гэтым шасцірадкоўі - я пачаў шукаць сваё месца ў паэзіі, засумняваўшыся ў сваіх паэтычных здольнасцях. І шукаю і сумняваюся аж да гэтага часу.*

*Я ніколі не пісаў вершаў, седзячы за сталом, не вымучваў з сябе радок за радком. Лірычная ўзнёсласць і натхненне суправаджалі і суправаджаюць мяне заўсёды і ўсюды: дома, у дарозе, у час працы ў агародзе, на бацькоўскім падворку, калі кашу траву ці сяку дровы… І хаця заўсёды, як той крот, глыбока імкнуўся ўзорваць паэтычную глебу, засейваць яе толькі ўласным насеннем, усведамляю, што я не стаў класікам беларускай літаратуры і наўрад ці стану ім калі-небудзь. Але ўпэўнены, што і графаманам не быў ніколі. Зрэшты, аб гэтым меркаваць ужо не мне, а маім дарагім чытачам. На вялікі жаль, іх вельмі мала, бо паэзія да гэтага часу так і не стала масавай з'явай, як, скажам, эстрада ці шоў-бізнэс. Як мала і тых (што вельмі прыкра), хто выкарыстоўвае матчыну мову ў паўсядзённым жыцці. Гэтая аказія, як той чарвяк, даўно свідруе маё сэрца наскрозь і будзе свідраваць, напэўна, да самай смерці.*



*Калі больш падрабязна, то нарадзіўся я ў 1954 годзе на Лідчыне - у вёсцы Рылаўцы. Бацькоўскі лясны хутарок туліцца між дзвюх рэчак - Крупкі і яе матулькі Дзітвы. Апошняя, што вельмі важна, працякае амаль ля самага падворка, і менавіта яе срэбраводныя хвалі заўсёды спрыялі майму паэтычнаму натхненню. І спрыяюць па сённяшні дзень, хаця меліяратары ў свой час бязбожна зруйнавалі маю родную Дзітвульку, якая ўжо даўно ператварылася ў старое і зара-стаючае русла.*

*Навучаўся я ў Яўсеевіцкай васьмігадовай школцы, скончыў таксама Лідскі індустрыяльны тэхнікум, падчас службы ў арміі - завочную школу ваенных карэспандэнтаў. Завяршыў адукацыю на факультэце журналістыкі БДУ імя Леніна. Працоўны творчы шлях пачынаў у навагрудскай раённай газеце "Новае жыццё", але найбольш - амаль тры дзесяцігоддзі - шчыраваў у роднай мне назаўсёды "Лідскай газеце".*

*Журналістыка ніколі не была для мяне мачахай, але і з паэзіяй не развітваўся ніколі. Мо таму яны і перапляліся ў маёй творчасці, нібы родныя сёстры, а многія вершаваныя творы набылі рэпартажны характар. Добра гэта ці не надта, не ведаю, але як сталася,*

*так сталася. Назад ужо, як кажуць, "ніц" не вернеш.*

*На жаль, асобнага свайго зборніка пакуль што не маю, але мару і часта ўяўляю, што трымаю яго ў руках. Праўда, гэта адбываецца пакуль хіба што ў сне. Але калі Бог паспрыяе, то абавязкова выдам яго пад назвай, як і ў гэтай нізкі вершаў: "Каб любіць Беларусь нашу мілую…". Тэма Радзімы, не толькі малой, але і ўсёй бясконца дарагой мне сінявокай, васільковай, ільнянай Беларусі, заўсёды жыла і будзе жыць у маім сэрцы да скону дзён.*

*Зрэшты, грэх скардзіцца, што мой паэтычны шлях да чытача быў абмежаваны. Мае вершаваныя творы гучалі па рэспубліканскім радыё, друкаваліся ў газеце "Літаратура і Мастацтва", іншых рэспубліканскіх сродках масавай інфармацыі ды літаратурных часопісах. Але калі яны захаваліся хіба толькі ў архівах саміх рэдакцый, то агульныя паэтычныя зборнікі, у якіх я са сваімі вершамі разам з іншымі паэтамі стукаўся да чытацкіх сэрцаў, можна і сёння знайсці ў бібліятэках. А іх шэсць: "Вёсны" (1976 г.) і "Квадра" (1982 г.) - выдавецтва Белдзяржуніверсітэта, "Краю, мой Нёман" (1986 г., прадмова Васіля Быкава, укладальнік - Данута Бічэль-Загнетава, рэдактар - Юрка Голуб, дзяржаўнае выдавецтва "Мастацкая літаратура"), "Шануйце роднае слова" (2008 г.), "Мой любы горад Ліда" (таксама 2008 г.), "Мой горад - гонар мой" (2013 г.). Апошнія тры надрукаваны ў Лідскай друкарні.*

*Каб любіць Беларусь нашу мілую,*
*Трэба ў розных краях пабываць.*
*Разумееш тады, чаму з выраю*
*Жураўлі на Палессе ляцяць…*

*Словы вядомай песні на вершы Алеся Ставера, якая калісьці так прыгожа гучала ў выкананні вядомага беларускага спевака Віктара Вуячыча. Але, правёўшы некалькі гадоў за межамі Бацькаўшчыны, я перайначыў другі радок з гэтага куплета і напісаў свой верш. Тым самым я хацеў выказаць погляд на любоў да Радзімы з пункту гледжання сённяшняга дня. Асабліва пасля таго, як з сусветнай карты знік Савецкі Саюз і ўсе краіны СНД аказаліся на раздарожжы, а наша родная Беларусь нарэшце набыла самастойнасць.*

*Каб любіць Беларусь нашу мілую,*
*Можна ў розных краях не бываць,*
*Пра яе, як матулю чуллівую,*
*Можна песні і дома складаць.*
*Пра палеткі яе вераснёвыя,*
*Ля дарог дзе цвітуць васількі,*
*Дзе рамонкі - дзяўчаты вясковыя,*
*Што вядуць карагод ля ракі.*
*Дзе бярозы - красуні зайздросныя, -*
*Так і хочацца ў прымы пайсці,*
*Дзе пахучыя ранкі і росныя,*
*Хоць зімою атаву касі.*
*Дзе клякочуць натхнёна, бы моляцца,*
*Сімвал нашай Айчыны - буслы,*



*Дзе ў Белае Вежы ваколіцах*
*Здабылі сваё месца зубры.*
*Не ў сытай Еўропе, Амерыцы,*
*Дзе мераюць шчасце грашмі,*
*А ў нас - Беларусі - бо вераць нам,*
*Бо заўсёды былі мы людзьмі.*
*Выйду ў поле ляноў сінявокае,*
*Акрыяю душой на ляту,*
*З фарбаў родных, як неба шырокае,*
*Я вяночак каханай спляту.*
*Птушкай лёгкай ўзлячу ў паднябессе я,*
*Агляджу і прасторы, і край,*
*І ніякім вятрыскам-кудзеснікам*
*Не зманіць мяне ў казачны рай.*
*А як зб'юся з дарогі няроўнае,*
*З туманамі ў вырай зляту,*
*Я дарогу дадому нялёгкую,*
*Як і птушкі, па зорках знайду.*
*Наталюся я роднаю моваю -*
*Беларускай, якую люблю,*
*І, заместа гарэлкі вясковае,*
*Я з крынічкі гаючай пап'ю.*
*Ты даруй мне, матуля шаноўная,*
*За мае і чужыя грахі,*
*Што збіваўся з дарогі няроўнае*
*І рабіў мо не тыя кругі.*
*…Долар сёння ў вялікай пашане,*
*Толькі роднага ў ім не знайду,*
*А за Белую Русь - буду ў храме я -*
*Беларускі рубель пакладу!"*

На жалобнай імшы ў Лідскім фарным касцёле 9 лістапада прысутнічалі родныя, сябры, супрацоўнікі рэдакцыі "Лідскай газеты", лідскія пісьменнікі.

Пахавалі Тадэвуша Чарнавуса на лідскіх могілках "Зосіна".

Бывай, мой зямляк і настаўнік...

***Алесь Хітрун.***

# Памёр знакаміты лідзянін, стваральнік кінахітоў Раман Залускі

Раман Залускі памёр 29 лістапада 2022 года ў Варшаве. Інфармацыю пра смерць рэжысёра і сцэнарыста паведаміла 6 снежня Таварыства польсіх кінематаграфістаў, шмтгадовым сябрам якога быў. 10 снежня адзначыў бы свае 86 гадоў.



Залускі нарадзіўся ў 1936 годзе ў Лідзе. У 1954 годзе закончыў VI агульнаадукацыйны ліцэй імя Тадэвуша Рэйтана ў Варшаве. У 1958 годзе закончыў рэжысёрскі факультэта Дзяржаўнай вышэйшай школы кінематаграфіі ў Лодзі. Пасля заканчэння вярнуўся ў Варшаву.

Дэбютаваў у 1970-х гадах. Папулярнасць яму прынеслі камедыі з часоў ПНР "Аварыйны выхад", "Ох, Караль", "Гогаль - могаль" і "Галімацця або Гогаль - могаль 2", "Сямейная камедыя". Быў стваральнікам псіхалагічных драм "Сакрэт" і "Кардыяграма".

У яго фільмах, сярод якіх былі таксама меладрамы і пранікнёныя псіхалагічныя карціны, мы маглі бачыць у пасцельных сцэнах найпапулярнейшых польскіх акторак, у т.л., Анну Сэнюк, Барбару Брыльскую ці Еву Каспшык.

Рэжысёрскім дэбютам Залускага быў зняты ў 1971 годзе фільм "Зараза" (“Эпідэмія”) паводле падзеяў эпідэміі чорнай воспы, карціна перажыванняў жыхароў Уроцлава і работнікаў мясцовай службы аховы здароўя. У галоўнай ролі доктара Равіча мы ўбачылі Тадэвуша Бароўскага.

У тым самым годзе Залускі зняў фільм "Кардыяграма", які з'яўляецца працягам прыгод доктара Равіча (у гэтай ролі зноў Тэдэвуш Бароўскі). У гэты раз герой Залускага працуе ў малым мястэчку ўсходняй Польшчы, дзе сустракаецца са складанымі людскімі лёсамі. Не перашкаджае яму гэта аднак у завязванні раману з жонкай цяжка хворага дырэктара школы (Анна Сэнюк).

У чарговай карціне Залускага "Анатомія кахання" (1972) - незвычайна смелыя эратычныя сцэны іgraлі Ян Навіцкі і Барбара Брыльская. *"Пані Брыльская так пераканаўча сыграла пэўную з'едлівасць і невыносную рэўнасць гераіні, што няцяжка зразумець, чаму кінуў яе каханы"*, - пісаў пасля прэм'еры адзін з рэцэнзентаў.

Анна Сэнюк, як і Барбара Брыльская выступіла ў таксама ў чарговым фільме Залускага - звычаёвай карціне "Гадзіна за гадзінай" (1974), якая распавядае пра прафесійныя і асабістыя канфлікты работніка транспартнай фірмы (Аляксандр Іванец). Адну з яго былых дзяўчын сыграла "польска Брыджыт Бардо" - Ірэна Карэль.

У сваёй чарговай псіхалагічнай карціне - "Прытулку" (1978) - Залускі распавёў пра былога жаўнера АК, які асеў у аддаленай леснічоўцы на Мазурах з надзеяй знайсці спакой і забыць балючае мінулае. Галоўнага героя сыграў Марэк Францкавяк. У яго вялікае каханне ўсяліла Ева Ляманская.

У 1985 годзе Залускі зняў найпапулярнейшы фільм у сваёй кар'еры "Ох, Караль", эратычную камедыю пра прыгоды кахання архітэктара Караля.

- Я быў поўны прызнання да рэжысёра Рамана Залускага, які стварыў знакамітую рэч. Сыгралі ў ім найпрыгажэйшыя, найбольш жаданыя полькі тых часоў. Ствараючы вобраз Караля Горскага мы ад пачатку ведалі, што не будзе гэта тыповы Дон Жуан. Гэта меў быць нехта, хто не можа адмовіць жанчыне. Я не меў ніякіх сумненняў, - успамінаў выканавец загалоўнай ролі Ян Пяхоцінскі.

У іншым клімаце быў вытрымана чарговы фільм Залускага - тэлевізійны "Голад сэрца" (1986). Была гэта камерная студыя двух пажылых і самотных людзей, якім, нягледзячы на балючы досвед у мінулым, давялося нанава стаяць перад шанцам арганізацыі для сябе пачуццёвага жыцця. Ежы Зэльнік сыграў самотнага архітэктара, Ева Каспшык увасобілася ў вобраз адзінокай маці, якая выхоўвае сына.

Вянцом рэжысёрскай кар'еры Залускага быў "Гогаль-могаль" з галоўнай роляй Здзіслава Вардэйна, партнёркай якому на экране былі Гражына Блэнцкая Кольская і Ева Каспшык. Праз год тройка вярнулася ў "Галімацці ці Гогаль-могаль II"

Апошнім фільмам, які рэжысаваў Залускі была "Сямейная камедыя" (1994).

Быў узнагароджаны Камітэтам па радыё і тэлебачанні за радыё- і тэлетворчасць за 1970 год. Быў шэсць разоў намінаваны на Залатога льва.

***Паводле СМІ.***

***Віктар Кудла***

# ДРОЗДАВА

## *Віткі жыцця родзічаў*

**МОЙ РОДНЫ КРАЙ ЯК ТЫ МНЕ МІЛЫ, ЗАБЫЦЬ ЦЯБЕ НЕ МАЮ СІЛЫ**

Мой аповед пра жыццё-быццё нашых продкаў, гістарычнасць малой радзімы - гэта праўдзівая гісторыя. Для яе напісання выкарыстаны звесткі як з архіўных дакументаў, так і нататкі краязнаўцаў, статыстычныя факты, успаміны родзічаў, храналагічныя фатакартачкі… Спадзяюся, гэта будзе цікава і зразумела ўсёй радні, сваякам і чытачам. Гэтая гісторыя - павінна падахвочваць маладых да павагі сваіх дзядоў і прадзедаў, гонару за іх, да ведаў "якога яны роду-племені". Спадзяюся, гэты сямейны летапіс нехта зможа працягнуць па спадчыне…

***Крышку гісторыі маёй малой Радзімы, нацыянальнай прыналежнасці лідзян. Гістарычная схема засялення Лідчыны з архіўных звестак такая:***

Балты, якія пасяляліся даўно на нашай тэрыторыі, у сёмым ці то ў восьмым стагоддзі былі адціснуты на поўнач за Дзітвянскія і Дакудаўскія балоты, і ўздоўж Нёмана рассяліліся славяне. Як такой мяжа не была жорсткай, і гадамі адбывалася перамешванне балтаў са славянамі. Так ўтварылася новая народная супольнасць - ліцвіны. У 13 стагоддзі пасля выгнання з Прусіі, ў верхнім цячэнні Дзітвы і ў ніжнім цячэнні Лебяды былі паселены прусы - "барцякі".

У 1322 годзе князь Гедымін з паходу на Валынь і Кіеў прывёў русічаў, якія дапамагалі будаваць Лідскі замак. З ханам Тахтамышам з Залатой Арды ў 1396 годзе прыйшлі татары. З іхнім рассяленнем вёскі назваліся як Татарцы, Шайбакі, Іўе... У другой палове 16 стагоддзя ў Лідзе пасяліліся яўрэі, якія прыйшлі з Заходняй Еўропы, у асноўным з Германіі.

Наступны этап фарміравання этнічнага складу насельніцтва Беларусі быў звязаны з узнікненнем і існаваннем Вялікага Княства Літоўскага. Гістарычны лёс звёў усе засяленыя народы ў адзіную дзяржаву.

Былі праведзены адміністратыўна-тэрытарыяльныя і аграрна-гаспадарчая рэформы, і ўніфікацыя дзяржаўных юрыдычных норм праз складанне Статутаў Вялікага Княства Літоўскага - асноўных прававых дакументаў, якія мелі перавагу над лакальнымі юрыдычнымі нормамі.

Дамінантнае дэмаграфічнае становішча беларусаў у межах дзяржавы і высокі ўзровень развіцця іх культуры вызначылі поліэтнічны характар пашырэння іх мовы. Старабеларуская мова (тады яна называлася- "руськая") стала ў той час афіцыйнай дзяржаўнай мовай ВКЛ.

Большасць усходне-славянскага насельніцтва ВКЛ да 16 ст. трымалася праваслаўя, прынятага ім у 10 -ым стагоддзі. А пасля дынастычнага саюза Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага (1385) на землях Літвы і Беларусі пачало распаўсюджвацца каталіцтва, а з 1596, пасля Берасцейскай уніі - уніяцтва.

Уніяцтва азначала для праваслаўнага насельніцтва ломку традыцыйных поглядаў, а ва ўмовах папярэдняй адноснай свабоды веравызнання, з'яўлялася яшчэ своеасаблівым замахам на традыцыйны лад жыцця. Унія выклікала ў большасці праваслаўных незадаволенасць і пратэст, што выявілася ў сялянска-казацкіх выступленнях, гарадскіх паўстаннях. Актыўна праводзілася таксама палітыка акаталічвання і апалячвання беларусаў.

Кампактны арэал існавання назвы ***ліцвіны*** быў звязаны з тапонімам Літва, які бытаваў у раёнах Вілейкі, Смаргоні, Ашмян, Крэва, Ліды і інш. (т. зв. *Павілейская Літва*). Гэтыя землі былі поліэтнічнымі і мелі ў сваім складзе ўсходне-славянскае і балцкае насельніцтва (называліся *"ліцвіны рускага роду"*, *"ліцвіны-беларусцы"*, *"літоўскія беларусы"*).

У 16-м стагодзі ў Вялікім Княстве Літоўскім былі праведзены аграрныя рэформы. Валочная памера змяніла гаспадарча-эканамічную арганізацыю сялянства, якое пачало складацца з трох асноўных катэгорый: сяляне-слугі, асадныя сяляне і цяглыя сяляне. Вакольныя землі належалі нашчадку Радзівіла, пасля падскарбію Юзафу Салагубу і Паўлу Ленскаму. Сяляне адбывалі паншчыну.

Абавязкова праца на пана (дарэчы, бясплатная) уключала шматлікія павіннасці: паншчыну, ці адработкі, або натуральную рэнту са збажыны, чынш - грашовы аброк. Паншчына не мела сезонаў, яе адбывалі круглы год і зімой, і летам. Гарбаціцца на пана даводзілася і мужчынам, і жанчынам. На панскае поле селянін павінен быў выходзіць са сваёй рабочай жывёлай.

Беларусы - вялікія міралюбы, якія дзеля спакою ахвяравалі многім. Калі ж у ліхую гадзіну чужынец кваліўся на нашу зямлю, яны абаранялі Радзіму храбра і ўпарта, не шкадуючы нават свайго жыцця. Беларусы былі добрымі змагарамі, на жаль войны прыносілі нашым продкам вельмі шмат шкоды і пакут.

Адметнасць характару беларуса яшчэ і ў тым, што, і перамогшы ворага, ён не заставаўся на чужой зямлі, а стараўся вяртацца да сваіх родных хацін, да

сваіх людзей, хоць і небагатых, але шчырых сэрцам, нескупых на добрае слова, дапамогу і спагадлівасць. Аднак развіццё краю ішло вельмі павольна

Войны, голад, эпідэміі вынішчалі беларусаў. Ад гэтага яны рабіліся асцярожнымі, маўклівымі.

Ішлі стагоддзі. Мяняўся час, мяняліся людзі. Жыццё станавілася іншым. Але многія якасці беларуса, яго адметныя этнічныя рысы, адшліфаваныя стагоддзямі, захаваліся і часткова дайшлі да нашых дзён.

Я знайшоў у архіве інвентар маёнтка Рэклішкі Лідскага павета, у якім досыць падрабязна пададзены жудасці знясільвальнай работы на пана:

*"На працу сяляне абавязаны выходзіць і станавіцца з узыходам сонца, а пакідаць работу хутка пасля заходу сонца. Працу павінен заказваць войт ці ўраднік. Хто б пасля заказу не выйшаў на працу, то за такую непаслухмянасць павінен адпрацаваць за адзін дзень два дні, не пакідючы тэрыторыі панскага двара, а за другі дзень - чатыры дні, таксама знаходзячыся пры двары. Калі хто-небудзь не выйшаў на працу ўсе тры дні ці на працягу шасці тыдняў па разу на тыдзень, асабліва летам, то за гэты тыдзень павінен працаваць у двары у ланцугах. Пасля гэтага такі чалавек ураднiку павінен быў даць барана. Калі б і пасля гэтага ў яго здарыліся нявыхады на працу, тады бічаванне ля слупа".*

Існавалі і "нормы" паншчыны, якія залежалі ад таго, колькі селянін меў зямлі. Сялянская гаспадарка, як правіла, налічвала каля паўвалокі - крыху больш за 10 гектараў. У аднаго з Радзівілаў, у маёнтку Карэлічы Навагрудскага ваяводства ў 1672 годзе сяляне павінны адбываць паншчыну чатыры дні з валокі, а пяты дзень гнулі спіны з дыма на тыдзень. Бывала, што панская сквапнасць пераўзыходзіла разумныя памеры: у таго ж Радзівіла ў маёнтку Блювеніцы Лідскага павета яна была ўстаноўлена спачатку ў 16 дзён на тыдзень з валокі, а потым дасягнула 24 (!) дзён.



***Беларускія сяляне на панскай сядзібе***

Але паншчына была не адзіным ярмом на сялянскай шыі. Былі і іншыя адработачныя павіннасці: старожа-праца ў панскім двары, шарваркі - будаўніцтва дарог і мастоў і г. д.

Душылі селяніна і чыншавымі падаткамі, селянін аж стагнаў пад цяжарам грашовых пабораў.

Існавалі і такія падаткі, як жарнавое (за права мецць свае жорны), угайнае, ялавічнае, вепраўшчызна (за карыстанне ляснымі ўгоддзямі), чапавое (за выраб алкагольных напіткаў), куніца (за выдачу дачкі замуж у другую воласць), рагавое, акладнае, быкавое, тміннае, рыбнае, падымнае…

Усё вышэйсказанае дае падставы меркаваць, што сялянскія паўстанні з'яўляліся натуральным пратэстам людзей, даведзеных да адчаю сваім рабскім становішчам.

Так ў 1717 годзе супраць жорсткага феадальнага прыгнёту выступілі сяляне манастыра каталіцкага ордэна ў Гарадзенскім павеце.

З 1748 па 1785 год адбываліся сялянскія бунты ў вёсках Кракотка, Лапухова і Шляпацкі Слонімскага староства.

На 1775-1777 гады прыходзіцца выступленне сялян Ялаўскага сгароства Ваўкавыскага павета…

Падзелы Рэчы Паспалітай пачаліся ужо з часоў Пятра I . Расейскія войскі вельмі часта без усялякага дазволу ўрываліся на нашы землі і рыхтаваліся да захопу Беларусі.

У Рэчы Паспалітай узнікалі групоўкі прарасейскай, прашведскай, пранямецкай, прааўстрыйскай арыентацыі.

У 1764 годзе каралём Рэчы Паспалітай па пратэкцыі Кацярыны II быў абраны Станіслаў Аўгуст Панятоўскі гербу “Цяля”. Наступіла пара канфедэрацый шляхты, якія незалежна ад скіраванасці падрывалі цэнтральную ўладу.

У 1772 годзе тры краіны - Расея, Аўстрыя і Прусія - дамовіліся паміж сабой падзяліць Рэч Паспалітую. Кожная з гэтых дзяржаў адарвала сабе частку чужой зямлі.

Расея захапіла ўсходнюю Беларусь з гарадамі Віцебскам, Магілёвам, Воршай, Мсціславам, Гомелем... Новая мяжа, якая праходзіла па Дзвіне, разрэзала на дзве часткі Полацк. Сафійскі сабор апынуўся ў Расейскай імперыі, а старажытны Бельчыцкі манастыр, дзе некалі жылі полацкія князі, застаўся ў Рэчы Паспалітай.




Разделы Речи Посполитой (1772–1795 гг.)

***Падзелы Рэчы Паспалітай***

Лепшыя людзі Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы спрабавалі выратаваць сваю дзяржаву ад гібелі. Тут было створана першае ў свеце міністэрства народнай асветы - Адукацыйная камісія, што адчыняла школы і вучэльні. Сойм зацвердзіў першую ў Еўропе Канстытуцыю - асноўны Закон краіны. Канстытуцыя забараняла магнацкія ўсобіцы і ўмацоўвала ў краіне парадак. Але час быў страчаны.

.

У 1793 годзе Расея захапіла цэнтральную Беларусь разам з Менскам, а яшчэ праз два гады - астатнія землі былога Вялікага Княства Літоўскага.

Так здзейснілася даўняя мара маскоўскіх уладароў. Наша Бацькаўшчына згубіла сваю самастойнасць і надоўга трапіла ў няволю.

Наступіла стагоддзе вызвольных паўстанняў, у якім наш край праявіў велізарны гераізм, але ў эканамічным плане прыйшоў у поўны заняпад.

Адным з першых у гэтай барацьбе было паўстанне пад кіраўніцтвам беларуса Тадэвуша Касцюшкі.

Збройнае змаганне за свабоду пачалося ў сакавіку 1794 года. Змагары хацелі выгнаць захопнікаў са сваёй зямлі і аднавіць незалежную Рэч Паспалітую ў яе ранейшых межах. Разам з касцюшкаўцамі-жаўнерамі біліся з царскімі войскамі ўзброеныя косамі беларускія сяляне. Іх называлі касінерамі.

Паўстанцы спявалі "Песню беларускіх жаўнераў":

*Помнім добра, што рабілі,*
*як нас дзёрлі, як нас білі.*
*Докуль будзем так маўчаці?*
*Годзе нам сядзець у хаце!*

*Нашто землю нам забралі?*
*Пашто ў путы закавалі?*
*Дочкі, жонкі нам гвалцілі.*
*Трэ, каб мы ім заплацілі!..*

Да паўстанцаў перайшла ўлада ў Гародні, Берасці, Наваградку, Слоніме, Пінску, Ваўкавыску, Браславе, Лідзе, Ашмяне ды іншых беларускіх гарадах і мястэчках. У сярэдзіне траўня былі вызваленыя ўжо амаль усе землі Вялікага Княства. Аднак Расея кінула на інсургентаў ВКЛ 30-тысячную рэгулярную армію. Выкарыстаўшы на-пад, царскія ўлады разгарнулі сярод сялянства прапаганду, абяцаючы яму аддаць забраную ў "паноў-бунтаўнікоў" зямлю.

Параза паўстання прывяла ў 1795 г. да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. Расея захапіла землі Літвы-Беларусі - 120 тысяч квадратных кіламетраў з 1,2 мільёна жыхароў. Прусія і Аўстрыя далучылі да сваіх уладанняў рэшту тэрыторыі Польшчы і суседнія землі Заходняй Украіны.

На захопленых землях царскія ўлады пачалі ўводзіць свае парадкі. Імператрыца Кацярына II раздала мільён беларускіх сялян сваім расейскім памешчыкам. Прыгнёт ад Расейскай імперыі быў цяжкі. Раней прыгонныя сяляне разлічваліся са сваімі гаспадарамі грашыма, цяпер жа мусілі ледзь не кожны дзень ад відна да



відна працаваць на панскім полі.

Падаткі для беларускіх сялян сталі ў некалькі разоў цяжэйшымі, чым для расейскіх. Маладых здаровых мужчынаў пад прымусам забіралі ў царскую армію. Родныя развітваліся з імі так, як быццам праводзілі на той свет, бо салдаты павінны былі служыць цару ўсё жыццё. Потым гэты тэрмін зменшылі да дваццаці пяці гадоў, але пасля такой доўгай службы ўсяроўна амаль ніхто не вяртаўся дадому жывы.

Царскія ўлады не прызнавалі беларусаў за народ і змагаліся з нашай мовай. Вучыцца на ёй было забаронена. Нашых продкаў пазбаўлялі права на свае імёны і прозвішчы. Адразу пасля захопу ўсходніх беларускіх земляў царскія пісарчукі перарабілі большасць прозвішчаў: *Міхасёў* у *"Михайлов"*, *Язэпаў* - у "*Иосифов"*, а *Тамашоў* - у *"Фомин"*, *Жукі* ператварыліся ў *"Жуковых"*, *Кавалі* - у *"Ковалевых"* і г.д....

Трапіла пад забарону не толькі беларуская мова, але і сама назва Беларусь.

У афіцыйных выданнях і дзяржаўных дакументах пачаў ужывацца казённы тэрмін "Паўночна-Заходні край Расеі", а беларусаў пачалі называць заходнерусамі. Адначасова пачалося афармленне т. зв. тэорыі заходнерусізму, паводле якой беларусы лічыліся не самастойным этнасам, а адгалінаваннем рускага народа.

Этнаграфічныя асаблівасці, якія адрознівалі беларусаў ад рускіх, тлумачыліся ўплывам паланізму і каталіцызму і падлягалі знішчэнню для аднаўлення нібыта *"спрадвечна рускага характару краю"*.

Нягледзячы на ўзмацненне русіфікацыі, культурнае жыццё Беларусі па-ранейшаму грунтавалася на фальклоры і традыцыях побыту карэннага насельніцтва ды памяці пра гістарычнае мінулае Беларусі.

Беларусы не хацелі змірыцца з расейскім панаваннем, і нашы вольналюбныя продкі браліся за зброю, каб вырвацца са смяротных абдымкаў царскай імперыі.



Пасля паўстання 1831 года царская ўлада забараніла і народную ўніяцкую веру. Тыя самыя беларусы, якія 200 гадоў назад выступалі супраць уніі, цяпер падняліся ў яе абарону. Але сілы былі не роўныя. Уніяцкія цэрквы перараблялiся на расейскія праваслаўныя. Тых, хто не хацеў ісці да праваслаўных царскіх папоў, усяляк каралі і часам збівалі да смерці.

Гэта наша гістарычная спадчына, наша нацыянальная крыўда.

Даўно было, мо паўтысячы год таму, а мо яшчэ болей, як пачалі жыць на нашай зямлі, размнажацца і ў славу расці ўдалыя прашчуры нашы - Кудлы, Гросы, Міцюкевічы, Белавусы, Грэбені, Латушкі, Хрышчановічы, Германовічы, Кур'яны, Буйніцкія...

Мой бацька Ваня 1908 года нараджэння, прайшоўшы этап жыцця ў бежанцах з бацькамі ў Расеі з1915 па1920 год, трактоўна распавядаў нам пра радавое дрэва Кудлаў: Сымона - ці то Стася, Васіля, Андрэя, Зыдара… Ад расказаў свайго бацькі - Івана Ізыдаравіча - ён многа нам расказаў аб жыцці-быцці даўніх продкаў, іхняй фаміліі, пра вясковае жыццё, сялянскаю працу… Гэта мы запісалі на магнітафон і нарысавалі радавое дрэва.

Пад гэтым уражаннем, непаўторныя думкі і пачуцці перажываю ўжо некалькі гадоў: перад вачыма не проста лісты паперы, а жыццё родзічаў… Як хутка яно зыходзіць, імгненне і ўсё… За ім другое жыццё, працяг роду ў дзецях, затым - у іх дзецях, і так далей… Людзей не стае, а што застаецца? Памяць… Заўсёды стараемся наведаць на Радуніцу і Пакровы магілкі пахаваных родных, асвечваем і молімся.

**Першыя звесткі аб роднай вёсачцы Дроздава, якія мне ўдалося знайсці**

1784 г. Вёска называлася **Дразды** (напэўна, "у гонар" шэрай птушкі, якая і цяпер цярэбіць вішні і ягады). Там была карчма васпана Пузына, старасты Дзявянішскага.

Вось і ў рэвізскай сказцы (так называўся перапіс 1795 года), якую падпісаў стараста любаніцкі Павел Ленскі, вёска запісана **wies Drozdow** на польскай мове, так як гэта пісалі па-польску ў часы Рэчы Паспалітай.

Тады быў утвораны Лідскі ўезд, які ўваходзіў спачатку ў склад Слонімскай губерні, а з 1797 г. - у склад Літоўскай губерні. З 1801 года тэрыторыя ўвайшла ў Гарадзенскую губерню, у 1842 годзе - зноў у Віленскую.

Працавіты краязнавец з ганчароўскай радзімы Сяргей Дычак, на працягу дваццаці гадоў збіраў і апублікаваў змястоўны матэрыял свайго радаводу, прыклад таго, як неабходна нам адносіцца да сваіх родных каранёў, напамін для нашых нашчадкаў.

Сяргей Уладзіміравіч падзяліўся архіўнымі матэрыяламі: рэвізскімі сказкамі Дроздава. Такім чынам, інвентары з'яўляюцца надзвычай каштоўнай крыніцай вывучэння эвалюцыі феадальнай гаспадаркі Беларусі. Яны ўтрымліваюць у сабе вялізную колькасць ка-

рыснай інфармацыі, прысвечанай тагачаснай аграрнай гісторыі ВКЛ, дэмаграфіі. Дзякуючы падрабязнасці інфармацыі, характэрнай для інвентарных вопісаў, становіцца магчымым скласці дакладнае апісанне стану, формаў, метадаў землекарыстання таго часу, прасачыць дынаміку развіцця пэўнага маёнтка і вясковай сельскай гаспадаркі.

Дакрануўшыся да архіўных дакументаў, інвентарных спіскаў жыхароў вёскі Дроздава, пацвердзіў сваіх родзічаў у сёмым калене.

Перапіс сялян 1795 года вёскі Drozdow. Тут у перапісе значацца продкі Кудлаў.

***Перапіс 1795 года***

Пад № 5 - мой продак Кудла Station Станіслаў Лукін?, меў трох сыноў: Васіля, Антона, Даменіка і дачку Мар'яну. Перапіс асоб жаночага полу вёўся асобна.

Наступная, так званая тады "рэвізская сказка"- перапіс 1811 года вёўся ўжо на расійскай мове, але пісар такі нязграбны, што поўнасцю разабраць імёны і прозвішчы ўсіх вяскоўцаў не ўдалося.

***Перапіс 1811 года***

Далей прайшла вайна 1812 года і прывяла да цяжкага заняпаду сельскай гаспадаркі. Многія вёскі былі разбураны, у Лідскім павеце загінула каля чвэрці мужчынскага насельніцтва. Беларусы, якія апынуліся ў французскай арміі, марылі пра тое, што Напалеон дапаможа вярнуць іх радзіме - Вялікаму Княству Літоўскаму - незалежнасць. Але паразай скончылася напалеонаўская спроба адрадзіць дзяржаўнасць ВКЛ.

Вядома, былі яшчэ перапісы ў 1815 годзе, затым праз 18 год - у 1833 годзе.

Але гэтыя архіўныя матэрыялы пры цяперашняй сітуацыі з Літвой недасяжныя.

Згодна з інвентаром 1848-га года, вёска Дроздава, як і іншыя навакольныя вёскі, належала, як кажуць, *"на правах уласнасці"* памешчыцы Петранэлі Францаўне Ленскай, дачцэ Франца Бучынскага з маёнтка Вашкевічы.

Гэта быў багаты ў Лідскім уездзе маёнтак, ён валодаў 7538 дзесяцінамі зямлі, г.зн. - 8235 гектарамі. Налічвалася 5 фальваркаў: Вашкевічы, Ганцавічы, Заёнчыцы, Масявічы, Місаўшчына, 8 вёсак: Ганчары, Агароднікі, Ганцавічы, Масявічы, Супраўшчына, Баравічы, Навасады, Дроздава і 3 засценкі: Старамлынніца, Буячкі, Астроўна. Лічыліся ўсяго - 1053 прыгонныя душы.

1820 г., восень. У вёсцы Дроздава быў неўраджай і голад сялянства.

З Ліды ў кірунку Наваградка пралягаў паштовы тракт: ад Песак (зараз яшчэ захавалася насыпная дарога і маставыя палі, дзе быў мост цераз раку Дзітва) праз Лупеніцу (там быў вадзяны млын і Конная паштовая станцыя), далей праз Ганчары на Наваградак. Ад Лупеніцы направа, праз жвіроўню пачыналася шаша - так званая "публічная дарога", высыпаная пяском і жвірам, абапал абсаджаная ліпамі і таполямі, дарога у кірунку дзве вярсты да Дроздава, а далей на Зецела (у той час так звалася Дзятлава). Амаль да 1885 г. пошта дастаўлялася з паштовай станцыі Лупеніцы трактам на Дакудава і далей на Іўе. У 1850 г. паштовую станцыю ў Лупеніцы ўтрымлівала сям'я купца Спакойнага (ён жа арандаваў станцыю ў Ішчалне ).




***На расейскай карце 1865-66 гг. паказаны паштовы тракт з Песак цераз Лупеніцу на Ганчары. Вёска Дроздава яшчэ пазначана як "Дрозды"***

У Дроздаве быў, як бы цяпер сказаць, "прыдарожны сэрвіс"- карчма, дзе падарожнікі маглі харчавацца, адпачыць, пераначаваць, у стайні пакарміць коней, падрамантаваць фурманку. Заезджы люд мог тут прапусціць пару кілішкаў гарэлкі.

У той час у Расійскай Імперыі ўсякае перамяшчэнне па дарогах знаходзілася ў казённым веданні. Фурманам выдаваўся дакумент"Падарожнае" (напэўна за грошы), які даваў дазвол ехаць па дарозе, заначаваць у карчме, ці ў паштовай станцыі.

Трэба зазначыць, што і рэкі: Нёман, Дзітва, Лідзейка і 5 азёр таксама былі ва ўласнасці памешчыцы. Лавіць рыбу можна было толькі з дазволу. Лесаматэрыял таксама адпускаўся сялянам для пабудовы хаціны і прыбудоў: хлявоў, гумнаў, свірнаў. Сухастой і нетаварная драўніна ішла на ацяпленне пабудоў фальваркаў.

У маёнтку быў вадзяны млын у Лупеніцы на рэчцы Дзітва, малоў збажыну для паншчыны з фальваркаў, сяляне ў асноўным абыходзіліся жорнамі.

У інфармацыі, якая датычылася памеру розных пасеваў, звычайна ішлі апісанне і пералік сельскіх вёсак і фальваркаў, якія адносіліся да панскага ўладання. Завяршаў стандартны вопіс маёнтка пералік землекарыстальнікаў і колькасць зямлі, якая знаходзілася ў іх карыстанні. Варта адзначыць, што асаблівая ўвага ў інвентарным перапісе надавалася размеркаванню валокаў на сялянскія сем'і, ў розных вёсках не заўсёды роўна.

Напрыканцы інвентара ішоў пералік жывёлы, якая ўтрымлівалася ў маёнтку і ў вёсках, а таксама спіс павіннасцяў сялян.

Згодна з перапісам маёнтка Вашкевічы запісана, што памешчыца на кожную сялянскую гаспадарку ў сярэднім выдзеліла зямлі 19,091/2 дзесяціны (1 дзесяціна - 1, 0925 га), у тым ліку ворнай - 14,91 (прыкладна 15 га), сенакосу 3,51 дзесяціны, каля хаты 0,671/2. Земляробства было прымітыўным - 3-ох польны севазварот, гэта значыць, што культура вярталася праз тры гады на раннейшае месца, а адно поле пуставала папарам.

У маёнтку былі два вінакурныя заводы (больш дакладна было б назваць самагонныя міні-заводзікі), якія выраблялі да 3-ох тысяч вёдзер "віна", Выхад гарэлкі быў: з пуда мукі - 3 гарцы, а з чацвярціны бульбы - 7 гарцаў. Корчмы належалі маёнтку і знаходзіліся пры дарогах: паштовай з Ліды на Наваградак і "камерцыйнай" з Ліды да мястэчка Беліца, а таксама пры некаторых вёсках. Продаж гарэлкі ішоў праз *"8 карчомак і дамоў піцейных"*, дзе акрамя праезджых падарожнікаў па святах наведвальнікамі былі і мясцовыя сяляне. Гэта прыносіла да 1000 рублёў даходу пані Ленскай. Для параўнання: гадавы даход ад млына складаў 200 рублёў, чынш з сялян і вольных - 366 рублёў, даход ад продажу зерня, бульбы і гародніны - 1540 рублёў.

Жылыя пабудовы заможнай шляхты былі значна большымі за сялянскія і мелі канструкцыйныя асаблівасці. Жылыя дамы феадалаў часта былі двухпавярховымі, мелі ганак, шкляныя вокны, кафельныя печы (галандкі), якія прызначаліся для абагрэву жылля, знадворныя галерэі.

Комплекс гаспадарчых будынкаў у багатых феадалаў уключаў пабудовы для хатняй жывёлы і птушак: стайні, канюшні, хлявы, аборы, валоўнікі, клеці. Для захавання збожжа, свірны, скарбіцы, гумны, адрыны, пуні, сеннікі. Для прамыслвага вырабу: млыны, пякарні, скляпы, бровары-піваварні, саладоўні, лазні, сырніцы, алейні, лядоўні, корчмы, вяндлярні. Акрамя жылога дома самога феадала і гаспадарчых будынкаў, у комплексе сядзіб як правіла меліся і памяшканні для дваровых слуг.

У перапісе знаходзіліся данныя аб павіннасцях прыгонных сялян перад памешчыцай. Кожнай сялян-



***Статыстычныя заесткі пра маёнтак Вашкевічы Петранелі Ленскай Лідскага ўезда. Пачата 8 ліпеня 1848 г.***

скай гаспадарцы: прыгон за тыдзень - 3 дні; згонаў у год з працоўнай душы - 8 дзён. Акрамя гэтага быў абавязак узараць і забаранаваць панскай зямлі, выраб нітак з абшарніцкага матэрыялу; вываз дроў і бярвенняў з панскага лесу для патрэб фальварка.

Апроч натуры быў абавязковым чынш - 2 рублі серабром. Але паншчына была далёка не асноўным ярмом на сялянскай шыі. Былі і іншыя павіннасці:

- старожа - вартаўнікі;
- праца ў панскім двары;
- шарваркі - будаўніцтва мастоў і дарог.

Будаўніцтва дарог цяжкім грузам клалася на плечы простага люду. Праўда, на гэтую справу выдзяляліся з казны грошы, і сяляне маглі зарабіць цяжкай працай крыху грошай. На час будаўніцтва за кожнай вёскай замацоўвалі ўчастак дарогі, і па загадзе мясцовай улады выводзілі грабароў (землякопаў) і сялян з падводамі для падвозу жвіру, каменняў… Асабліва цяжка даводзілася пераадольваць балоты, нізіны, рэчкі. Грэбля на дарозе ад Дроздава у бок Ганчароў доўга была забалочна, укладалася галлём, накідвалі каменні і абавязковай шарваркай усыпалі жвірам, прывозячы вазамі з дзітвянсай жвіроўні...

Па дакументальных сведчаннях у Гарадзенскай губерні ў 1850-х гадах налічвалася 4850 вёрст паштовых, гандлёвых і ваеннных дарог. Штогод на будаўніцтва дарог выводзілі па 126 тысяч пешых работнікаў і 167 тысяч падвод.

Гэтыя дарогі з дакладна спланаваным палатном, абочынамі, кюветамі, разлічаныя на конны транспарт доўга служылі людзям, у многім далі аснову цяперашнім. Гэта выдатны помнік нашым продкам-беларусам, якія аднымі рыдлёўкамі пабудавалі тысячы вёрст дарог.

А вось згодна з перапісам 1848 года, ў вёсцы Дроздава былі 24 гаспадаркі, у якіх жыло 186 душ, з якіх 82 - мужчыны і 86 - жанчын. Гэта сведчыць аб тым, што сем'і былі вялікія: не менш як па 7 душ на гаспадарку. За мінулае паўстагоддзе сем'і выдзеліліся ў асобныя гаспадаркі. Так, з аднолькавымі прозвішчамі гаспадарак было: Кудла - 6, Кумпяк - 5, Шут - 4, Козел - 3, Быстрыцкі - 3, Салавей - 2, Дзевяты - 1, Пусько - 1.

Ужо існавалі суседнія вёскі: Ганчары, Масявічы, Жучкі. А вось тады вёскі Даржы яшчэ не было, былі Дзяковічы, якіх цяпер няма.

Фальварак "Місёўшчына" ад Жучкоў з вярсу да Супраўшчыны. Там у памешчыка цівуном, як запісаў мой бацька, працаваў яго прадзед Васіль.

Старэйшымі жыхарамі былі: Быстрыцкі Якаў Іванавіч - 89 год і Салавей Канстанцыя - 89 год, Кудла Юстына - 80 год, Кудла Васіль - 80, Козел Дамінік - 80 год. Але гэта адзінкі доўгажыхароў. Так, на ўсю вёску старэйшых за 60 год было ўсяго 10 мужчын і 6 жанчын, дзяцей да 10 год: хлопчыкаў - 24, дзяўчынак - 29.

Мужчын з распаўсюджанымі імёнамі жыло: восем - Іван; шэсць - Андрэй; па пяць - Сцяпан, Антон, Юрый і Іосіф; па чатыры - Павел і Юльян; па тры - Філіп, Пётр і Мікалай, Базыль, Фёдар, Баўтрамей і Дамінік; па два - Якаў, Рыгор, Ігнацій, Васіль, Вікенцій, Канстанцін, Раман і Мацвей; па адным - Сымон, Сямён, Міхась, Фама, Станіслаў і Аляксандр.

Жанчын з распаўсюджанымі імёнамі жыло: па 13-Мар'яна і Ганна, па 12 - Кацярына; па сем - Агата і Разалія; па пяць - Альжбета і Тарэса; па чатыры - Крысціна, па тры - Петрунэла; па два - Барбара, Магдалена і Настасія; па адным - Караліна, Юстына, Канстанцыя, Рахэла, Францішка, Дарота, Фядора, Тэкля, Вольга, Ева і Клара.

Цікавыя звесткі пра жыўнасць: на 24 дроздаўскія гаспадаркі было: валоў- 49, коней - толькі 21. Вядома, што ў той час асноўнай цягавай сілай былі валы. Іх запрагалі ў ярмо па парах і аралі сохамі глебу. Коней болей выкарыстоўвалі пры баранаванні, запрагалі ў воз, ці зімой у сані. Карміліца для сям'і - карова была па адной ў кожнай гаспадарцы, і толькі ў чатырох гаспадарках меліся па дзве. Маладняка буйна-рагатай жывёлы налічваў - 38 галоў, авечак - 179, свіней featured рознага ўзросту - 65. У графе "курэй" - працяжнік і "вуллі пчаліныя" - таксама. Чамусьці не бралі на ўлік…

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Альжбета Табенская***

# З долі і няволі

## *Успаміны выгнанкі**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Паненкі станавіліся ўжо паўнагадовымі, трэба было іх ужо ў свет выпраўляць, а я не была здольная прыняць на сябе гэты абавязак суправаджаць іх на ўсіх забавах, знаёмствах. Баялася адказнасці ў выпадку няўдачнага выбару Люці сярод дабіваўшайся яе рукі моладзі; а магло гэта наступіць вельмі хутка, бо з Люці была прыгожая паненка. Каб яе выбар упаў не на паляка, я таго б не перанесла, а пярэчыць усёў сям'і панства Пацалаеўскіх не хацела. Пры тым мела непераадольную агіду да гэтага таварыства, яго звычаяў, да тых розных строяў і бяссонных начэй. Вось якія былі прычыны, з-за якіх я мусіла расстацца з сям'ёй панства Пацалаеўскіх, з сумам для іх і болем для мяне, бо як бы там ні было, палюбіла гэты дом, які мне Пан Бог з міласэрнасці сваёй для жыцця на выгнанні прызначыў. Прыняла абавязак наглядчыцы ў прытулку на Ялані, томскім прадмесці, дзе пан Чыгір разам з кс Юзафам Давідоўскім, рэктарам семінарыі ў Варнянах на Жмудзі, нанялі для дзяцей памяшканне. Нарэшце я пакінула дом панства Пацалаеўскіх. Суровыя ў меркаваннях людзі называлі гэта шаленствам, так было на першы погляд, але ў рэчаіснасці іначай.

Не буду апісваць сцэны расстання майго з домам доктара: скажу толькі, што п. Пацалаеўскаму і мне шмат яно здароўя і жыцця каштавала. З-за нагавораў п. Малгудовіч змяніў ужо доктар свае добрыя пра мяне думкі, аднак не ведаў зусім, што дочкі яго ўжо былі нядобрымі да мяне, што цалкам былі аддадзены паням Аршалавай і дзвюм іншым, што ў іх дамах і іхнімі стараннямі меліся рабіцца планы на будучыню яго дачок і г.д. Доктар наяву ні ў чым мяне не абвініў, нядаўна яшчэ прасіў, каб над дочкамі яго наглядала, гаворачы:

- Пані не ведае, якія гэта жанчыны, якія сапсутыя! Няма ні адной шаноўнай, хоць маюць мілую і сціплую знешнасць. Не хачу думаць, што можа стацца з Люцяй і Коцяй пасля маёй смерці, страх мяне агарнае! Я павінна была хаця б яшчэ на год у іхнім доме застацца; цяпер шкадую і кару сябе, што таго не зрабіла.

У прытулку было больш за дзясятак дзяцей: дзяўчынкі і хлопчыкі; у тым самым доме жыў ксёндз рэктар Давідовіч з некалькімі ксяндзамі, з якіх прыгадваю кс. Міхала Валоўскага, вельмі набожнага старца, якога раней, хоць вельмі коратка і рэдка, адведвала, і ён рады быў мяне бачыць; кс. Ігнацыя Дашкліневіча, старога, але яшчэ моцнага; кс. Плацыда Шаркоўскага, маладога яшчэ, вялікага аскета. Усе яны што дзень адпраўлялі святую імшу; айцец рэктар вучыў дзяцей рэлігіі і моцна працаваў над падрыхтоўкай іх да Св. Камуніі. Спавядаліся яны ў вялікую сераду, а ў вялікі чацвер прынялі Пана Езуса вельмі набожна з вялікім засяроджаннем духу. Яшчэ вечарам таго ж дня прыехала з вёскі сястра адной з дзяўчынак - Альжбеткі, каб яе забраць з сабой. Айцец рэктар не згадзіўся на гэта, хочучы, каб яшчэ адзін дзень яна правяла ў канцэнтрацыі духу. Разгневаная гэтай адмовай, жанчына пайшла да губернатара, абвінаваціла кс. Дашкліневіча ў заснаванні школкі і прымусовым утрыманні Альжбеткі, патрэбнай ёй у тыя дні на гаспадарцы; кідала пры тым найабрыдлівыя ачарненні на ксендза рэктара. У выніку таго абвінавачвання кс. Дашкліневіч быў арыштаваны і пасля некалькідзённага ўвязнення высланы ў Каінск на поўнач Томскай губерні, а дзяцей загадалі распусціць. Кс. рэктару дазволілі заглянуць яшчэ перад ад'ездам дадому; смутнае гэта было для мяне расставанне, увесь Томск, а дакладней каталіцкае таварыства аплаквала выезд айца рэктара. Паколькі некаторыя дзеці паходзілі з вёсак патрэбны быў пэўны час на апавяшчэнне бацькоў, каб іх забралі, іншыя зноў не маглі знайсці прытулак так хутка, а тут паліцыя пастаянна прыходзіла, прымушаючы, каб іх не было. У роспачы я пайшла да губернатаршы і благала яе пра апеку над няшчаснымі сіротамі; сказала ёй, што я - апякунка і старшыня ва ўсіх прадпрыемствах для няшчасных у Томску, таму няхай жа мае літасць над найняшчаснейшымі з усіх польскімі сіротамі, якія ніадкуль не могуць атрымаць дапамогі на той чужой зямлі. З гневам адказала мне, што ўсё тое, што робіцца па волі і загадзе яе мужа, ёсць справядлівае.

- Не пярэчу таму, але я пэўная, што тыя, хто выконвае загады пана генерала дапускаюць злоўжыванні, бо не магу дапусціць, каб пан генерал загадаў гэтых бедных дзяцей выкінуць на вуліцу ў такія моцныя марозы без цёплай вопраткі для таго, каб памерзлі.

Пайшла генеральша злая і разгневаная, але паліцыя не выганяла дзяцей, пакуль іх не паразбіралі. Альжбетку забрала пані губернатарша пад сваю апеку і памясціла ў прыюце для праваслаўных дзяцей. Я пася-

* Пераклад з польскай мовы Станіслава Судніка. Паводле “Z doli i niewoli. Wspomnienia wygnanki”. Кракаў, Друк В. Карнецкага, 1897.

лілася на нейкі час у Астраменцкіх. Пайшла мне на дабро тая размова з губернатаршай, бо калі адзін з золатапрамыслоўцаў прыехаў у Томск, каб знайсці настаўніцу для сваіх дзяцей, і не могучы знайсці ні адной расейкі, наладзіў вечар пад назвай "Крышэнне капусты" і запрасіў п. губернатаршу і жонку начальніка жандармерыі і ў вясёлай размове прасіў тых паняў даць яму настаўніцу; у гэты час п. губернатарша прыпомніла пра мяне і сказала, што ведае адну польку, праўда сапраўдную фанатычку, але якая добра гаворыць пафранцузску, і можа яе рэкамедаваць. Абедзве гэтыя пані абяцалі звярнуцца да сваіх мужоў па дазвол для мяне на выезд з Томска, калі той пан згодзіцца прыняць мяне пад сваю адказнасць. З таго часу я зноў мела за што жыць, а з матэрыяльнага погляду мела ўмовы лепшыя, чым перад тым. Яшчэ да майго выезду ў паўднёвую енісейскую тайгу да пп. Квяткоўскіх настаўніцай даведалася я пра невылечную хваробу пана Пацалаеўскага. Ксёндз Давідовіч, ведаючы таксама пра гэта, напісаў "Трактат аб споведзі" і прыслаў мне тую кніжачку, абавязаўшы мяне аддаць яе доктару Пацалаеўскаму. Я, ведаючы ўзрыўны характар доктара, не мела на гэта адвагі, як таксама і ніхто са знаёмых, бо ўсе ведалі, што ад часу сваёй жаніцьбы доктар не спавядаўся і заўсёды кпіў з касцельных набажэнстваў і сакрамантаў. Знайшоўся нарэшце адзін з ксяндзоў, які адважыўся ўручыць брашурку доктару Пацалаеўскаму. Сказаў так:

- Пайду ў імя Божае, мо ж той пан мяне не заб'е, а нічога больш не баюся.

Быў гэта с. п. кс. Ігнацы Дашкліневіч. Пайшоў смела; калі зазваніў у дзверы, сам пан Пацалаеўскі адчыніў яму іх і ветліва прывітаў прыйшоўшага, адказаўшы на вітанне ксендза

- На векі вякоў, аман.

Калі селі для размовы, ксёндз Дашкліневіч адазваўся:

- Ксёндз Давідовіч, ведаючы, што пан цяжка хворы, і клапоцячыся пра панскую душу напісаў "Трактат аб споведзі" і патрабуе шаноўнага пана прачытаць яго цалкам, робіць ён гэта з найлепшага сэрца, вельмі просіць, каб пан прачытаў гэтую яго працу ад пачатку да канца і даў яму ў тым слова

Доктар выслухаў спакойна тую прамову, пацалаваў руку ксендза і даў слова, што выканае просьбу ксендза Давідовіча, як ксёндз таго вымагае. На другі дзень прасіў жонку, каб прывяла мяне. Калі я прыйшла, сказаў так:

- Ксёндз Давідовіч напісаў для мяне "Трактат аб споведзі" - прашу напісаць яму падзяку за яго да мяне зычлівасць і сказаць, што прачытаў ад пачатку да канца; не ўсё супадае з маімі перакананнямі, але зраблю тое, што мне ксёндз Давідовіч радзіць; буду спавядацца, а паню прашу аб арганізацыі мне споведзі.

Я паехала адразу да кс. Валерыя Грамадзкага, у той час яшчэ вікарыя, з просьбай пра спаўненне пажаданняў хворага доктара Пацалаеўскага. Пазней рабіла падрыхтоўку ў доме для прыёму ксендза з Панам Богам, што мела адбыцца назаўтра а 10-й раніцы. Пасля вельмі кароткай споведзі і Св. Камуніі, а потым пасля выхаду ксендза жонка, дочкі і я прыйшлі павіншаваць хворага са шчасцем, якое спазнаў; доктар выказаў вялікае задавальненне з паяднання з Панам Богам і некалькі разоў сказаў:

- Ото, ксёндз, ото, ксёндз, каб усе былі такія. Што ж можна вымагаць ад слабога чалавека!

Праз два, здаецца, тыдні выехаў хворы доктар не на лячэнне, як гаварыў, а на свой канец у Белакурыцкую, не могучы перанесці віду любімай сям'і пры сваёй смерці. Вёска Белакурыцкая размешчана за 70 вёрст ад Томска ў прыгожай мясцовасці, паблізу канца адгалінавання Алтайскіх гор, мела свежае паветра, якое вельмі карысна дзейнічала на хворых, і належала таму да лячэбных месцаў, мала яшчэ зведаных. Праз нейкі час патэлефанаваў пан Пацалаеўскі, каб мы неадкладна прыехалі: кс. Грамадзкі, старэйшая яго дачка Люцыя і я. Жонка хацела абавязкова ехаць з намі, але пані Аршавулава і Шушлаева, без парады якіх ужо нічога не рабілася, а таксама Люцыя, не дазволілі таго, гаворачы, што нельга нічога рабіць супраць волі хворага, што калі б хацеў, каб жонка прыехала, то тэлефанаваў бы і да т.п. Я прасіла з усіх сіл пані Пацалаеўскую, каб ехала, гаварыла, што прыбыўшы на месца магла б адразу не паказвацца, а была б гатова, калі б муж паклікаў; Люцыя аднак цвёрда не дазволіла маці ехаць, і мы паехалі ўтраіх.

Ложка хворага стаяла пасярод пакоя, доктар ляжаў на ім без руху, рукі меў складзеныя на грудзях, як у памерлага. Калі мы ўвайшлі, павярнуў на нас смутнарадасны позірк:

- А жонка! Дзе жонка? Чаму не прыехала?

Пацалаваў потым дачку, прывітаў ксендза і мяне.

- Стань насупраць мяне, дзіцятка маё, - сказаў да Люці, - так, каб вочы мае на цябе глядзець маглі. Але чаму жонка не прыехала? - звярнуўся з пытаннем да мяне.

Адказала што прыедзе, а засталася, каб знайсці надзейную асобу, каб ёй даверыць малога Домця.

- О, жонка, жонка! Якая добрая жонка! Якая цярплівая жонка! О, чаму яна не прыехала і калі прыедзе!?

Я адразу затэлефанавала, каб прыехала да нас з доктарамАжэшкам, бо баялася за яе ў такім смутным і хваравітым тым падарожжы. Хворы нецярпліва выглядаў жонку; колькі разоў дзверы адчыняліся, павяртаў зрок свой у той бок і пытаўся, ці гэта не жонка. З Люцяй размаўляў вельмі шмат; мы сядзелі пры доктары напераменку. Пану Буткевічу, які зычліва пры ім знаходзіўся, доктар, паказваючы на мяне, сказаў:

- Гэта сапраўдная наша прыяцелька.

Ксендзу сказаў, што спавядацца не будзе, бо святой камуніі ўжо прыняць не можа. Калі ў чарговы раз мы з Люцяй знайходзіліся пры хворым, апошні раз сказаў:

- Няма жонкі, прагнуў бы яе ўбачыць. О, жонка! Найлепшая жонка!

Потым папрасіў мяне, каб пакінула яго з Люцяй, прамовіў:

- Як буду паміраць, паклічу пані.

Недзе праз паўгадзіны ўвайшла пакліканая, доктар сказаў:

- Бывайце.

Паглядзеў з болем, пачалося хрыпенне. Доктар Грамадзкі пачаў малітву за канаючых. Доктару падалі грамнічную свечку, ён уткнуў зрок у адну кропку і зрабіў апошні выдых.

Пры дапамозе пана Буткевіча апранулі памерлага і паклалі яго на тапчане; маліліся пры ім наперамену. Была сям'я панства Буткевічаў, яшчэ некалькі католікаў, прыходзілі таксама тамтэйшыя жыхары. Гарачыня была вялікая, і цела пачало разлагацца, нягледзячы на прымяненне ўсякіх сродкаў нельга было зменшыць удушлівага паветра, таму забілі труну і перанеслі яе ў пакой, дзе прыезджы ксёндз адпраўляў набажэнства і спавядаў. Са святой імшой чакалі да 11-й гадзіны; было ўжо па ахвяраванні, калі пачуліся званкі, і пані Пацалаеўская ўбегла ў пакой і кідаючыся на труну з болем загаласіла:

- Што вы нарабілі, чаму не далі мне пабачыць мужа! О, муж мой дарагі!

Трэба было ўгаворваць няшчасную, каб аддалілася ад так жудасна чутнага паветра і каб не перашкаджала ксендзу адпраўляць святую імшу.

Жудаснага болю і роспачы гэтай беднай кабеты апісаці не здолею. Удары адзін за другім падалі на яе; пасля страты мужа пахавала ў наступным годзе прыгожага сынка, двухгадовага Домця, праз год шаснаццацігадовая дачка Коця памерла ад сухотаў і так хутка злучылася з бацькам, па якім невыказна сумавала.

Уміраючы Коця прасіла маці, каб дазволіла Люці выйсці замуж за аўдавеўшага пару месяцаў назад доктара Фларэнцыя Ажэшку, які быў яшчэ жанатым падчас смерці доктара Пацалаеўскага. Маці не адмовіла паміраючай дачцы; Люця аддала сваю руку пану Ажэшку, і я бачыла яе ў першыя гады жыцця з мужам, на 17 гадоў старэйшым за яе, як шчаслівую жонку, добрую маці і мачыху, выхоўваўшую двух сынкоў, якія засталіся ад першай жонкі доктара Ажэшкі. Яны дагэтуль у Томску, дзе пасяліўся доктар з часоў высылкі ў 1863 годзе. (Доктар Ажэшка быў родным братам с.п. Ажэшкі, мужа нашага празаіка Элізы Ажэшкі.)

Пасля вяртання ў Томск з асірачонай сям'ёй я падалася да паноў Астраменцкіх, адкуль 20 лістапада мусіла выехаць у паўднёвую Енісейскую тайгу, як настаўніца да паноў Квяткоўскіх, золатапрамыслоўцаў.

У пярэдадзень майго выезду, які быў разам і днём маіх імянін, я споўніла пажаданне пані Астраменцкай, хочучы развітацца з таварыствам палякаў у Томску, запрасіла бліжэйшых знаёмых на гарбату. Вечарам прыйшоў пасланец з паведамленнем ад пана Квяткоўскага, што заўтра выязджаем, таму каб была падрыхтавана. Назаўтра я паехала ў кватэру яго крэўных, у якіх спыніўся. Прыняў мяне пан Квяткоўскі ў сваім кабінеце і гледзячы на мяне пытліва і сурова, запытаў гнеўна:

- Какое это сборище было у вас вчера? (Які гэта сход быў у вас учора?)

- Было толькі некалькі чалавек, зычлівых знаёмых, якія хацелі са мной развітацца, а таксама скласці пажаданні да дня імянін, якія на ўчора прыпалі, - адказала.

Тым жа голасам і загадным тонам сказаў, каб я асцерагалася, бо ён мае права нагляду за мной і што кепска мне будзе, калі захачу сабе занадта дазволіць. Хоць у крытычным маім становішчы я вымушана была выехаць на пасаду, аднак папярэдзіла пана Квяткоўскага, што не згодная, каб са мной так паступалі, няхай сабе шукае каго іншага на маё месца. У гэты момант вочы пана Квяткоўскага прынялі іншы выраз, усмешка з'явілася на твары, і прамовіў да мяне па-польску, абяцаючы, што мне добра ў іх будзе, гаварыў, што сам быў даўней палякам і католікам і г.д. Мусіла ехаць, бо іначай быць не магло.

Калі назаўтра вечарам прыбыла да іх паўторна, застала звыш дзясятка чалавек, якія сядзелі ва ўрачыстым маўчанні. Святло яскрава асвятляла ўсё таварыства. З прыветлівай мінай тлусты, чырвоны, у арыгінальным строі, у доўгіх ботах і кароткім кафтане працягнуў пан Квяткоўскі мне руку на прывітанне, потым не стоячы, як гэта звычайна робяць расейцы, але з цяжкасцю ўкленчыўшы, пачаў адбіваць паклоны, ад якіх яму вочы страшна крывёю набеглі. Па сканчэнні малітвы паднялі яго, і пачалося цалаванне ўсіх, не разбіраючы полу і ўзросту. Потым наступіла апрананне і выезд. Жудаснае мела падарожжа з тым п'яным панам, пачувалася куранём у кіпцюрах крэчата; у дарозе мусіла прыкурваць яму папяросы, бо яму, апранутаму ў велізарнае мядзведжае футра цяжка было паварушыцца; пра розныя спазнаныя прыкрасці мушу прамаўчаць.

Прыбыўшы ў Марынск затрымаліся на двухгадзінны адпачынак. Пан Квяткоўскі быў заняты размовай, а я, маючы з Томска адзін ліст для паслання, паслала яго з прыслужнікам. Пан Квяткоўскі, даведаўшыся пра гэта, моцна разгневаўся, а таму я сказала, што далей не паеду, а вярнуся ў Томск, бо ранейшыя яго нягжэчныя паводзіны абяцаюць мне вельмі кепскае жыццё ў яго дома, што 100 руб., дадзенага мне ім і ўжо выдаткавагага задатку, вярну яму ў Томску, бо была пэўная, што пакуль іх не зараблю, мае знаёмыя пазычаць мне патрэбныя грошы. Пан Квяткоўскі адразу палагоднеў і свае пагрозы замяніў на жарт. Таму паехалі далей, да так званай рэзідэнцыі Каргіно, дзе золатапрамыслоўцы мелі вялікія склады самых розных матэрыялаў: вопраткі, абутку, правізіі, патрэбных для жыцця ўсяго насельніцтва, якое складалася з работнікаў, пасяленцаў, г.зн. злачынцаў, якія адбылі прызначаныя гады пакарання на цяжкіх работах, атрымалі ад урада зямлю і грошы на будаўніцтва і тым спосабам утварылі абшырныя вёскі. Усе тавары дастаўляліся з Краснаярска, калі рэкі ставалі і з лёгкасцю можна было перавезці іх цераз Енісей у Тайгу. Едучы да Каргіна набраліся досыць страху з-за пачаўшайся вялікай снежнай замяці; густы снег сыпаўся і сыпаўся, коні ісці не хацелі; тады фурман, якога звалі конюхам пачаў думаць пра ратунак. Сані нашы былі запрэжаны ў два кані, але не пры дышле, а адзін за адным, бо на вузкіх тамтэйшых дарогах памя-

сціцца не маглі. Фурман выпраг пярэдняга каня, падняў аглоблі ўверх, каб нас лягчэй было знайсці. Я была страшна перапужана, увесь час малілася, а мой таварыш драмаў, час ад часу адзываючыся парай слоў. Дзякуй Богу, вёска была блізка, і неўзабаве пачуліся галасы людзей, прыбыўшых нам на ратунак. Раскапалі снег лапатамі, сані не былі яшчэ цалкам засыпаны, іхні верх і нашыя галовы падымаліся яшчэ над снегам, так што мы маглі дыхаць. Раскапалі снег і на дарозе, і а 12-й ночы мы спыніліся ў Каргіно. Правялі нас у домік рэзідэнта, чалавека простага стану, які прымаў транпарты, высыланыя з Краснаярска і дастаўляў іх золатапрамыслоўцам у тайгу. (Тайга - гэта пушча, у якой у пэўных месцах, на берагах рэк ёсць золата). Домік рэзідэнта быў малы, нізкі з малымі вокнамі, а шыбы былі пакрыты тоўстым слоем снегу.

Далі мне на ноч маленькі пакойчык, які магу параўнаць з магілай, такое гнятлівае зрабіў на мяне ўражанне. Я так здранцвела маральна, што не падумала ні пра Бога, ні пра Маці Найсвяцейшую, ні пра анёла ахоўніка, у якім магла шукаць і знайсці суцяшэнне. На другі дзень далі мне снеданне і сказалі, што неўзабаве паедзем далей. Пан Кваткоўскі, заняты рахункамі, прамовіў да мяне пару слоў, паведаміўшы пра выезд. Рухаючыся ў дарогу з Краснаярска я мела на сабе два футры: адно доўгае, як шляфрочак на белых зайцах, другое шырокае вавёркавае; боцікі высокія, да кален, на белых зайцах, з сукна і на гузікі зашпіляныя. Цяпер на ўсё гэда мусіла надзець яшчэ доху, г.зн. від мяшка, пашытага з аленевых шкур, шэрсцю наверх, з каптуром на галаве. Паколькі за намі ехалі другія сані някрытыя, я прасіла пана Квяткоўскага, каб ехаць асобна, а каб не здарыўся выпадак, пра якія пан Квяткоўскі апавядаў, што пры хуткім бегу коней у гарыстых мясцовасцях падарожны выпадаў з саней і заставаўся на дарозе, прывязалі мяне паскамі да саней, у якіх я ляжала, як у ложку. Дзіўная рэч, сані нясліся пастаянна з гары на дол, з долу на гару, а я смачна спала. А поўначы аказаліся на месцы, у Тайзе паноў Квяткоўскіх. Я прасіла, каб мяне правялі ў мой пакой, бо змучаная дарогай не хацела займацца туалетам і прадстаўляцца сабранаму таварыству. Пані Квяткоўская разам з полькай паняй Сабалеўскай, якая знайходзілася ў іх, прыйшлі са мной знаёміцца. Пані Квяткоўская, кузіна томскага арыстакрата Асташова, з заможнай сям'і, была асобай, усюды любімай у таёжным таварыстве, вельмі прыветліва мяне прывітала і праз увесь час майго побыту ў іх быда добрая да мяне. Была гэта жанчына набожная, рэлігійная, добрага сэрца і хрысціянскіх цнотаў. Дзеткі былі мілыя і ветлівыя: 10-гадовая дзяўчынка Юленька - дзіця з вялікімі да навук здольнасцямі; 9-гадовы Ціша (Ціхан), 7-гадовая Маша, з якой займалася па 15 хвілін, 5-гадовы Кеня (Інакенцій), малы растаропны хлопчык, наймалодшы ў сям'і, улюбёнец маці. Трэці хлопчык, сын парабка, прыняты ў таварыства, дапамагаў дзецям у гульнях. Былі яшчэ два старэйшыя сыны панства Квяткоўскіх: Пётр - адстаўны марскі афіцэр і Базыль - пакалечаны, гарбаты, кіраваў прыіскам у бацькі. Паляк Дамброўскі, студэнт Кіеўскага ўніверсітэта, выконваў абавязкі матэрыяльна адказнага, г.зн. афіцыяла, які выдаваў матэрыялы, патрэбныя для дома і работнікаў, а таксама меў надзор над свірнамі, якія там называюцца амбарамі. Гэта было ўсё дамашняе таварыства. Госці часта адведвалі панства Квяткоўскіх, але пераважна асобы, якія гулялі ў карты. Я хутка прывыкла да ўсяго і да ўсіх; імпанавала мне прастата ў жыцці, у абыходжанні, у вопратцы, лёгкасць і шчырасць у размовах. Вучні мае былі вельмі лёгкія ў кіраванні. Пасля перадабедзенных урокаў хадзілі мы з дзецьмі на шпацыр, хоць марозы былі вельмі моцныя, звыш 40 градусаў, але мы цёпла апраналіся: у авечыя кажушкі, футраныя шапкі і валёнкі. Дзеці гулялі блізка каля дому, дзе снег быў больш утаптаны: ездзілі на малых саначках, самі сябе возячы, у чым і дзяўчынкі ім дапамагалі.

Я не мела дастатковых навыкаў у расійскай мове, хоць у Літве ў гімназіях і пансіёнах вучылі ўсе прадметы на той мове, і мой першы настаўніцкі абавязак у расійскім доме выпадаў, то пазней адвыкла ад яе і часта была заклапочана, як выказацца, прасіла не раз пана Дамброўскага выратаваць мяне ад клопату. Па яго парадзе пачала чытаць рускія часопісы, знаёміцца з літаратурай; падабаліся мне перакладзеныя з нямецкай і ангельскай прыгожыя аповесці, і лягчэйшай стала для мяне на той мове размова.

Надышла вясна, зніклі снягі, у канцы траўня зямля пакрылася прыгожай зелянінай, і з'явіліся кветкі; лягчэй мне зрабілася на душы, але сумавала па касцёле і па сваіх.

У капальнях пачаліся работы; у час адпачынку мы хадзілі з дзецьмі паглядзець на працу работнікаў. Дзеці апавядалі мне з вялікім веданнем справы і вялікім захапленнем пра ўсё, што тычылася тых работ. Панства Квяткоўскіх, седзячы ў цёплыя дні на верандзе, назірала за рухам, які панаваў на ўсім прыіску; усё там ажыло, прырода і людзі, работы ішлі ў вялікай спешцы, з запалам, бо лета будзе кароткае, а работы вельмі шмат. Адразу ў першыя дні траўня разышлася вестка, што некалькі работнікаў уцякло. Вялікую гэта крыўду рабіла ўладальніку капальні, бо замяніць іх не было каму, паколькі толькі зімой стараліся прыдбаць работнікаў. Неўзабаве злавілі няшчасных уцекачоў, бо, не знайшоўшы ў тайзе ніякага харчу, падходзілі да прыіска, каб дастаць хлеба. Адзін з уцекачоў, агаладалы, слабы, да цяжкай работы не здатны, прызначаны быў з дзвюма кабетамі да капання градак пад кветкі каля акон дома; другі - да работ свайго прызначэння, і ўсе заўсёды без яды да абеду, які даваўся ў звычайную пару. Прыехаў памочнік спраўніка з казакамі, а паколькі на прыіску час вельмі дарагі, то адразу пасля пачастунку ўрадніка прыступілі да суда над злачынцамі, прызначэння і выканання кары, якая была выканана хвастаннем казацкімі нагайкамі. Не далічыліся паміж вінаватымі таго, які з кабетамі капаў градкі пад кветкі. Кабеты паўтаралі, што няшчасны гаварыў ім пару разоў, што не пераажыве цялеснай кары. Быў, наколькі я ведаю, чалавекам інтэлігентным, які дзіцем страціў бацькоў, быў прыняты і выхоўваўся як

уласнае дзіця ў вельмі заможнага купца. Па заканчэнні навук вёў справы свайго апекуна, размаўляў на замежных мовах, належаў да заможных таварыстваў. На няшчасце палюбіў гульню ў карты, пачаў траціць сродкі свайго апекуна, які не звяртаў на гэта ўвагі, пакуль ішло пра малыя сумы, нарэшце ўвайшоў у гульню з шулерамі па прафесіі, прайграў значную суму свайго дабрадзея, за што заключылі яго ў вязніцу і пасля доўгага сядзення быў прыгавораны да цяжкіх работ.

Гэтага няшчаснага пачалі шукаць. Знайшлі яго ў так званай хлебапякарні, дзе пекары пяклі хлеб для работнікаў і варылі яду, павешанага пад нізкім дахам у пазіцыі ўкленчанага, бо з-за свайго высокага росту не мог бы інакш памясціцца.

Калі прыступілі да пакарання астатніх вінаватых, падышоў адзін з іх да Базыля Квяткоўскага, які ў маёнтку бацькі быў "упраўляючым" кіраўніком прыіска, і закрычаў, падаючы перад ім на калені:

- Васіль Аляксандравіч, прабачце мяне!

Базыль адказаў, што не можа, бо ён ужо другі раз уцякае, тады ўцякач ударыў яго нажом у жывот. Разлёгся страшны крык. Пані Квяткоўская, пачуўшы яго і ўбачыўшы любімага сына, якога са звешанай галавой няслі некалькі чалавек, крыкнула:

- Забілі Васю, забілі! - і ўпала самлеўшая.

Пасля агляду параненага ўбачылі, што ўсё раненне абмежавалася разрэзам летняй вопраткі і лёгкай драпінай шкуры на жываце. Страта прытомнасці была ад перапуду. Работнік быў у роспачы, бо ў якасці прылады помсты меў толькі малы, тупы сцізорык, які склаўся пры ўдары. Вінаватага пакаралі нагайкамі, адаслалі ў вязніцу, дзе яго асудзілі на 12 гадоў катаржных работ. Пясля адбыцця прызначанага тэрміну вязніцу даўно пакінуў.

Прыведзены клапатлівай маці доктар застаў пана Базыля зусім здаровым, але стары бацька, уражаны здарэннем, захварэў і праз тры дні памёр. Ніхто не прадбачыў ніякай небяспекі, дапускалі толькі, што нездаровы, бо выпіў, можа больш, чым звычайна. То сядзеў на верандзе, то ляжаў, а калі я прыйшла да яго сказаў мне сваім звычайным голасам, падаючы папяросу:

- Rauchen Sie!

Адразу пасля гэтага крыкнуў:

- Прападаю! Дабраславёны, хто веруе!

Ноччу маці і сыны сядзелі пры хворым, я ляжала на ложку, не распранаючыся. А 1-й ночы ўвайшоў пан Пётр да мяне і, заліваючыся слязамі, гукнуў:

- Бацька сканаў!

Я застала малодшых дзяцей укленчыўшымі пры ложку, залітымі слязамі.

Суседзі з'ехаліся на пахаванне. Мы з дзецьмі вілі вянкі і паклалі ў труну шмат свежых кветак. Пахавалі нябожчыка на прыіскавых могілках, дзе ўжо спачывала найстарэйшая дачка панства Квяткоўскіх, якую бацькі і сваякі называлі Кацяй, далей некалькі магіл з ліку службоўцаў і работнікаў. Скончылася існаванне чалавека, абдаранага добрым сэрцам, досціпам, здаровым розумам, сімпатычнай знешнасцю. Шчасце яму спрыяла, меў добрую жонку, паслушных дзяцей, здольных да навук, са шляхетным характарам, любімы ўсімі суседзямі - з тым усім, аднак, кепска скончыў, бо страціў веру. Сам яе не меў і дзецям яе не пакінуў, то таксама не спазналі яны шчасця ў жыцці, бо без веры кепска жыць і паміраць.

Не магу нічога не распавесці пра гэтую сям'ю, якую маю добра ў памяці, і так:

Пётр ажаніўся неабдумана ў Пецярбургу, страціў надзею і кепска скончыў, пакінуўшы малую дачушку;

Базыль памёр нежанаты, працуючы ў прыісках на чужых;

Іван пасля заканчэння ўніверсітэта ажаніўся і працуе доктарам у паўднёвай енісейскай тайзе;

Аляксандр, студэнт універсітэта, ажаніўся перад заканчэннем навук, у часы ўладарання Аляксандра II быў замешаны ў справе сацыялістаў і павешаны;

Цімафей, юрыст, перад заканчэннем навук за ўдзел у справе Софіі Пяроўскай быў сасланы ў далёкую Усходнюю Сібір;

Ціхана, майго вучня бачыла 14 гадоў назад у Пецярбургу ўжо як студэнта ўніверсітэта;

пра сёмага брата Інакенція нічога не ведаю;

Юлія, мая вучаніца, скончыла ўніверсітэт са ступенню доктара медыцыны;

наймалодшая Марыя стала фельчаркай.

Бачыла неяк пані Квяткоўскую, Ціхана і Марыю ў Пецярбургу; пасля яшчэ, купляючы білет у Маскве ў касе, сустрэла пані Квяткоўскую і Машу - што цяпер з імі, не маю звестак.

## X

Восенню я атрымала ліст з чорнай пячаткай; была гэта смутная вестка пра смерць маёй сястры Эміліі Урублеўскай, якая памерла ў Вільні. Паведаміла мне пра гэта найстарэйшая яе дачка Марыя. Я перахварэла гэтую вестку і пастанавіла ад гэтага часу жыць і працаваць для асірацелай сям'і, якая аказалася ў крайняй нэндзы пад апекай старой вернай прыслужніцы, заградовай шляхцянкі, далёкай крэўнай нашай маці Анелі Макарэвіч. Дзякуючы яе апецы дзеці не памерлі з голаду і неяк так выйшлі на людзі, а было іх шасцёра. Наймалодшая дачка с.п. Эміліі, Ядвіга Шмердт, памерла, пакінуўшы двухгадовую дачушку Марыхну, якая мае на сёння 11 гадоў і вучыцца ў школе для чыгуначнікаў у Стшамешыцах Івангродскіх. Гэтай Марыхнай апякуецца і вядзе гаспадарку найстарэйшая яе цётка Марыя Хомская, дачка Эміліі, тая, якая прыслала мне вестку пра смерць маці. Апека над сям'ёй, якая засталася пасля памерлай сястры, патрабавала большай зарплаты, а я не была пэўная, ці такую мне маглі б плаціць, паколькі пасля смерці мужа інтарэсы пані Квяткоўскай захісталіся. Таму трэба было шукаць сабе новае месца. Я размаўляла з паняй Вр., шкада мне было пакідаць іхні дом, так што абедзве паплакалі, гаворачы пра нашае расстанне. Я прыняла абавязкі ў панства Гелз для дзвюх дзяўчынак: іхняй дачушкі Альжбеткі, якую звалі Ляляй, і для другой паненкі па суседстве, Воленькі Плотнікавай.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*







У Менску ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў 19-ты том збору твораў Уладзіміра Караткевіча, 608 ст. Наклад - 1200 асобнікаў.

У Менску ў выдавецтве "Беларуская навука" выйшла кніга Алеся Марціновіча "Гісторыя праз лёсы”, Т. 5. 348 ст. Наклад - 700 асобнікаў.







У сеціве размешчаны 7 і 8 нумары электроннага краязнаўчага гістарычна-літаратурнага часопіса “Нясвіжскія каеты”, 72 і 58 ст. адпаведна.

Часопіс можна чытаць на сайтах: nslowa.by, pawet.net, kamunikat.org.







У Менску выйшла кніга Сымона Барыса і Паўла Карузы “Вясельныя песні”. Наклад 30 ас.

У Менску ў выдаўца А.М. Варaксіна выйшла кніга Уладзіміра Барысенкі "І колькі б часу не прайшло...", 176 ст. Наклад 100 асобнікаў.




У гарадзенскім выдавецтве "ЮрСаПрынт" выйшла з друку першая кніга Сяргея Марозава "Сучасныя беларускія даследчыкі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага: біябібліяграфічны даведнік", 290 ст. Наклад 52 асобнікі.




***Невядомы аўтар. Заходні фасад Маламажэйкаўскай царквы. Другая палова XIX стагоддзя***